## *І. Разуменне існасці*

### *Знаёмства*

1

Мы сядзім на беразе Сожа, моўчкі глядзім удалячынь.

У небе куляюцца ці то галубы, ці то чайкі, не зразумець, і лёгкі вецер ахутвае нашыя твары. Рыгор глядзіць у засмужаную далеч, быццам хоча нешта выдзеліць з краявіду, прымружвае вочы, не адводзіць позірку ад нейкае нябачнае кропкі, уздыхае.

Потым праз нейкі час, схамянуўшыся, адарваўшыся ад сваіх думак, прамаўляе:

– Мне так не хапала там, у Горным лагеры, вось гэтага патаемнага шэпту Сожа, які сваімі адвечнымі хвалямі накатваўся на пясчаны бераг. Паветра гэтага, гаючага і чыстага, не хапала. Неба нашага і зорак.

Зноў маўчанне. Я ні пра што ў яго не пытаюся, бо баюся перабіць і разарваць ланцужок яго думак і ўспамінаў, вырваць з нябачнага мне, але знаёмага яму, асяроддзя, толькі слухаю і стараюся запомніць кожнае слова.

Голас у Рыгора Клімовіча ціхі, спакойны, у словах разважлівасць, перакананасць. І словы тыя неўпрыкмет складваліся ў сказы, абзацы. Ён быццам чытаў па памяці старонкі сваёй будучай кнігі і правяраў на слых, ці дасканала і правільна пабудаваны сказы, ці няма ў іх памылак. Рыгор заўсёды прытрымліваўся дасканаласці – як у літаратуры, так і ў жыцці.

У гэты час ён нагадваў мне прапаведніка ці святара, майго старэйшага калегу ў літаратуры з вопытам жыцця, школьнага настаўніка роднай мовы, – ды ці мала на каго ён быў падобны ў гэты момант. Ад яго сыходзіла нейкае боскае святло і цеплыня, і ён шчодра дзяліўся гэтым дарам, гэтым здабыткам. Падумалася яшчэ: з якім бы кепскім настроем хто-небудзь ні прыходзіў да яго, а, пасядзеўшы колькі хвілін побач, адчуў бы, што яго пакінулі і лядайкія думкі, і гнятучы настрой. Значыць, ён яшчэ быў і лекарам. Духоўным лекарам. Не ўсе валодаюць гэтым дарам. Не кожнаму тое дадзена.

Яшчэ не восень, але ўжо і не лета, дні яшчэ не вызначыліся ў сваім календары, як бы спалі, абмытыя цёплымі дажджамі, ласкавым сонцам, лагодным надвор’ем. Перад гэтым прайшлі спорныя цёплыя дажджы і дрэвы, крыху звялыя ад працяглай спёкі, зноў ажылі, і лісцё зашапацела радасна пад прахалодным ветрам.

Ён замаўкае, а потым пацішэлым голасам, быццам баючыся, каб яго ніхто не падслухаў, амаль шэпча:

– Яны і цяпер за маёй спіной. Не абарочвайся толькі, а потым зірнеш. Ён, “мой самы найлепшы сябра”, я яго так называю, неадступна сочыць за мной. Ён сядзіць на лаўцы каля плоту і робіць выгляд, што чытае газету. Мне нават здаецца, што ён пасяліўся нябачна ў маёй кватэры і назірае за мной з вечара да раніцы.

Счакаўшы трохі, не вытрымліваю, кідаю позірк у той бок, куды скіраваў мяне мой субяседнік. “Чытач” не адрываўся ад газеты, але зразумела было, што не ў газетную старонку ён глядзіць, а ў наш бок. Яго позірк і мяне пранізаў наскрозь, як рэнтгенам пранізаў, выяўляючы ў мяне “хібы” савецкага чалавека. Мяне, здаецца, скаланула ад таго позірку.

– Так, дзядзька Рыгор, сядзіць, не спускае з нас вачэй.

– Во і ты цяпер папаў пад падазрэнне, што сядзіш побач са мной. Не баішся?

– Не. Прызнаюся. У Мазыры яшчэ, як жыў там, прызнаўся па вялікім сакрэце адзін кэдэбовец, што мае тэлефонныя размовы праслухоўваюцца. Я не паверыў. Дык ён мне праз нейкі час прынёс дыктафон і пракруціў маю размову, якую я вёў з адным чалавекам па тэлефоне. Папярэдзіў, каб я не гаварыў лішняга, калі з некім размаўляю, стрымліваў свае эмоцыі і не даваў ацэнкі нейкім палітычным падзеям.

– І што? – кісла ўсміхнуўся Рыгор.

– Анічога… Улічыў яго параду, але калі-нікалі, падчас размовы, магу і сказануць: “Таварыш маёр, запісвайце, але не забывайце, што гэта толькі гульня слоў!..”

Рыгор ужо засмяяўся, ацаніўшы і гумар, і тое, як я адношуся да шпігуноў. Адчуўшы, што нам пара развітвацца, дзядзька Рыгор кладзе побач са мною тэчку з паперамі.

– Пакладзі ў свой саквояж. Там мае запісы і ўспаміны. Тое, што ты прасіў. Можаш знаёміцца і месяц, і два. Перапісвай, занатоўвай, мо спатрэбіцца. А потым вернеш. Усё ў адным накладзе. Я давяраю табе, таму і прынёс.

– Дзякую, дзядзька Рыгор. Усё будзе цэлае.

Я паклаў тэчку ў саквояж, трымаў яго на каленях.

Нейкі час яшчэ сядзім на лаўцы, глядзім удалеч, але адчуваем, што гутарка наша скончылася і кожны павінен далей ісці да сваіх клопатаў.

– Каб ты не падумаў, што я хварэю на манію праследвання, то зробім так. Ты застанешся, а я пайду. Пабачыш, ці застанецца “мой лепшы сябра” на месцы.

У адказ ківаю галавой.

Потым назіраю за “аб’ектам”. Як толькі Рыгор адышоў ад мяне колькі крокаў, “усёбачнае вока” пакінула месца назірку і пайшло у той бок, куды пакрочыў мой субяседнік.

Не, Рыгор Клімовіч не перабольшваў, ведаў, пра што гаварыў.

Праз нейкі час пакінуў нашае месца сустрэчы і я – падаўся ў адваротны бок. Але нечага азірнуўся: мне здавалася, што і за мной сочыць “вока”. Мог і заўважыць, як аддаваў мне тэчку з паперамі былы вязень.

Нікога не ўбачыў.

2

Пісьменнік з Гомеля Іван Кірэйчык, які вельмі добра ведаў Рыгора Клімовіча, аднойчы ўзяўся за напісанне яго ўспамінаў. На жаль, не скончыў, былі на тое прычыны. Вось як ён пачынаў іх пісаць:

– Нашая сям’я з 1929 года і да вайны жыла ва ўласным доме на рагу цяперашніх вуліцаў Кірава і Камсамольскай, а тады – Магілёўскай і Аляксандраўскага сквера.

Апошні, забудаваны адна- і двухпавяховымі домікамі, быў вуліцай ціхай і надзіва ўтульнай. Пасярод яе – каштанавая алея. Вечарамі мама любіла пасядзець у ёй на лавачцы. Іншым разам, калі былі дома старэйшыя брат і сёстры, яны бавілі час побач з мамай, а я, самы меншы ў сям’і, гуляў са сваімі равеснікамі пад тымі ж каштанамі.

Пры доме ў нас пад агарод мелася калі пяці сотак зямлі. Ах, як жа любіў я тады са сваіх градак памідоры! Я чакаў з нецярпеннем, калі яны паспеюць, бадай што з такім нецярпеннем, як чакаюць дзеці чароўных дзівосаў ці самага светлага свята. Але заўсёды чамусьці здаралася так, што першы спелы памідор знаходзіў не я, а мама. Яна прыносіла яго ў хату і казала:

– А ў нас паспелі памідорчыкі!

І аддавала тую чаканую радасць мне.

Потым, калі на гарадах ужо ва ўсю ірдзелася ружовашчокая смаката, яна са свежых буракоў варыла дзіва-боршч, запраўляла яго памідорамі… Бацюхны мае, як жа любіў я тыя баршчы! Столькі часу прайшло, а мне ж і сёння ўсё яшчэ помніцца смак і пах іхні, асабліва востра яны адчуваліся мне там, у ГУЛАГу, калі хацелася есці, калі “кішкі марш ігралі”, калі да беспамяцтва кружылася ад голаду галава… Здаецца, я пастаянна трызніў тымі баршчамі, бо і голад праследваў там неадступна, штохвілінна напамінаў пра сябе.

А яшчэ ў нас на агародзе расла вялікая груша баргамот з вельмі дзіўнымі пладамі: пляскаценькімі, круглымі, нібы калёсікі, – ды такімі ж салодкімі, такімі смачнымі!

Калі да мяне заходзілі хлапчукі, маці напамінала мне, каб я не забыў пачаставаць іх нашымі дулямі. Не ведаю, мо і за тыя пачастункі, але да

мяне на вуліцы адносіліся з павагай. Зараз гэтага сорту-гатунку ў Гомелі няма, не чуў пра яго. А шкада – уся дзятва такія грушы лічыла за мёд павабнейшыя.

Яшчэ ўспамінаецца з тых далёкіх часінаў, як аднойчы, калі мне было ўжо дзевяць гадоў, мама ўзяла мяне з сабой на сваю радзіму – у шляхецкую ваколіцу Новыя Цярэшкавічы. Там тады жыла старэнькая бабулька Маліноўская. Маці казала, што ёй 132 гады. Яна ўжо не хадзіла – ляжала ў пасцелі, і да яе людзі вадзілі сваіх дзяцей. Завяла маці і мяне. Думаю, не проста так завяла, не без свайго таемнага намеру. Мяне пасадзілі побач з бабуліным ложкам і мне чамусьці стала вельмі шкада яе, бабу Маліноўскую.

– Як жа завуць цябе, хлопчык? – спытала ў мяне бабуля, і, калі я адказаў, яна паклала на маю галаву сваю руку і, звяртаючыся да мамы, сказала: – Добры ў цябе хлопчык, Дуня. Няхай жыве доўга і багата.

А тады быў там жа, у Нова-Цярэшкавічах, мой дзед Рыгор – мамін тата. Любіў ён мяне без меры, мо яшчэ таму, што я насіў ягонае імя. Ён запрасіў нас да сябе на пасеку і частаваў свежым мёдам. Здзівіла і ўразіла мяне, аднак, не мноства прыгожых вулляў, не пчаліная мітусня каля іх, нават не мёд – еж, хоць расперажыся, як тое, што на пасецы стаяў драўляны крыж з абразком, – і дзед перад ім маліўся, укленчыўшы, раз-пораз схіляючы галаву да зямлі.

Калі ж я пацікавіўся, чаму ён так робіць, а не ходзіць у царкву, пачуў у адказ нешта не зусім незразумелае. Сказаў дзед, што яго царквы няма, што яго царкву разбурылі, знішчылі нелюдзі, а ў тую, што ў вёсцы Церуха, ён не пойдзе, бо яму зручней і лепш маліцца тут, перад крыжам з абразам Божай Маці.

Толькі многа пазней я дазнаўся, што дзед быў уніятам, і што ў іх храме багаслужэнні праходзілі на роднай мове.

Недзе пад той жа час на мяне ўпершыню і зблізку дыхнула ГУЛАГам…

Здарылася тое аднойчы раніцай, калі да нас у хату знянацку, без стуку ў дзверы, без папярэджвання зайшоў незнаёмы чалавек. Быў ён брудны і ў адных лахманах. Маці яшчэ паліла ў печы, якраз перад тым выняўшы з чалеснікаў чыгунок з паранай бульбай для парасяці. Чыгунок параваў на падлозе, і незнаёмец, ні слова не сказаўшы, тут жа ўпаў перад ім на калені і пачаў ліхаманкава хапаць тую бараболю…

Ён, бачна было, ані не кантраляваў сваіх дзеянняў, бо запіхваў іх у рот адну за адной, не звяртаючы на тое, што яна яшчэ не астыла.

Маці напачатку нічога не зразумела, убачыўшы, як чалавек душыцца гарачай бульбай, не могучы яе пражаваць і пракаўтнуць.

– Ой, што вы робіце?! – спалохана войкнуўшы, падбегла да яго. – Гэта ж свіная картопля. Ой, як вы ясце такую? Устаньце, я пакармлю вас чым лепшым. Добра пакармлю, па-людску.

Чалавек, здаецца, не чуў яе. Ён так і не падняўся, пакуль не выграб з чыгунка ўсё да апошняй бульбінкі, да апошняй лушпінкі. Калі ж нарэшце адарваўся ад той страшнай спажывы, маці сказала зноў:

– Пачакайце хвілінку. – Яна прынесла і паклала яму хлеб і сала. Запытала яшчэ: – Адкуль жа ты хоць, галодны чалавек?

Ён, перавёўшы дух, уздыхнуўшы, даверліва паглядзеў на гаспадыню:

– Дзякую табе, жанчынка, што не выгнала з хаты… Я ўцёк з Салаўкоў. Не дай Бог каму трапіць туды, там пекла, там…

І не дагаварыў, зноў цяжка ўздыхнуў і заплакаў.

Маці скрушліва пахітала галавой, аб нечым задумалася. Ён, узяўшы яе руку, дакрануўся губамі.

Дайшоўшы да парога, абярнуўся, нізка пакланіўся і ступіў за парог хаты.

Маці разгублена і спагадліва глядзела ўслед няшчаснаму, цяжка ўздыхала, а тады толькі хапілася рукамі за галаву, наўзрыд заплакала:

– За што ж гэта людзям такая бядота? Чым жа Бога яны прагнявілі?!

Не ведала бедная, не прадчувала нават, што гэткая ж доля і яе меншаму сыну лёсам наканавана, хоць Бога нічым я і не прагнявіў. А я потым думаў, мо найперш зразумеў, што мо таго чалавека да нас Бог прыслаў. Чаму? А каб папярэдзіць, каб сказаць, што чалавека можа ў любы момант напаткаць такая бяда – без прычыны, без вінаватасці, без правіны якой-небудзь… Дзіўна, але пасля таго амаль кожную ноч прыходзіў да мяне ў сны. Прыходзіў, але нічога не казаў, і перад ім стаяў той гаршчэчак – і бульбы ў ім не было…

…Выпала нам такое заданне – ўратаваць калгасную жывёлу, каб яна не трапіла ў рукі немцаў. А гнаць далёка – да Дзмітрава Льгоўскага, – такі маршрут вызначылі ваенкаматчыкі перад намі. Нас было, паганятых, сямёра чалавек. І разам з намі Маша Клімовіч (у нас усе Клімовічы), якая працавала буфетчыцай у выканкаме.

Старшы групы – Якаў – пагнаў гавяду ў Фапін; потым яго і нас падмянілі наступныя…

Мы засталіся з Косцем Клімовічам. Думаем, што рабіць далей. Жанчыны вярнуліся на Гомельшчыну, а нам назад ніяк нельга – горад акупаваны фашыстамі. Рашылі з Косцем падацца на Усход, чулі, што нашы войскі ў Саратаве…

Дайшлі да Масквы. Там, на вакзале, развіталіся з ім. Абняліся, пажадалі адзін аднаму выбрацца з гэтай калатнечы. І як толькі я выйшаў з вагона, у якім застаўся сябрук, да мяне падышлі вайскоўцы, строгім голасам запыталі, хто я і адкуль…

– Рыгор Клімовіч. Гомельскі ваенкамат даручыў нам пагнаць жывёлу за межы вобласці. Нас змяніла другая група. У Гомелі фашысты, туды я не вярнуўся. Прыехаў, каб адшукаць сваіх…

– Документы!

Я пакорпаўся ў кішэнях – ніякіх паперчын, што мне выдалі ў ваенкамаце, не знайшоў – дарогай яны згубіліся.

– Разберёмся! – прамовіў вайсковец і ўзялі мяне пад рукі.

Гэта быў травень… Травень 1943 года. Масква.

Такім чынам я з выконваючага заданне ваенкамата ператварыўся ў арыштаванага. Анізашто я стаў арыштантам. Работнікі НКУС убачылі ўва мне злейшага ворага Савецкай улады, хаця я і выконваў заданне той жа ўлады і яе ваеннага ведамства.

Памясцілі мяне ў нейкі цесны катушок з зарашочаным акном. Праз колькі гадзін да мяне прыйшоў лейтэнант з тэчкай – следчы. Дастаў з яе чысты аркуш паперы, паглядзеў пільна на мяне:

– Откуды прибыли в Москву? С каким заданием?

– Заданне я атрымаў ад ваенкамата – гнаць жывёлу да Львоўшчыны, і больш я ніякіх заданняў не атрымліваў.

– Значит, вы гитлеровский шпион. Видно невооружённым глазом.

– Ніякі я не шпіён… Мне выдаў ваенкамат даведку, ды я яе згубіў.

– Любую “даведку” можно подделать…

……………………………………………………

Пасля трох сутак знаходжання за кратамі КДБ, да мяне прыйшоў лейтэнант, абвясціў:

– Ты вольны. Твае паказанні пацвердзіліся. Але больш без дакументаў не пападайся.

– Добра. Зразумеў, – адказаў я радасна, і тут жа выкаціўся з таго шэрага памяшкання.

…………………………………….

Але ж як здараецца ў жыцці? Нічога не падазраеш, упэўнены ў сабе, а з-за вугла д’ябал выскачыць і сядзе табе на спіну.

Адправіўся зноў у Маскву. Пры мне была даведка, што я студэнт навучальнай установы, пры сабе меў “корачкі”. А калі заснуў у вагоне, то нехта выцягнуў з кішэні гаманец з даведкай. Грошай было не шкода, ды і грошай тых кот наплакаў, а вось дакументы…

Як толькі выйшаў з вагона, мяне адразу падхапілі “пад белы ручкі” вайскоўцы, учапілі так, што і не вырвешся, запатрабавалі:

– Документы! Кто и откуда?

Як ні апраўдваўся, мне не паверылі. Хаця ўдакланіць, хто я і адкуль, не было для іх ніякай цяжкасці – сувязь з горадам, дзе я вучыўся, існавала.

Следчы хутка склаў неабходныя паперы, падаў мне іх, каб паставіў свой подпіс. Я адмовіўся. Што вельмі не спадабалася лейтэнанту. Абмацюкаўшы мяне, выйшаў з пакойчыка.

А потым судзіла мяне “тройка”. І слова не далі ўставіць – яны вельмі спяшаліся, на чарзе былі і іншыя людзі, якіх, як і мяне, схапілі на вакзале Масквы.

Так што адважвалі кожнаму з нас закратаваны і задратаваны “рай” – без жалю, літасці і сораму хаця б перад уласным сумленнем…

Потым дададуць і яшчэ, не шкадуючы, не сумняваючыся ў правільных сваіх паводзінах і дзеяннях. Знойдуць за што, нават тады, калі вакол мяне ўжо ўсё крычма крычала, што я ні ў чым не вінаваты…

Карацей кажучы, з тым ідыёцкім ярлыком – “гітлераўскі шпіён” – і загрукацеў я, зялёнае хлапчанё, “От Москвы до самых до окраін”, заляскацеў у самае што ні на ёсць пекла, ці не акурат у ягоную найгалоўнейшую смалакурню, у самую пашчу.

Дык вось там, за калючым дротам, у лагеры, мне, халоднаму і галоднаму, успаміналіся і дзедаў мёд, і нашыя пляскаценькія грушы, і маміны баршчы, прыпраўленыя памідорамі, – усё разам і ўпаасобку, і здаваліся яны мне здалёку прысмакамі па меншай меры з царскага стала.

Зрэшты, не выходзіў з памяці і той бедалак, што ўцякаў з Салаўкоў і некалі ў нашай хаце, стоячы на каленях, прагна хапаў з чыгунка парасячую бульбу. О, я таксама паеў бы там гэтакай, і палічыў бы яе найлепшым дэлікатэсам.

Дзіўна, але я сустрэў яго і там, на зоне. Да кропелькі быў падобны да таго, “нашага”. Але я не падыходзіў да яго чамусьці, баяўся, баяўся, што гэта мог быць “ён”, а мне так не хацелася, каб ён вярнуўся зноў у тое пекла. Я жыў спадзяваннем, што ён здабыў сабе свабоду…

Але ж дазволю сабе і яшчэ раз зазірнуць у сваё далёкае з Гомеля. Дзеля таго, каб хоць знешне акрэсліць, адкуль і з чаго пайшло яно тое, што стаўся я вязнем ГУЛАГу-ГАРЛАГу.

Жылі мы небагата. Як і ўсе людзі ў той час. І таму, скончыўшы сямігодку, каб і далей не сядзець на карку ў бацькоў, мусіў я паступіць у індустрыяльна-педагагічны тэхнікум. Там давалі стыпендыю, праўда, толькі выдатнікам.

Але я стараўся, з усіх сілаў стараўся выбіцца ў першыя шэрагі навучэнцаў. І з вучобай праблемаў не ўзнікала, так што, згодна загада па тэхнікуме (ён і па сёння захоўваецца ў Гомельскім гарадскім архіве), стыпендыя мне была гарантавана аж па 1-га студзеня 1942 года.

Вядома ж, я быў як не на сёмым небе, а матуля дык, мусіць, яшчэ і вышэй.

Усе радаваліся за мяне. Бо ведалі, што я ужо цвёрда стаў на свой шлях, што буду крочыць па ім без стомы, аддаючы сябе абранай прафесіі.

Каб жа так…

І палыхнуў пажар па краіне. Яго смяротнае вогнішча нішчыла не толькі гарады і вёскі, а і душы людзей.

Заставацца ў Гомелі я не мог. Таму рашыў падацца ў дарогу.

Маці пярэчыла, абдымала мяне, плакала, умольвала застацца, абяцала, што як-небудзь пражывем. Але я стаяў на сваім.

– Няхай ідзе, – нечакана падтрымаў мяне бацька. – Бо яшчэ невядома, што ўсіх астатніх нас тут чакацьме. Можа там ён здабудзе лепшую долю, і нам спакайней за яго будзе…

І я з хатулём за плячыма пакіраваў у свет. Пайшоў на Усход.

Пайшоў у нязнанае і невядомае. Ох, і нялёгкая ж ношка была мая, не толькі тая, што ціснула на плечы, але і тая, што яшчэ свежа білася ў памяці і ўжо горка смылела ў душы.

Я нёс пры сабе, акрамя таго, што маці наладкавала ў хатуль, матуліны словы, заплакана сказаныя ёю падчас развітання…

– Абавязкова вяртайся, сынок, дамоў. Вяртайся. Чакаць му… Усе будзем чакаць.

– Абяцаю, мама, – кажу я і трымаю нейкі час галаву ў яе на плячы.

Такая і запомнілася мне – заплаканая і гаротная. Назаўсёды запомнілася…

Даруй мне, мама, што не стрымаў сваё слова – не вярнуўся, як абяцаў. Не па сваёй віне затрымаўся.

Але я помніў, мама, твой наказ, памятаў тваю заўсёдную ласкавасць і дабрыню; успаміналася ты мне – і кожны раз чамусьці бачылася, што сядзіш ты, заплаканая, на лавачцы ў каштанавым скверы на нашай вуліцы, – чакаеш мяне.

Там я думаў, мама, пра цябе і нават у самы невыносныя часіны рабіў усё магчымае і немагчымае, каб выжыць і вярнуцца, і ведаў, і верыў, што з маёй справай усё ж разбяруцца, выпусцяць на волю…

Сёння ж думаю: ці не твой светлы вобраз ды яшчэ гэтая вера і ўратавалі мяне там, у ГАРЛАГу, калі жыць наагул ужо не хацелася, дый немагчыма было там жыць, – трымаўся на зацятай пэўнасці: разбяруцца, выпусцяць з кіпцюроў драпежнай сістэмы…

Не разабраліся, не захацелі нават і разбірацца, і – не выпусцілі, яшчэ глыбей запусцілі свае крывавыя кіпцюры сталінскія каты ў маё спакутаванае цела…

Дзіўна, але ў тым пекле я яшчэ бачыў светлыя сны.

У сне я лётаў, мама! Ды ўсё да цябе ляцеў, мама… Нават маршрут пракладваў у тым сне, каб як найкарацей даляцець да цябе, ды з вышыні палёту ўбачыць, як ты сядзіш на лавачцы і чакаеш мяне.

Не даляцеў, не змог, не паспеў – абламалі мне, любая, каты крылы. Таму даруй, як можаш, даруй, – я стараўся даляцець да цябе.

3

… Напрыканцы лета 1943 года нашыя войскі вызвалілі Навазыбкаў.

Адразу ж маці я паслаў ліст, расказаў пра сябе.

Толькі позняй восенню яго даставілі на нашую вуліцу вайсковыя часці, якія ўвайшлі ў Гомель.

Але – маці ўжо не было ў жывых.

Мне адпісала нашая суседка. Падрабязна расказала, як гітлераўцы забіралі бацькоў, як забілі іх толькі з-за таго, што западозрылі іх у сувязі з партызанамі. Здарылася тое за некалькі месяцаў да вызвалення горада. Бацьку расстралялі, маці ж забілі ўдарам прыклада аўтамата, нават і не забілі – напаўзабілі, бо яшчэ два дні, як апавядала суседка, цела яе не астывала.

У матулі ўсё яшчэ цеплілася жыццё, але ўратаваць яе нашым людзям не ўдалося – забойцы нікога да яе не падпускалі. Пацяшыліся прышлыя садысты, назіраючы, як у пакутах канае чалавек.

Весткі з дому мяне заспелі як настрашнейшы, як самы найкаварнейшы ўдар у спіну.

Шакіраваны той нечаканасцю і бесчалавечнасцю, я не мог знайсці сабе месца, перастаў што-небудзь разумець. То ж быў якісьці абсурд – мяне ў турме трымалі камуністы, а бацькоў забілі фашысты.

Так што даўшы волю ўяўленню, міжволі думалася ўжо і так: калі камуністы і фашысты непрымірымыя ворагі, то атрымлівалася, што я дапамагаў апошнім забіваць сваіх бацькоў, сваю маці.

Ды такое ж прызнаць не мог ні адзін чалавек, нават дзікун самы апошні!

І тады я напісаў заяву ў Вярхоўны Савет. Пісаў прыблізна наступнае: паколькі я ні ў чым не вінаваты, то падпарадкоўвацца лагернай адміністрацыі болей не буду, таму што якое б там ні было падпарадкаванне з’яўляецца фактычным прызнаннем сваёй віны.

Мяне адгаворвалі, раілі не рабіць гэтага, але з радзімы ад чужых людзей да мяне ішлі ўсё новыя і новыя лісты з працягам аповедаў аб усіх тых жахах, што зведалі землякі за часы акупацыі, што выпадала на долю маіх бацькоў.

Частку тых допісаў пры канцы 1943 года надрукавала Свярдлоўская абласная газета “Уральский рабочий».

Той нумар быў вывешаны ў нашым лагеры, ну а неўзабаве мяне за адмову падпарадкоўвацца лагернай адміністрацыі, адправілі на зладзюганскі “штрафняк” у Багаслоўскія руднікі, дзе, паводле трапнага выказвання зэкаў, бывалых лагернікаў, са ста  чалавек 99 плакалі і адзін толькі смяяўся.

Даведаўшыся, аднак, хто я такі і як трапіў да іх, адпетыя зладзюгі злітаваліся нада мной, можна сказаць, нават захавалі мне жыццё.

Атрымлівалася, што злодзеі былі больш чалавечнымі, чым чэкісты, і паступова я прыйшоў да свядомай высновы, што камунізм і фашызм – гэта па сутнасці адно і тое ж, і стаў на шлях непрымірымага змагання з антычалавечым рэжымам.

… Толькі ў жніўні 1956 года камісія Прэзідыума Вярхоўнага Савета зачытала мне сваё рашэнне: *“за адсутнасцю складу злачынства вызваліць са зняццем судзімасці”.*

Ад горкай крыўды ў мяне перахапіла горла – мне хацелася штосьці прамовіць у адказ, ды я не змог, язык скамянеў і адмаўляўся рухацца.

Я і ўстаць з табурэткі не мог – адняло ногі.

Адно што я бачыў перад сабой твары, але яны мне падаліся не чалавечымі – звярынымі, з вострымі ікламі…

Пасля вызвалення я вярнуўся на радзіму, у Гомель.

Мае землякі праявілі да мяне спагаду, дапамаглі абуладзіцца ў жыцці, параіўшы пры гэтым забыць страшнае мінулае. Дадалі яшчэ, што з такім грузам і жыць будзе цяжка, найлепш глядзець з аптымізмам у заўтрашнія дні.

Але тое было ўжо не ў маіх сілах.

Я нічога не забуду.

Такое не забываецца…

Мне цяжка пра гэта расказваць, тым больш пісаць, але і маўчаць не выпадае: памяць грукаецца ў маю свядомасць усё часцей і часцей, быццам падштурхоўвае мяне да дзеянняў, нібы загадвае, каб, як бы цяжка тое ні было, успомніць пра тыя здзекі, успомніць, хто іх чыніў, прозвішчы ўспомніў і запомніў на ўсё жыццё.

Каб наступныя пакаленні ведалі пра тое.

І аўтараў тых здзекаў.

Каб не дапусцілі таго, каб усё зноўку некалі паўтарылася.

2

Рыгор Клімовіч заўсёды нешта пісаў. Нікому толькі тое не паказваў.

Але найбольш актыўна пачаў займацца літаратурнай творчасцю пасля вызвалення, толькі ўжо ў той час, як на арэну гісторыі выйшаў Міхаіл Гарбачоў, калі стала вальней дыхаць, калі не зашывалі суровымі ніткамі рот іншадумцам…

Патыхнула свежым паветрам.

Верылася, што тое надоўга, назаўсёды.

*З літаратурнай спадчыны пісьменніка Рыгора Клімовіча.*

………………………………………………………….

**_Выпрабаванне волі._**

***Уладзімір Паўлавіч Белы…*** Хто ведае, а хто і не ведае гэтага цудоўнага чалавека, але мой абавязак расказаць людзям пра яго.

Ён не карэнны жыхар Беларусі, але Гомель ён лічыць сваёй адзінай Радзімай. І хаця гэтая Радзіма абышлася з ім, як злая мачыха ці злы вораг, ён, аднак, не губляў любові да яе.

І куды б не закідваў яго лёс, ён душой імкнуўся да роднага Гомеля. Які стаў для яго родным і блізкім. І такое імкненне было мацней тых няўзгодаў, што наканавала яму доля і лёс.

Думкі пра вяртанне да Гомеля сагравалі душу нават у самыя змрочныя і горычныя дні. Гэтыя думкі былі для яго сардэчнай марай, дзеля дасягнення якой ён знаходзіў у сабе сілы трываць усё, што выпадала яму перацярпець.

Гомель значыў для яго вельмі многа. Ён зіхацеў у цемры лёсавызначальнай зоркай. І таму Уладзімір Паўлавіч мае рацыю, калі сцвярджае, што радзіма не там, дзе нарадзіўся, а там, дзе сэрцам адчуў яе.

А нарадзіўся Белы ў 1915 годзе – у далёкай Іманчжурыі. У горадзе Харбіне ў сям'і рабочага. А пасля 20-га года савецкай рабочай Цібетска-Квантунскай Усходняй чыгункі (КВЖД). Жылі рабочыя, так бы мовіць, няблага. Заробкі былі добрыя, у крамах мелася ўсё неабходнае, – так што яны не ведалі ні голаду, ні холаду, якія з пачатку дваццатых гадоў лютавалі на ўсім неабсяжным абшары Савецкай Расіі. Там быў Кітай, і падзеі ў Расіі не адбіваліся на становішчы і жыцці рабочых гэтай чыгункі Яны працягвалі жыць па-ранейшаму, а калі і марылі пра што, то толькі пра лепшые і звязвалі гэтыя свае мары з дзецьмі, якія, падрастаючы, ішлі працаваць на чыгунку і сваім заробкам павялічвалі сямейны дастатак.

Калі Валодзьку споўнілася чатырнаццаць год, бацькі выправілі яго на працу. Ён і сам жадаў таго, яшчэ раней мог стаць рабочым, але не дазваляў узрост, – бо хацеў як раней пачаць дапамагаць бацьку наладзіць лепшае жыццё сям'і. Падрасталі сёстры, якім прыйшла пара выходзіць замуж. Усё, здавалася, наладжвалася, але ў самы нечаканы момант усё перавярнулася, перайначылася…

Нечакана памірае бацька. Неўзабаве распачынаецца савецка-кітайскі канфлікт. Савецкі ўрад вымушаны быў прадаць Кітаю чыгунку. А 35 тысячаў савецкіх грамадзянаў дэпартавалі ў СССР. Дзе потым яны бу-

дуць асуджаны як японскія шпіёны і этапіраваны у ГУЛАГ. Як будзе сказана – на перавыхаванне. А калі дакладней, то на поўнае вынішчэнне.

Не абышло гэтае гора і сям’ю Белых.

Напачатку, як яны прыбылі ў СССР, спыніліся ў Навасібірску. На той час горад быў аб’яўлены усесаюзнай будоўляй. І маці, і Валодзя спадзяваліся знайсці там працу з нейкім заробкам. Але тое не ўдалося.

Будоўля вялася пераважны ссыльнымі і зняволенымі Сіблага, а прэстыжныя месцы на ёй займалі чэкісты і былыя люмпены, якія супрацоўнічалі з чэкістамі. Белыя, якія прыехалі адтуль, з буржуазнай Манчжурыі, былі тут непатрэбныя.

Лічыліся асобамі падазронымі і непажаданымі, таму добрай, хаця б якой прыстойнай працы, ім не давалі, і калі, нарэшце, тое стала відавочна, яны болей не сталі спакушаць свой лёс і пераехалі да старэйшай сястры Валянціны, якая ўжо тры гады як пабралася з беларусам Іллёй Жалезняковым. Жыла ў Гомелі.

Набылі невялічкі домік у Навабеліцы, пры якім быў сад і агарод.

У параўнанні з Навасібірскам Гомель паказаўся Валодзю культурным еўрапейскім горадам. Радавалі чыстыя зялёныя вуліцы, добраўпарадкаваныя дамы, скверы і асабліва парк.

А першым уражаннем, якое назаўсёды запала яму ў душу – гэта пах смажанай рыбы. Амаль такі ж самы пах, з якім ён сустрэўся ў Харбіне, і які памятаў з дзяцінства.

Удыхнуўшы гэты незвычайны водар, ён адчуў сябе як бы тым чалавекам, які вярнуўся на радзіму, – і тое адчуванне болей не пакідала яго.

Гомель стаў яго Радзімай.

Неўзабаве ён знайшоў працу – уладкаваўся электразваршчыкам на прадпрыемстве “Гомсельмаш”. Адразу ж набыў сяброў, якія ўцягнулі яго ў розныя мерпрыемствы – спартыўныя і культурныя, далучыўся цалкам да грамадскага жыцця завода.

Жыццё спакваля набывала сэнс. Пачаў ужо думаць над тым, каб паступіць у чыгуначны тэхнікум, бо да чыгункі прыкіпеў душой і сэрцам, і ведаў, што без навукі туды і совацца не след.

Начамі праседжваў за падручнікамі, вывучаў неабходныя прадметы, асвоіў школьную праграму за кароткі час.

У марах сваіх ён ужо лётаў на крылах, такім чынам набліжаючы сябе да запаветнай мары.

Калі ж падаў належныя дакументы, у прыёмнай камісіі сказалі, што будуць вывучаць яго дакументы, а потым прымуць рашэнне. Ён не адчуваў за сабой ніякай правіны, ніколі не быў звязаны з падазронымі групоўкамі, адно што ўдзельнічаў у спартыўных мерапрымствах ды прымаў удзел у мастацкай самадзейнасці.

Ведаў, што не зрабіў нічога дрэннага ні людзям, ні дзяржаве.

Ён проста хацеў быць карысным сваёй краіне і імкнуўся да навукі. Але нехта, і той "нехта" быў тым усёбачным вокам, які глядзеў у зямлю на сто метраў, мо і глыбей, – убачыў у ім злоснага ворага Савецкай улады. А ворагаў улады трэба…

Яму і ў галаву не прыходзіла, што ягоны асабісты лёс, як і лёс усіх "каважэдзінцаў" (КВЖД) быў даўно прадвызначаны "пільнымі работнікамі" НКУС. Для іх яны былі ўсе вінаваты ў тым, што мелі "неасцярожнасць" жыць у буржуазнай Манчжурыі.

І той "віны" ім даравацц не маглі.

У апошні месяц 1937 года першай арыштавалі сястру Валянціну, а пазней і яе мужа Іллю Жалязнякова. І з таго часу ні ад іх, ні пра іх не было аніякай весткі, ніякія чуткі не далятали да родзічаў, – нібы выпарыліся, нібы растварыліся ў шэрым тумане сталінскага часу…

Толькі потым, праз дзесяцігоддзі, стане вядома, што іх расстралялі пад Гомелем – на 9-ым кіламетры па Чарнігаўскай шашы. А тады Валодзя імкнуўся знайсці іх, але неўзабаве, у ноч з 12-га на 13-ае сакавіка таго ж, укрыжаванага, 1938 года, быў арыштаваны і ён сам…

Першы допыт. Старшы лейтэнант Драздоў, усмешлівы, вясёлы, быццам не сур'ёзнай працай займаўся, а нейкай гульнёй, адразу прапанаваў:

– Если будуете сотруднчать со следствием, мы сохраним вам жизнь, а иначе…

– Что – «иначе»?

Драздоў абтрос попел з папяросіны, хмыкнуў:

– … иначе – дорога на тот свет.

Адным словам, гульня ў кошкі-мышкі.

Белы адказаў не адразу, а ўзважыў усё "за" і "супраць". Зрабіў выгляд, што абдумвае прапанову "ката", спытаў:

– И что я должен сделать?

Следчы пасур'ёзнеў, адчуў, што зачапіў арыштаванага на кручок, адказаў:

– Признайтесь, что, когда вы жили в Харбине, вас завербовала японская разведка. И потом вас заслали в СССР как японского шпиона.

– И всё? – здзівіўся Валодзя.

– Да, всё. Очень всё просто. Суд примет к сведению ваши признания и судьба ваша будет облегчена, – паабяцаў следчы. – Ну и должны указать, кого ещё из ваших товарищей завербовала японская разведка.

Але Уладзімір Белы рашуча адмовіўся паклёпнічаць не толькі на самога сябе, а і на сваіх таварышаў, быў упэўнены, што для суда лепей сцвярджаць праўду, чым хлусню.

Але тая ўпэўненасць юнака была памылковай, бо справу яго належала разгледзець не проста суду, а савецкаму ілжываму суду, які ўсведамляў праўду як неабходнасць класа, а па той час такой неабходнасцю з'яўлялася ахова сталінскага рэжыму, і таму следчы, дамагаю-

чыся ад Белага, каб той падпісаў паклёпніцкі самаагавор, здзейсніў, дзейнічаў згодна са сталінскай «праўдай».

На вялікі жаль, Уладзімір Белы гэтага не разумеў.

І калі яго білі, калі ночы напралёт прымушалі сядзець на краёчку, умацаванай у падлогу, табурэткі, ён толькі да болю сціскаў зубы і цярпеў, спадзеючыся ўсё ж, што рана ці позна следчы зразумее, што ён ні ў чым не вінаваты і перастане яго катаваць.

Але следчы НКУС, як і ўсе следчыя гэтай карнай сістэмы, не разумеў праўды ахвяраў. У іх была свая праўда. І, працягваючы дабівацца ад Уладзіміра прызнання гэтай, сваёй, праўды, следчы загадаў змясціць яго ў парылку – апошняе савецка-энкавусаўскае вынаходніцтва гомельскіх чэкістаў.

Парылка тая знаходзілася ў сутарэнні турмы іх ведамства па вуліцы Білецкага і ўяўляла сабой некалькі адзіночных камер – з другой па пятую, у якія залічвалі па дваццаць тры, а іншы раз і болей чалавек. А ўсё для таго, каб людзі, шчыльна прыціскаючыся адно да аднаго, не змаглі ні прысесці, ні павярнуцца, а толькі льга стаяць нерухома.

Не было і вентыляцыі ці якой шчыліны ў гэтых камерах не было. Дыхалі тым, што самі выдыхалі… Адзінае з кратамі акенца выходзіла на калідор, і на тое акенца наглядчыкі ставілі конаўку з кіпнем, – так што праз нейкі час у той камеры дыхаць было немагчыма. Звычайна людзі, змешчаныя туды, не вытрымлівалі болей за паўтара сутак і прасіліся да следчага, дзе падпісвалі ўсё, што ім падсоўвалі.

Але здаралася, што там аказваліся і прынцыпова-упартыя, якія лічылі лепш памерці, чым пайсці на саступкі з сумленнем. Такіх памерлых у парылцы наглядчыкі выцягвалі на калідор і клалі на цэментавую падлогу перад камерай, каб жывыя бачылі, што іх чакае, калі будуць упарціцца.

Дамагаючыся прызнання сваёй праўды, каты не грэбавалі ніякімі сродкамі, нават здзекам над смерцю і, дэманструючы гэты здзек, яны як бы імкнуліся пераканаць вязняў, што яны вольныя ў іх жыцці і смерці, што ў вязняў няма іншага выйсця, як падпарадкавацца іх злачыннай волі.

Аднак некаторыя вытрымлівалі здзекі, трацілі прытомнасць, амаль развітваліся з жыццём, але не ставілі свае подпісы пад паклёпам. Да іх ліку адносіўся і Уладзімір Белы. Ён быў фізічна загартаваным, таму вытрымаў у той парылцы трое сутак.

Калі ж яго зноў выклікалі на допыт, калі следчы зноў падсунуў яму паперы з паклёпам на самога сябе, ён зноў рашуча адмовіўся тое рабіць.

– Подпишешь? – скрозь зубы працадзіў раззлаваны следчы.

Белы адмоўна пакруціў галавой.

І на гэты раз загадаў пасадзіць яго ў халодны карцэр, які знаходзіўся глыбока пад гаражом.

Там было так холадна, што наглядчык апранаўся ў кажух і валёнкі. У тую камеру Белага адправілі амаль голага – толькі ў спадніках. Сцены і столь спрэс у інеі. Але тое не вельмі напалохала юнака, ён быў нават рады, што можа надыхацца свежага паветра. І пасля таго, як правёў у парылцы некалі начэй без сну, адразу ж паваліўся на цэментавую падлогу і заснуў.

Аднак, спаў нядоўга. Пранізлівы холад прымусіў ускочыць на ногі і шукаць нейкага паратунку. Але паратунку не было і, тупаючы па падлозе карцэра, ён дрыжэў і калаціўся ад холаду, зуб на зуб не пападаў. Амаль суткі тупаў і "прадаваў дрыжыкі", а калі яго зноў прывялі да следчага, то адчуў не страх вярнуцца ў тыя карцэр ці парылку, а нянавісць да ката. І таму замест адказу на прапанову падпісаць пратаколы допыту, запытаў з выклікам:

– За што вы забілі сястру маю і Іллюшу Жалязнякова? Ніяк не можаце крыві напіцца?

І з таго, як ён вымавіў сваё пытанне, ды перайшоўшы яшчэ на беларуску мову (паспеў трохі ёй навучыцца), следчаму стала зразумела, што пасля парылкі і карцэра ён стаў яшчэ больш упарты і настойлівы, чым быў да гэтага. Катаванні на яго не дзейнічалі, а наадварот – яшчэ больш загартоўвалі.

І тады старшы лейтэнант Драздоў на вачах з вясёлага і бесклапотнага чалавека ператварыўся ў нейкую злосную істоту, звера, адно клыкоў не ставала. Нават заскрыгатаў зубамі ад таго, што ніяк не мог дамагчыся свайго.

У запасе быў і яшчэ адзін прыём – турма. Ды не сама турма, а тыя, хто там знаходзіўся – вязні.

Для гэтага Валодзю Белага змясцілі ў агульную камеру, у якой знаходзілася больш трыццаці чалавек. А перад гэтым Драздоў сам завітаў у камеру, папярэдзіў вязняў:

– Если вы за ночь не заставите новенького подписать протокол допроса, то к утру вы все будете расстреляны. Так что выбор за вами.

І потым толькі ў турэмную камеру завялі ўпартага Белага.

Вязні зірнулі на яго насцярожана і недаверліва. Адзін з іх раскрыў перад Валодзем сакрэт знаходжання яго сярод іх. І таму ён зразумеў хітрыкі старлея, перад ім паўстала дылема: ці падпісаць прысуд самому сабе ці, адмовіўшыся, як і раней, паставіць свой подпіс, падставіць пад рулі сталінскіх катаў тры дзясяткі вязняў… Толькі інквізітары дваццатага стагоддзя маглі дадумацца да такога маральнага выпрабавання.

– Добра, я падпішу! – абвясціў ён сукамернікам. – Такім чынам заб'ю сам сябе.

Усе маўчалі, пачуўшы яго словы. Тым самым выказалі сваё адабрэнне.

Калі ён зноў сядзеў перад следчым і знаёміўся з паперамі, якія расклаў перад ім ужо зноў вясёлы Драздоў, прачытаўшы іх, кісла ўсміхнуўся:

– Ну і фантазёры! Раман можна пісаць з гэтага панавыдумлянага пратакола.

І, узяўшы ў руку з чарніліцы ручку, на трох паперах паставіў свой подпіс. Падпісваў, а ў грудзях неспакойна грукала сэрца, адбівала ўдары ў такт думак: “Ка-ты, га-ды…”

– Давно бы так, а то строит из себя Данко, – папракнуў радасна следчы.

“Дрозд”, так называў яго ўжо Белы, адвёў яму ролю ахвярнага казла ці цяляці, паклаўшы на вагі жыцці трыццаці і яго – аднаго. І энкавусаўскі Бог, не, дакладней, Сатана прыняў яго ахвяру: пастановай ОСО (особое совещание) НКУС СССР ад 1938 года Уладзімір Паўлавіч Белы быў асуджаны па артыкуле КРД (контр-рэвалюцыйная дзейнасць) на 10 гадоў пазбаўлення волі.

І для адбывання пакарання восенню таго ж года этапіраваны ў УсьцьвымЛаг (княжпагост, Комі АССР).

Адседзеў Уладзімір Паўлавіч, так бы мовіць, ад званка і да званка, – усе дзесяць год. Працаваў на лесапавеле, на будоўлі, капаў магілы лагерным сябрам, якія памерлі ад голаду і хваробаў, пастаянна сам галадаў, мёрз на лютых маразах і завеях…

І ўсе гады пісаў лісты да высокіх савецкіх інстанцыяў, даводзячы, што ён ні ў чым не вінаваты.

Слёзы капалі не з вачэй, плакала яго сэрца ад несправядлівасці, што так жостка і бесчалавечна абышліся з ім…

Але, як вядома, Масква слязам не верыць. І не паверыла, прачытаўшы яго шчырыя і балючыя радкі. На ўсе яго допісы прыходзіў стандартны адказ: “осуждён правильно”.

А пасля таго, як ён вызваліўся з лагера, як крымінальнага злачынцу этапавалі ў Краснаярскі край на бестэрміновае пасяленне…

І толькі пасля смерці галоўнага ката і забойцы Сталіна заглянула сонца і ў яго аконца.

Справядлівасць, нарэшце, была аднаўлена.

Яго рэабілітавалі і з края смутку і пакут ён вярнуўся на радзіму – у Гомель.

Усё жахлівае і пражытае, здаецца, засталося ў мінулым. Але яно не знікла, і па сёння вярэдзіць душу, працягвае наносіць раны на сэрца. Крывавыя раны.

Пры адкрыцці памятнага крыжа ахвярам сталінскага генацыду на 9-м кіламетры Чарнігаўскай шашы старшыня Гомельскай гарадской рады Святлана Гальдадзэ ад імя ўлады выказала шкадаванне і спачуванне загінулым за тыя злачынствы, што наладзіла савецка-камуністычная дзяржава. І прызнала генацыд сталінскага рэжыму.

...Я стаю побач з Валодзем Белым. Бачу, як па яго твары сцякаюць слёзы. Гэты мужны чалавек плакаў, плакаў па сваёй маладосці, плакаў ад гора, што яго дзяржава адправіла яго на Галгофу Сатаны.

Я ўзяў яго руку і моцна сціснуў. Нічога не сказаў яму. Між намі вялі дыялог нашыя сэрцы.

Як кажуць, кроў людская – не вадзіца. Яна ўмее помсціць.

Белы не жадае сам помсты, але кожны з нас ведае, што помста прыдзе да кожнага, хто забіваў невінаватых.

Прыдзе.

Бо нельга перамагчы праўду.

5

## *Сябра мой, Цярэнця…*

Паводле падлікаў, якія зрабіў Змітро Панін – былы вязень Вятлага і Стэплага, інжынер, пісьменнік, даследчык, – усяго ў сталінскіх лагерах смерці было загублена каля 50 мільёнаў чалавек.

1917-1921 гг: расстраляна, закатавана, зморана голадам – 6 млн. чалавек.

1922-1928: вынішчана рэшткаў саслоўяў, святароў і духоўнікаў – 2 млн. чалавек;

1929-1933: ліквідацыя кулакоў, – 15 млн. чалавек;

1934-1941: растрэлы ў турмах, масавыя растрэлы ў лагерах, заморана голадам у лагерах – 7 млн. чалавек;

1941-1942: вынішчэнне зняволеных, заморана голадам – 7,5 млн. ч.;

1943-1945: смерць у лагерах ваеннага часу – 5 млн. чалавек;

1946-1953: смерць у лагерах і мірнага часу – 6 млн. чалавек…

ГУЛАГ, як сведчыць Зміцер Панін і тысячы былых палітвязняў, з’яўляўся гіганцкім канвеерам смерці, на якім вынішчалася не толькі інтэлектуальная эліта грамадства, але ў пераважнай большасці лепшая частка рабочых і сялянаў.

Да ліку апошніх адносіцца і

***Цярэнця Васільевіч Косар.***

Нарадзіўся ён у 1908 годзе ў вёсцы Орвічы, што стаіць па-над Прыпяццю ў Хойніцкім раёне. Вёска ціхая, асабліва нічым не выдзялялася сярод іншых паляшуцкіх паселішчаў.

І жылі ў той вёсцы людзі, у якіх не было іншай мары, як пра магчымасць працаваць на сваёй зямлі ды і карыстацца здабыткам сваёй працы – мець высокія ўраджаі і жыць з гэтага. Гэткая мара, калі можна так сказаць, і была іх галоўнай і адзінай палітыкай.

На чужое яны не квапіліся, чужыя межы не парушалі і таму не разумелі, чаму гэта ў свеце міру няма. Войны ды захопы чужых тэрыторый…

Калі Цярэнцю было з гадоў шэсць, пачуў, як лементавалі ў вёсцы жанчыны. Іх плач, іх боль пранізваў, здаецца, душы аднавяскоўцаў, але найбольш яго, Цярэнцю. То жанчыны праводзілі на вайну сваіх блізкіх – сыноў і мужоў, быццам іх сэрцы адчувалі, што не ўбачаць іх ніколі…

Потым чые толькі войскі не перабывалі ў вёсцы – расейцы, немцы, палякі, – і ўсе выдавалі сябе за вызваліцеляў, і пры гэтым рабавалі ўсё, што трапляла ім на вочы.

З-за гэтага рабаўніцтва сяляне ледзьве перабіваліся з хлеба на квас. Асабліва пакутавалі дзеці. Дзятва пастаянна хацела есці, адмаўляючыся разумець, чаму гэта іх бацькі так цяжка працуюць, а з гэтага нічога не маюць.

На ўсё жыццё Цярэнця запомніць тое ваеннае ліхалецце, хаця і потым жыццё не песціла яго. У вайну не стала маці. А ў 1925 годзе з-за жыццёвых пакутаў памёр і бацька, пакінуўшы трое сірот, старэйшым з іх быў Цярэнця.

У свае семнаццаць год ён мусіў стаць гаспадаром. Да сялянскай працы яго не трэба было прывучаць – ён зведаў яе з маленства. І засвоіў у сталых і вопытных гаспадароў яшчэ і рамяство цесляра. І тады ў хаце пачаў з’яўляцца такі-сякі дастатак.

Жыццё пакрысе пачало наладжвацца, праца прыносіла плён. Усё наладжвалася, гаспадарка шырылася, набывала моц.

Але як гром з яснага неба грымнула калектывізацыя. І зноў Цярэнця аказаўся перад разбітымі ночвамі. Усё, што засталося ад бацькі і што набыў сам, вымушаны быў здаць у калгас. Сам жа застаўся жыць немаведама з чаго – за зарабляныя ў калгасе працадні анічога не плацілі. Зноў у хаце запанаваў голад.

У пошуках паратунку вяскоўцы падаліся хто ў лес па грыбы-ягады, хто на Прыпяць лавіць рыбу, а Цярэнця ў вольны ад калгаснай працы час заняўся прыватным цяслярствам, ды з дня на дзень чакаў, што бальшавікі паразумнеюць і дадуць вяскоўцу магчымасць карыстацца здабыткамі сваёй працы. Ды не выйшла так…

У адносінаў да вяскоўцаў у бальшавікоў была свая палітыка. Яны лічылі, што чым болей яны прыціскаюць сялянаў, тым можна болей з іх выцягнуць. І гэты бязглузды ўціск працягваўся аж пакуль не грымнула Другая Сусветная вайна.

Не дачакаўшыся лепшых дзён, Цярэнця быў вымушаны ісці абараняць Радзіму.

7-га ліпеня 1941-га года ён быў змабілізаваны і разам з тысячамі іншых сяляна-палешукоў накіраваны на Усход, на Браншчыну.

Дайшлі яны да Трубчэўска, а там, дзеля фарміравання з іх вайсковых падраздзяленняў, былі змешчаны ў вялікі лес, што знаходзіўся паміж Трубчэўскам і Суземкай.

Аднак фарміраванне не адбылося.

У верасні немцы ачапілі той лес і ўсіх, хто быў у ім, узялі ў палон. Бяззбройных і нават не абмундзіраваных у вайсковую форму, палонных сабралі ў адзін вялікі гурт.

Не пачалі ваяваць, а ўжо адваяваліся, – ганьба! Але яна адбылося не павіне мабілізаваных на вайну. Добра ўсведамляючы і разумеючы гэта, Цярэнця паступіў так, як і павінен быў паступіць гаспадарлівы і кемлівы селянін. Як толькі змерклася, ён непрыкметна адпоўз ад групы, потым пашыўся ў кустое. Таго ніхто не заўважыў.

Ён уцёк з палону. Праз колькі тыдняў вярнуўся ў родную вёску, да сваёй сям'і – жонкі і дзяцей. Для яго радзіма была там, дзе мелася свая зямля і сям'я. Іншай радзімы Цярэнця не ведаў. І вяскоўцы паставіліся да яго вяртання як да імкнення быць побач са сваімі людзьмі. Ніхто з вяскоўцаў ніколі не папракнуў яго ў тым вяртанні, паколькі бачылі, што ён вярнуўся як гаспадар сваёй зямлі, вярнуўся не акупантам служыць, а памагчы вяскоўцам перажыць ваеннае ліха.

І рукі яго спатрэбіліся. Ён вырабляў для сялянаў драбіны і сані, бароны ды бочкі, іншае начынне. Уся вёска ішла да яго за дапамогай. А вакол немцы, фронт адкаціўся некуды на усход…

У вёску наведаліся фашысты, убачылі, як у сваім двары цяслярыць вясковы ўмелец. А ў той час ішло будаўніцтва маста праз Прыпяць – Мазыр-Оўруч.

Не хацелася яму будаваць той мост, але ён стаў нявольнікам, палонным. І каб выжыць, мусіў падпарадкоўвацца іх патрабаванням і загадах. Да таго ж, не было ад таго маста шкоды ні сялянам, ні краю. Наадварот, мост патрэбен быў не толькі немцам, а і тутэйшым жыхарам.

З цягам часу свой удзел у будаўніцтве ён пачаў успрымаць як звычайную працу, якую выконваў увесь час. Для яго цяслярства было не толькі прафесіяй, а сэнсам жыцця.

Калі скончылася вайна, калі выгналі акупантаў з Палесся і з Беларусі, Цярэнця знайшоў сабе занятак. Займаўся рамонтам караблёў Верхне-Дняпроўскай вайсковай флатыліі.

Служыў у войску. Дэмабілізаваўся і вярнуўся ў родную вёску. Адбудоўваў яе, спаленую фашыстамі, вяртаў да жыцця. А потым разам з іншымі цеслярамі ў Хойніках узводзіў Палац культуры, лячэбніцу, школу.

На ўсіх гэтых будоўлях ён цалкам аддаваўся стваральнай працы, і, радуючыся плёну сваёй працы, быў зусім забыўся пра будаўніцтва таго маста праз Прыпяць… І, мусіць, ніколі не згадаў бы пра яго, калі б не нагадалі таварышы з пільнай арганізацыі чэкістаў – МДБ.

26-га красавіка 1951 года Цярэнцю Косара арыштавалі і прывезлі ў Мазыр. Пасадзілі ў турму. І на першым жа допыце ашаламляльнае пытанне – “дзеля чаго і з якой ініцыятывы будаваў мост на шляху “Мазыр-Оўруч?”

Гэтае пытанне не выглядала выключэннем з агульнага зместу біяграфіі Цярэнці – пасыпаліся і іншыя, не меней парадаксальныя пытанні: “Чаму і пры якіх абставінах здаўся ў палон?”, “З якой мэтай вярнуўся ў вёску Орвічы?”, “Якой варожай дзейнасцю займаўся дзеля ўмацавання тылу фашысцкай арміі?”…

І хаця ўсё жыццё Цярэнці прайшло на вачах яго аднавяскоўцаў, аднак следства не ўзяло і не прыняло іх паказанняў і сведчанняў. Яно дамагалася аднаго – патрэбнага ім прызнання ад самога Цярэнці, дзеля чаго яго трымалі ў халодным карцары, не давалі есці, здзекваліся бяссонніцай, гадзінамі прымушалі стаяць навыцяжку, пагражалі арыштаваць жонку.

І так чатыры месяцы штодзённых пакутаў, аж пакуль ён, – зноў жа, – згодна сваёй сялянскай логіцы, – махнуў на ўсё рукой і падпісаў сфабрыкаваныя следчым пратаколы допыту.

У верасні таго ж 1951 году, селянін і цясляр Цярэнця Косар быў асуджаны АСО, як здраднік Радзімы, на 10 гадоў пазбаўлення волі і праз аршанскую перасылку этапаваны ў Ухтпячорсклаг. Упраўленне якога знаходзілася ў горадзе Выцярга Валагодскай вобласці.

У сістэме ГУЛАГу гэта быў звычайны лагер, але з-за жорсткага рэжыму і невыносных умоў утрымання, гэты лагер паказаўся Цярэнцю горш за катаргу, пра якую ён чуў ад былых вязняў. І калі яго адразу па прыбыцці накіравалі на лесапавал, знячэўку ўпаў духам. Ім авалодала абыякавасць і расчараванне жыццём.

Аднак, як аказалася, свет не без добрых людзей. Яго цяслярскія здольнасці заўважыў брыгадзір Леўчанка і яго, як адмысловага цесляра, узяў у сваю брыгаду, якая займалася рамонтам прычалаў на Марыінскім канале.

Для Цярэнці гэта быў падарунак лёсу, бо к гэтаму часу з-за цяжкай працы і пастаяннага голаду, ён ужо ледзьве цягаў ногі. І хаця цяслярства таксама лічылася нялёгкай працай, але яе ён ведаў, а таму без асаблівага напружвання мог выконваць тую норму, якая дазваляла выдаваць яму найбольшую пайку.

А з цягам часу ў брыгадзе ён стаў лепшым цесляром, а лагернае начальства ставілася да яго прыхільна і нават з павагай. Таму ён болей не выкарыстоўваўся на іншых цяжкіх працах, апроч будаўніцтва, так што амаль увесь свой лагерны тэрмін ён працаваў цесляром: спачатку на Марыінскім канале, а потым на будаўніцтве нафтаперагоннага камбіната ў горадзе Салават Башкірскай АССР, куды ў 1953 годзе быў этапаваны з Ухтпячорлага.

А ў 1954 годзе, нечакана для яго, тэрмін адсідкі яму быў зніжаны.

Восенню таго ж года Цярэнця Косар вярнуўся ў родную вёску да сваёй сям'і. Але жыць болей  у вёсцы не пажадаў, бо ў калгасе паранейшаму плацілі, як казалі вяскоўцы, "палачкі". Адзначаўся так дзень выхаду на працу.

Сам ён, звыш трох гадоў немаведама за што адпрацаваўшы на начальнікаў, вярнуўся без капейкі ў кішэні, а ўжо выраcталі дзеці.

З цяжкай душой пакідаў ён родную вёску. Але іншага выйсця не бачыў.

Ён прыехаў да Гомеля. Уладкаваўся цесляром у будаўнічае ўпраўленне, і ў хуткім часе стаў сваім і незаменным чалавекам у калектыве.

Паступова і Цярэнця прырастаў да горада і гамяльчанаў. А калі, нарэшце, атрымаў кватэру, дык і зусім адчуў сябе карэнным гамельчуком. Бо менавіта тут, у абласным горадзе, пасля ўсяго перажытага, ён знайшоў сяброў, якія дапамаглі яму стаць на ногі, усталяваць сваё жыццё. І – адчуць сябе чалавекам.

Дзякуючы тым жа сябрам Гомель стаў для яго сапраўднай радзімай, дзе цяпер жывуць яго дзеці і ўнукі.

І хаця Цярэнцю Косару не ўсё даспадобы ў гэтым вялікім горадзе, але ён ні на што не скардзіцца, і толькі просіць у Бога, каб ён прадоўжыў яму гады жыцця, даў добрае жыццё сваім нашчадкам, каб ім ніколі не зведаць у жыцці, што зведаў ён.

ГУЛАГ – гэта яго пякучы боль. І, мабыць, таму Цярэнця Васільевіч жыве 87 гадоў, што той боль страшней смерці, бо ён адпужвае смерць, і з гадамі не заціхае. Перажытае ім быццам справа гулагаўца, міжволі захоўваецца назаўсёды і назаўжды стаіць перад Цярэнцем Косарам пытанне:

"Каму і дзеля чаго патрэбны былі яго пакуты?"

Пытанне ён даслаў катам з НКУС, тым следчым, якія яго катавалі, прымушалі паклёпнічаць на сябе, не звяртаючы ўвагі на праўду.

Адказу Цярэнця яшчэ не дачакаўся, хаця ведае – наўрад ці будзе той адказ. Яны прытворацца нявіннымі авечкамі і скажуць, што нічога не памятаюць з тае пары. Але Бог на небе ведае пра ўсё, ведае пра ўсе гнюсныя іх учынкі і запатрабуе ад іх адказу.

Адкажуць, нідзе не схаваюцца, нават на тым свеце…

………………………………………………………

6

*Рыгор Клімовіч:*

***«Я бачу новых змагароў»***, –

альбо споведзь-гутарка вязня карэспандэнту газеты «Наша Ніва» Севярыну Квяткоўскаму.

Нарыльскае паўстаньне 25 траўня 1953 году – падзея, якая перакуліла ўяўленьні аб ГУЛАГу. Дзясяткі тысячаў зьняволеных на працягу сарака дзён жылі незалежнай вольнай камунай.

3-га ліпеня войскі Сталіна расстралялі некалькі тысячаў паўстанцаў, зь іх пяць тысячаў беларусаў. Нарыльскае паўстаньне – ці ня самая значная падзея ў гісторыі менавіта беларускага антысавецкага супраціву. Паўстаньнем кіравалі пераважна беларусы і ўкраінцы. Узначальваў паўстаньне разам з сябрамі Рыгор Клімовіч, які пазьней стварыў гімн паўстанцаў «Ня страшны нам тыранствы бальшавізму». Сёньня гімн перакладзены на некалькі моваў. Пра Клімовіча зьняты фільм, і напісана безьліч тэкстаў у Расеі, Украіне і іншых краінах.

У Беларусі Нарыльскае паўстаньне дагэтуль застаецца амаль невядомым.

– Я нарадзіўся пад Гомелем у вёсцы Новацярэшкавічы, былой Шляхецкай Ваколіцы. Яна была заснаваная шляхтай, якая ў 1532 годзе разам зь Юрыем Радзівілам прыйшла вызваляць Гомель ад войскаў Васіля III. Мы – нашчадкі гэтай шляхты. Бадай, найбольш выразныя ўспаміны з раньняга дзяцінства ў мяне зьвязаныя з імем атамана Галакі.

Калі сёньня пішуць пра антысавецкі супраціў 20-х гадоў, мала ўзгадваюць пра тое, што поўдзень Гомельшчыны амаль да 1929 году ня ведаў сапраўднай савецкай улады. Бо тут дзейнічалі галакаўцы. Сам Галака быў настаўнікам зь вёскі Піліпча Рэпкінскага павету Чарнігаўскае губэрні. База ягоных аддзелаў месьцілася ў Мохаве Гомельскага павету. Там Галака і загінуў у 1929 годзе ад рукі чэкіста, які ўцёрся ў давер паўстанцаў.

Усяго байцоў у Галакі было ня больш за тысячу, супраць іх дзейнічала цэлая дывізія чырвоных. Але злавіць паўстанцаў не ўдавалася, бо ў кожнай вёсцы яны мелі свае «вочы» й «вушы». Галакаўцы вынішчалі бальшавіцкія гарнізоны. Падчас гэтых апэрацыяў іхнае войска павялічвалася на 4-5 тысячаў байцоў, якія на раніцу разыходзіліся па сваіх хатах…

Я добра памятаю, як імем Галакі пужалі заежджых савецкіх начальнікаў: «Сёньня ты камандуеш, а як заўтра прыйдзе Галака, што будзеш рабіць?»

Вядома, гэтае паўстаньне было найперш сацыяльным, ня мела выразнага нацыянальнага аблічча і мэты. Але ж паўстанцам дапамагаў Булак-Балаховіч. Калі Булак-Балаховіч падаўся ў Польшчу, Галака застаўся. Бо ён быў мясцовы, і усе ягоныя байцы былі мясцовыя. Ён заставаўся да 1929 году. І вось, толькі пасьля Галакі ў нашым краі пачалася савецкая ўлада. Акурат напярэдадні калектывізацыі. Як адбывалася гэтая калектывізацыя – цяжка перадаць, распавесьці, як людзі аддавалі нажытае ўласным потам…

Аднойчы да нас прыйшла мая стрыечная сястрычка Надзейка, мая аднагодка. Мы селі палуднаваць, маці паставіла на стол, і Надзейку запрасіла. А тая яшчэ й лыжкі ня ўзяла, як кажа: «Хутка вы паедзеце на Савіну  (Асавіна), а мы на Салаўкі». І за сталом усталявалася цішыня, а бацька кінуў лыжку і ўстаў з-за стала. Я ня ведаў, што такое «Салаўкі», але чуў, што гэта штосьці страшнае. А ўжо праз тыдзень іх – сям'ю старэйшага брата майго бацькі – вывозілі, сем душаў. І пяцігадовую «злачынцу» Надзейку таксама. Колькі было ляманту і крыку!.. Я кінуўся да падводы, дык салдат высьпяткам мяне адштурхнуў у канаву. Маці падхапіла мяне, а я істэрычна біўся ў яе на руках…

Не адзін зь іх не вярнуўся.

Праз год-другі напамін аб Салаўках. Гэта быў канец 29-га ці пачатак 30-га году, ранкам. Маці зьбірала сьняданак перад тым, якісьці ў поле – нас калектывізацыя яшчэ не зачапіла. І вось, у нашую хату ўрываецца нейкі худы, абарваны, чорны чалавек. А на падлозе стаяў чыгун варанае бульбы для парсючка. Чалавек стаў на калені на ганку і пачаў выграбаць гэтую бульбу і пхаць запазуху. Маці закрычала: «Ды што вы робіце, мы вам хлеба дадзім!» Але ён ня слухаў, пакуль увесь чыгун ня выграб. А калі маці працягнула яму лусту хлеба, ён зразумеў, што ў гэтай хаце для яго няма небясьпекі, і, супакоены, прысеў. Хлеб узяў, але бульбу ня выкінуў. І тады паведаміў, што ўцёк з Салаўкоў. Чалавек гэты сыйшоў у лес, больш мы яго ня бачылі…

А ў 1933 годзе мы самі пачалі пухнуць з галадухі. У некаторых нашых суседзяў паміралі мае аднагодкі-дзеці. І тады бацька вырашыў, што дзеці нашай сям'і павінны вучыцца, каб сыйсьці з калгасу. Я пайшоў у суседнюю вёску Цяруху. Наша школа была беларуская. А ў нас увогуле расейскай мовы ніколі ня чулі. А калі хто зьяўляўся і гаварыў парасейску, дык мы глядзелі на яго, як на дзікуна, і крыўлялі.

А зь сярэдзіны 30-х пачалося... Падчас заняткаў быў арыштаваны вельмі добры, любімы вучнямі настаўнік матэматыкі. Потым – настаўніца беларускай мовы й літаратуры, таксама ў час заняткаў. Замест іх прыслалі нейкіх малаадукаваных людзей. Гэта нас абразіла, але трэба было вучыцца далей.

У нас дома былі беларускія кнігі. Зараз я гэтых кніг нідзе ня бачыў, аб іх нават ня згадваюць. Адна кніга, самая тоўстая, была мне больш

за ўсё даспадобы. Называлася «Наша вёска» Самковіча, Пратасевіча й Гарбацэвіча. Мая дзіцячая бібліятэчка засталася ў памяці на ўсё жыцьцё, яна вызначыла маю нацыянальнасьць. Найперш – зборнік Янкі Купалы, яшчэ дацэнзурнае выданьне…

Я паступіў у гомельскі індустрыяльна-пэдагагічны тэхнікум. Здаў усе іспыты на «выдатна», але ў расейскай дыктоўцы зрабіў дзевяць памылак. Таму мяне залічылі ўмоўна. Нягледзячы на тое, што ў тэхнікуме ўсё было па-расейску, установа яшчэ захоўвала беларускі дух. Тут былі створаныя пазашкольныя гурткі па беларускай мове і літаратуры. Напярэдадні вайны гурткі тыя былі разагнаныя. А пасьля пачалася вайна.

Не магу сказаць, што яна пачалася нечакана. На пачатку 1941 году па ўсіх установах Гомеля быў зроблены загад выкапаць бомбасховішчы. Мы ў тэхнікуме яму выкапалі, але бярвеньне зьверху не накідалі, занятыя ўсе былі, у чэрвені ж іспыты… Але пра вайну ўсё роўна думалі. Я для насьценгазэты напісаў верш зь недвухсэнсоўнай назвай «Эўрапейскі цыклён». Мяне выклікалі да камісара горада, і той сказаў, маўляў, немцы – сябры, а калі што здарыцца, дык у нас на мяжы такія арлы стаяць!..

Я на трэці дзень вайны бачыў, як той камісар плакаў – арлы не з’явіліся.

Я быў маленькі, худзенькі, таму ў войска ня бралі. Але мне, не толькі мне, а яшчэ шасцярым маладзёнам, даручылі ўлады пагнаць калгасны статак на Ўсход – у Курскую вобласьць. Каб не дасталася гавяда ворагу. Мы выканалі заданне.

А вярнуўся я дадому перад самым прыходам немцаў. Быў такі выпадак. Калі салдаты нямецкай перадавой лініі пераскочылі праз наш плот, адна бабулька, якая хавалася пад сталом, пержагналася на абразы і сказала: «Дзякуй Богу, нарэшце нашы пакуты скончыліся». Але калі вёску занялі тылавыя часткі, і немцы пачалі рэзаць курэй, сьвіней, адбіраць, што было лепшага ў людзей, тая ж самая бабка казала: «Дзе ж тыя партызаны…» Людзі зразумелі, што адно ярмо зьмянілася другім.

Я празь лінію фронту падаўся ў Саратаў, дзе месьціўся эвакуяваны з Гомеля тэхнікум. Дабіраўся паўгады. Як жыў – не перадаць, здабываў хлеб нават варажбою. А ў Саратаве, калі дабраўся туды, атрымліваў нейкі харч за тое, што ў публічнай бібліятэцы чытаў бабам газэты. Дырэктарам адной з саратаўскіх установаў быў брат вядомага чырвонага камандзера Будзёнага – Міхал Міхайлавіч. Ён часьцяком заходзіў у бібліятэку, каб пабалаболіць з наведнікамі.

У брэжнеўскія часы мяне прасілі, каб я распавёў піянэрам пра свае сустрэчы са «славутым чалавекам». Але што я мог распавесьці, не ўспаміны, а анэкдот нейкі. Міхал Будзёны ўвесь час піў, а добра

выпіўшы, чапляўся да людзей з размовамі. Аднойчы пытаецца ў мяне, што я раблю ў бібліятэцы. Кажу – чытаю ўслых газэты, але амаль нічога за гэта не атрымліваю. А ён кажа – мне б тваю працу, і мой заробак.

*...На пачатку 1943 году Рыгор Клімовіч накіраваўся ў Маскву, разам зь сябрам, якога прызвалі ў войска. У Маскве Клімовіча арыштаваў НКВД па абвінавачаньні ў «шпіянажы». Яго спрабавалі абвінаваціць у забойстве камандзера партызанскага атраду, які базаваўся побач з Шляхецкай Ваколіцай у той час, калі Клімовіч знаходзіўся на акупаванай немцамі тэрыторыі.*

Р.К: Суда ніякага не было. Мяне выклікалі да сьледчага і зачыталі прысуд. Суседзі па камэры ў сьледчай турме раілі падпісаць усе паперы энкавэдыстаў, але я ўпарта адмаўляўся. Ужо седзячы ў лягеры, я зразумеў, што калі б падпісаў бы гэтыя абсурдныя абвінавачаньні – мяне б расстралялі.

Сьпярша я сядзеў у адным зь сьвярдлоўскіх лягераў. У ім за месяц з тысячы ў жывых заставалася ня больш за шэсьцьдзесят-семдзесят чалавек. Для тых, хто быў на волі, мы лічыліся «будаўнічым калектывам мэталургічнага заводу». Цынус савецкага кіраўніцтва ўражвае дагэтуль. Калі завод быў пушчаны, Сталін даслаў віншавальную тэлеграму нашаму «калектыву» – тысячам трупаў, якія гнілі ў зямлі.

Я застаўся жывы толькі дзякуючы таму, што сярод інжынэраў сустрэў землякоў-беларусаў Сьвірскага й Вахрамеева, якія мяне падкармлівалі.

Наступны, Нейвенскі лягер, куды я патрапіў, быў ня менш страшны. Уявіце: былы авіяцыйны ангар, у якім пад адным дахам жыве больш за шэсьць тысячаў чалавек. Адсюль лягернае начальства адправіла мяне ў так званую «вараўскую камандзіроўку» ў Благавешчанскі лягер. Лепш за ўсё «камандзіровачныя» лягеры характарызуе прымаўка «сто чалавек плачуць – адзін сьмяецца». У сыстэме ГУЛАГу існавалі спэцыяльныя, невялікія па колькасьці вязьняў зоны, куды адсылалі на зьнішчэньне.

Што мяне выратавала?.. Я быў перакананы, што жыць мне засталося няшмат часу – зона цалкам складалася з крымінальнікаў. Магчыма, мне дапамагла адсутнасьць надзеі на жыцьцё. Аднойчы ў лягер з праверкай прыбыў пракурор. Я ў прысутнасьці ўсіх зэкаў выйшаў і сказаў, маўляў, чаму вы людзей нізавошта нішчыце? Гэта ж вы й ваша сыстэма на волі робіць зь іх бандытаў. Усе зэкі (воры) вельмі ўважліва слухалі маю абарончую прамову. А пракурор закрычаў на начальніка лягера: «Хто яго сюды зьмясьціў? Прыбраць!»

Мяне вярнулі ў Невенск, але перад тым была размова з вараўскімі аўтарытэтамі. Яны сказалі літаральна наступнае: «Ты ўсё правільна зразумеў. Цяпер можаш усім казаць, што зладзюганы Багаслоўска даравалі табе жыцьцё».

*…У сыстэме сьвярдлоўскіх лягераў Рыгор Клімовіч знаходзіўся з 1943 да 1947 году. У гэты час ён напісаў некалькі дзясяткаў вершаў, скіраваных супраць сталінскага рэжыму. Калі аўтарства было выкрытае, Клімовіча пакаралі пераводам у адзін зь лягераў Гарлагу, што пад Нарыльскам. Гарлаг – адна з адзінаццаці падобных установаў ГУЛАГу. Гэта канцлягер лічыўся з асабліва строгага рэжыму ўтрыманьня. Свайго кшталту лягер сьмерці, дзе за доўгія гады зьняволеньня мала хто заставаўся ў жывых праз вялікія маразы й адсутнасьць ежы.*

Р.К.: Яшчэ ў сьвярдлоўскім лягеры я пазнаёміўся з палкоўнікам Майсеенкам, які ў Нарыльску стаўся нашым брыгадзірам. Гэта быў баявы камандзер, асуджаны за тое, што ягоны полк патрапіў у акружэньне. Ён добра дапамагаў зьняволеным Гарлагу. Дзякуючы яму, этапаваная зь Сьвярдлоўску сотня «палітычных» заняла ў Горлагу ўсе кіраўнічыя пасады. Але ў Невенску ён ледзь не разьвітаўся з жыцьцём. Мяркую, лягернае начальства наўмысна прызначыла яго адказваць за барак. Майсеенка адразу ж паспрабаваў навесьці вайсковы парадак. Ён паставіў за кіраўнікоў аддзяленьняў былых афіцэраў. На наступную раніцу іх усіх знайшлі мёртвымі. Ён паўтарыў свой крок, вынік быў той самы. Тады я сказаў Майсеенку, што хутка яго адправяць у «камандзіроўку», зь якой ён ня вернецца. Давялося доўга тлумачыць, што зона – ня войска, што тут свае вельмі складаныя законы ўзаемадачыненьняў зьняволеных з адміністрацыяй і сярод саміх зьняволеных, якія дзеляцца на «вароў», «мужыкоў», «палітычных», «ссучаных» і г.д. Але самае галоўнае правіла зоны заключалася ў тым, што ніколі ня трэба супрацоўнічаць з адміністрацыяй. Навука пайшла на карысьць. Найбольш ярка пра гэта сьведчыць вось які эпізод.

На этапе ў Нарыльск мы патрапілі ў Краснаярскую перасылку. Мы – гэта каля сотні палітычных. А крымінальнікі, якіх было больш за тысячу, тры дні елі ўсю нашу пайку. Мы зразумелі, што яшчэ дзень бязь ежы – і ўсе загнемся. Але як было змагацца – на сто чалавек два нажы, у той час, як у кожнага зэка-зладзюгана была свая халодная зброя…

Надвячоркам, калі крымінальнікі паселі ў сваім бараку, Майсеенка пайшоў да іх гуляць у карты на сваю папаху. І ніхто ў яго ня выйграў. За гэты час ён добра разгледзеў абстаноўку ў бараку. Вярнуўся да нас і кажа: «Рыхтуйцеся, будзем брацьвараўскі барак». Сярод нас было два героі Савецкага Саюзу. Майсеенка менавіта ім выдаў нажы, маўляў, вы ж за штосьці «герояў» атрымлівалі.

Я ня ведаю, на што мы разьлічвалі. Пазнаходзілі нейкія дручкі, дошкі і ачапілі барак так, каб было бачна з кожнага вакна. У дзьверы ўвайшлі Майсеенка – здаравенны быў мужык, двое нашых з адкрытымі нажамі і я. Майсеенка сеў за стол і сказаў:

– Здаць зброю, вы ачэпленыя, і ў выпадку супраціву будзеце ўсе зьнішчаныя.

Пачуўся жудасны рык. Узьняўся іхны «аўтарытэт» і рушыў з нажом. У нас кроў састыла ў жылах. Нож бліснуў над галавой палкоўніка і зь сілай утыркнуўся ў стол.

А потым крымінальнікі пайшлі справа і зьлева, – усе рычэлі, узмахвалі над галавой палкоўніка рукамі, і кідалі нажы. А Майсеенка спакойна сядзеў за сталом, толькі пільна глядзеў у адну кропку.

А калі мы ўзброіліся, ён сказаў:

– Воры краснаярскай перасылкі! Вы тры дні елі нашу баланду і наш хлеб. Прашу, не, я загадваю – ўсё вярнуць.

Ізноў узьняўся крык і лямант – «сука паганая, не дачакаесься, не на тых напаў».

Тут ужо, каб ратаваць становішча, прыйшлося ўмяшацца і мне. Чаму? Бо Майсеенка ня надта добра ведаў гэтую публіку. Набраўшыся смеласьці і ўпэўненасці, звярнуўся да крымінальнікаў:

– Воры, вы ня воры, а падаль, якая пайшла на службу да чэкістаў, бо аббіралі нас, нават не спытаўшыся, што за этап прыйшоў. Я з Багаслоўскага «штрафніка», воры даравалі мне жыцьцё, але я сьведчу, што вы ня воры.

Тут з глыбіні падняўся адзін зэк, падыйшоў, угледзеўся, і пытаецца:

– Ты што – беларус?

Я маўчаньнем сваім пацвердзіў яго здагадку.

Пасьля гэтага ён павярнуўся да свайго галоўнага і засьведчыў мае словы. Воры адвялі нас у хлебарэзку, выдалі пайку, але папярэдзілі, каб мы навучылі Майсеенку «паняткам»…

У Гарлагу знаходзілася ў зьняволеньні безьліч выдатных людзей. Там я пазнаёміўся з народным артыстам БССР Эдзі Рознэрам, эстонскім кампазытарам Гэрбэртам Хаасам, эстонскім дырыжорам Эльмарам, славутым на той час маскоўскім акардыяністам Міхалам Каўфманам, паэтам Міхалам Люгарыным, прафэсарам расейскае філялёгіі Еўдакімавым, па падручніку якога я вучыў расейскую мову і інш.

Быў сярод нас грузін Камбарашвілі, былы сусед Сталіна па вуліцы. Сталін зьнішчаў усіх сьведкаў свайго мінулага жыцьця, бо сьведкаў дзяцінства і росту бога быць не магло. Камбарашвілі казаў: «Каб я ведаў, у каго ён вырасьце, я б яго ў дзяцінстве прыдушыў»… Гэта ўсё была наша сотня.

*…У пэрыяд 1950-1953 г.г. у Гарлагу арганізаваліся асобныя беларускія брыгады і нават цэлыя баракі. Гэтаму спрыяла тое, што сярод высокакваліфікаваных зьняволеных, якія кіравалі будаўнічымі працэсамі, вялікая частка была менавіта родам зь Беларусі. Першыя ж захады Рыгора Клімовіча па прыбыцьці ў ГАРЛАГ былі скіраваныя на арганізацыю зьняволеных-беларусаў.*

Р.К.: Па прыбыцьці ў Гарлаг я патрапіў у КВЧ – культурна-выхаваўчую частку. З 1949 году я прынцыпова адмовіўся працаваць.

Але аднойчы ўлетку 1949 году пабачыў, што на будаўніцтве аднаго з карпусоў Вялікага Медзеплавільнага заводу, які меўся быць адным з флагманаў савецкай цяжкой індустрыі, гіне вялікая колькасьць людзей творчых прафэсіяў. Яны пастаянна не выконвалі патрэбную норму, і ім не дадавалі норму пайкі.

Я прыйшоў да кіраўніцтва будоўлі, якое складалася зь зьняволеных-беларусаў, якія ў мінулым займалі рознага кшталту дырэктарскія пасады. Я сказаў, што трэба ратаваць людзей, і што ведаю, як гэта зрабіць. Але пры гэтым папрасіў надзвычайныя паўнамоцтвы. Яны спужаліся. Я ім кажу, маўляў, таму вы зараз тут і гібееце, што ў свой час баяліся і «стучалі» адзін на аднаго. Урэшце, я тыя паўнамоцтвы атрымаў.

Далей гісторыя разварочвалася так. Я пайшоў у бухгальтэрыю і запытаўся, ці працуюць людзі. Мне адказалі «так». «Тады чаму ж нізкія паказчыкі?» – пытаюся. У адказ разводзяць рукамі. Я ім загадаў, каб з заўтрашняга дня бухгальтэрыя давала нармальныя паказчыкі, і растлумачыў, што ў адваротным выпадку пакараньне будзе горшым, чым калі «застукае» адміністрацыя. Больш праблемаў з тым участкам будоўлі не было. А музыкаў і мастакоў я з катлавана выдаліў.

Пуск Вялікага Медзеплавільнага заводу быў прымеркаваны да дня нараджэньня Сталіна – 21 сьнежня 1950 году. Рабіць «падарунак» правадыру адмовілася больш за сто чалавек.

*...Большасьць была пакараная ўтрыманьнем у ізалятары, а «завадатараў» аддалі пад суд. Сярод іх быў і Рыгор Клімовіч. «За антысавецкую дзейнасьць», якая выявілася ў вуснай антысталінскай агітацыі і працягу пісаньня адпаведных вершаў, ён быў паўторна асуджаны тэрмінам на дзесяць гадоў.*

*Да канца 1952 году Клімовіча ўтрымлівалі ў Нарыльскай турме.*

Р.К.: Я сьвядома імкнуўся схаваць сябе ў турму, бо ведаў, што мушу даваць паказаньні на аднаго з «арганізатараў» – былога камсамольскага дзеяча Доніча. Але ад вочнага спатканьня ўхіліцца не ўдалося. Тады я зрабіў наступны крок: пісьмова «даў паказаньні» на Доніча, дзе напісаў літаральна наступнае: «Я, сьвядомы вораг савецкае ўлады, ненавіджу камуністаў як сваіх асабістых ворагаў. Лічу Доніча сваім асабістым ворагам».

Пасьля я даведаўся, што судзьдзя сказаў Донічу, маўляў, пашанцавала вам, прыкрыў вас Клімовіч. Пасьля гэтага вязьні Горлагу сабралі 6000 рублёў і перадалі мне ў турму…

Аднойчы ў лістападзе 1952 году ўсе сядзельцы Нарыльскай турмы былі кудысьці вывезеныя. Застаўся толькі я ды яшчэ адзін чалавек. Я яго ня ведаў. А неяк ноччу прывозяць новы этап у тысячу чалавек – скрозь украінцы. Новапрыбылыя ў мяне пытаюцца-цікавяцца, што дзеецца ў Гарлагу. Я адказаў, што размаўляць з імі ня буду, бо іх ня ведаю.

Толькі калі я атрымаў ад лягерных сяброў цыдулку з інфармацыяй аб тым, што прыбылыя – «нашы», уступіў з імі ў кантакт. Высьветлілася, што іх перакінулі са Стэплагу (установа «роднасная» Гарлагу), дзе праводзілі зачыстку ад «нечысьці». Гэта азначала толькі адно – прыйшло папаўненьне «нашых».

*…2 сакавіка 1953 году памёр Сталін. Для большасьці вязьняў ГУЛАГу гэта азначала пачатак паслабленьня рэжыму ўтрыманьня і пачатак амністыяў. Але ў Гарлагу рэжым яшчэ больш узмацніўся. Вясной 1953 году ахова атрымала дазвол расстрэльваць зьняволеных без суда, на месцы і на сваё меркаваньне. За вясну такім чынам было забіта трынаццаць чалавек. 25 траўня – яшчэ чатыры. Як толькі аб гэтым стала вядома па ўсім Гарлагу, зьняволеныя спынілі працу. Зараўлі заводзкія гудкі, над лягерамі пачалі ўздымацца чорныя з чырвоным пасам сьцягі – знакі свабоды.*

Р.К.: Калі сканаў Сталін, мы «адсьвяткавалі» гэтую падзею. Але, па шчырасьці, ані я, ані мае сябры ня верылі ў амністыю, аб якой хадзілі чуткі. Мы пераканаліся ў гэтым, калі ахова пачала страляць людзей.

25 траўня надвячоркам чатыры хлапцы сядзелі пасьля працы каля свайго бараку і сьпявалі пад гармонік. Міма ішла калёна зьняволеных кабетаў. Яны нас радасна прывіталі. Сьледам раздаліся аўтаматныя чэргі аховы. Усе чацьвёра загінулі на месцы. Празь пяць хвілінаў пачалі спыняцца будоўлі.

Кіраўнікі нацыянальных грамадаў Гарлагу раіліся ўсю ноч. Былі такія, што казалі, быццам бяз сэнсу пратэставаць. Але на раніцу мы пачалі каваць шаблі, рабіць гранаты, абкладаць грузавікі бэтоннымі плітамі дзеля прарыву…

Мы склалі ліст патрабаваньняў, сярод якіх самымі галоўнымі былі – аб рэабілітацыі іншадумцаў, неграмадзянаў СССР да 1939 году і ахвяраў вайны. Мы патрабавалі прыезду камісіі ЦК КПСС.

7 чэрвеня сапраўды прыбыла камісія, але складалася яна з вышэйшых чыноў МГБ і МУС на чале з асабістым рэфэрэнтам Берыі генэралам Кузьняцовым. Перад перамовамі мы добра падрыхтаваліся, кожны зьняволены напісаў асабістую скаргу. Перамовы цягнуліся доўга, але мы адмовіліся ад патрабаваньня здацца.

*…3 ліпеня 1953 году войскі ўвайшлі на тэрыторыю Гарлагу і адкрылі агонь на зьнішчэньне з аўтаматаў і кулямётаў.*

*«Мы адчулі ня страх, а пякучую нянавісьць да катаў. Мы ня кінуліся ўцякаць, а рашуча ставалі на месца забітых», – узгадвае Рыгор Клімовіч.*

*У апошні момант паўстанцы адмовіліся ад лёзунгу «Свабода альбо сьмерць». Войскі захлынуліся ў крыві забітых, сярод якіх беларусаў было больш за пяць тысячаў чалавек. Пасьля падаўленьня паўстаньня Гарлаг быў расфармаваны, вязьняў павезлі «на мацярык». Яны ўспрынялі гэта*

*як сваю перамогу, бо мала хто адбываў у Гарлагу поўны тэрмін зьняволеньня і вяртаўся жывым на свабоду.*

Р.К.: Нас везьлі на баржы па Енісеі ў бок Краснаярскай перасылкі. Мы ня ведалі плянаў адміністрацыі. Большасьць была схільная лічыць, што нас вязуць на зьнішчэньне. Ізноў сабралася нарада кіраўнікоў нацыянальных грамадаў. Мы вырашылі, што памяць аб паўстаньні ня мусіць зьнікнуць безь сьлядоў, а таму трэба скласьці песьню – гімн.

Доўга раіліся, і вырашылі, што песьню трэба напісаць па-расейску, бо гэта адзіная мова, зразумелая усім вязьням. Але аўтарства даверылі мне, беларусу. Я мусіў напісаць тэкст на матыў якой-небудзь украінскай песьні. Я ўзяў мэлёдыю адной зь песьняў Украінскай Паўстанцкай Арміі.

Аўтарства гімну «Ня страшны нам тыранствы бальшавізму» трымалася ў вялікім сакрэце. Я ведаю, што аўтара спэцслужбы шукалі доўга, ужо нават тады, калі не існавала сістэму ГУЛАГу. Добра, што захаваліся сьведкі, якія ў 1991 годзе на сусьветным Кангрэсе ўкраінскіх палітзьняволеных засьведчылі маё імя як аўтара.

…З 1953 да 1956 г. Рыгор Клімовіч ўтрымліваўся ў турмах Уладзімера, Іркуцка, а таксама ў Азёрлагу. За гэты час яго яшчэ раз судзілі за «антысавецкую дзейнасьць». Але з пачаткам «хрушчоўскай адлігі» пастановай Вярхоўнага Савету СССР ён быў адпушчаны на волю.

Па вяртаньні на радзіму Клімовіч адразу ж зьвязаўся з сваімі сябрамі па лягеры. Найперш з украінцамі й літоўцамі. Пачало высьпяваць ядро падпольнай арганізацыі дзеля антысавецкага супраціву.

Але на самым пачатковым пэрыядзе стварэньня арганізацыя была выкрытая. У 1957 годзе Клімовіча ізноў арыштавалі. Але дзякуючы таму, што адзін з падпольшчыкаў – украінец Дужынскі – усю адказнасьць узяў на сябе, Клімовіча «за недастатковасьцю доказаў складу злачынства» адпусьцілі на волю пасьля трох месяцаў утрыманьня ў сьледчым ізалятары КГБ – «амэрыканцы».

*…У наш час Рыгор Клімовіч актыўна ўдзельнічае ў грамадзкім жыцьці. Ладзіць публічныя выступы ў СМІ, на мітынгах, перад разнастайнымі аўдыторыямі. Яшчэ ў 1986-м падрыхтаваў аб'ёмны рукапіс успамінаў, які мы спадзяемся ў недалёкім часе пабачыць выдадзеным.*

*Клімовіч – ганаровы сябра некалькіх расейскіх таварыстваў «Мэмарыял». Але найперш гэта свайго кшталту патрыярх беларускіх дысыдэнтаў, які актыўна займаецца пошукам падтрымкі для вэтэранаў антысавецкага руху.*

Р.К.: Сёньня ізноў вяртаюцца былыя часы. Я ізноў адчуваю цікаўнасьць КДБ да маёй асобы. Але дарэмна яны спадзяюцца на пось-

пех сваёй справы. Веру – усё тое безвынікова, бо не тыя часы, бо грамадства прачнулася, пазбавілася ад ружовых акуляраў. Людзі адчулі сябе людзьмі і пачалі патрабаваць, каб і да іх адносіліся як да людзей.

Я веру ў будучыню, калі бачу дзейнасьць новых беларускіх змагароў за волю. Таму будучае верне і забытыя імёны змагароў, і пракладзе новыя шляхі да праўды.

*Аўтар: карэспандэнт газэты «Наша Ніва» Севярын Квяткоўскі*

7

***Галоўная задача Клімовіча***

– У мяне сталінска-бальшавіцкая, падмешаная на энкавусаўскай паліўцы, загартоўка, хаця сістэма адабрала шмат часу, – скрушна працягвае нашую размову кіраўнік Гарлагаўскага паўстання дзядзька Рыгор, – столькі я не паспеў зрабіць карыснага для людзей, дзеля іх будучыні. Мяне ў юнацтве схапілі вострыя кіпцюры драпежніка і закінулі ў савецкае пекла, куды пасялілі сталінцы мільёны бязвінных людзей. Скажы, як мне адносіцца да ўлады, да энкавусаўцаў, якія, не разбіраючыся, пад адзін грабянец адпраўлялі ў ГУЛАГі і ГАРЛАГі? Чаму яны не займаліся карыснымі справамі, каб палепшыць жыццё ў краіне СССР, а нішчылі свой народ. За што нішчылі? Увесь народ ператварылі ў “японскіх”, “польскіх”, “амерыканскіх” шпігаў, быццам таму народу не было чым займацца, як шпігаваць на карысць замежных разведак…

Таму я і сёння, як і раней, сплю ўсяго па некалькі гадзінаў, бо не магу марна траціць на сон. Мне столькі трэба зрабіць, столькі напісаць.

Час, дзякуй Богу, перамяніўся, сталінскія турмы засталіся пустыя і мы сёння можам смела гаварыць пра тое, што перажылі, што адчувалі ў лагерах смерці, на што спадзяваліся.

Мы не былі авечкамі, быдлам, мы былі людзьмі, і не стаялі на каленях, а, аб’яднаўшыся, узнялі горда галовы і кінулі пракляцце той сістэме, яе правадырам…

Не магу выкінуць са сваё памяці той час, праведзены за калючым дротам, таму я зноў і зноў, як бы мне тое цяжка ні давалася, вяртаюся туды – хачу пакінуць нашчадкам наш боль, нашыя пакуты, каб яны ніколі ўжо больш не паўтарыліся…

Магу даць прачытаць табе свае нататкі, якія я пішу.

Мо падкажаш што, параіш, вязнем не было калі займацца пісьменствам, іншыя задачы стаялі перада мной і намі…

………………………

***Полымя нашага гневу***

*(урывак з кнігі “Канец Гарлагу”)*

Тое здарылася 25 траўня 1953 года, вечарам.

Я ў ліку лагернікаў, якія працавалі ў другую змену, знаходзіўся ў ачапленні Гарбуду, які знаходзіўся ў паўкіламетры ад пятага аддзялення і ўшчыльную далучаўся да цэнтральнай вуліцы Нарыльска. На ёй і знаходзілася Кіраўніцтва МДБ (міністэрства дзяржаўнай бяспекі) і ДІТП (дом інжынерна-тэхнічных працаўнікоў).

Пачатак працоўнага дня.

Брыгады, якія толькі што атрымалі інструменты, разышліся па аб’ектах і прыступілі да працы. Запрацавалі краны, закруціліся бетонамяшалкі, “затахкалі” адбойныя малаткі.

Мы будавалі горад і, як пераконвала нас начальства, будавалі для сябе. Я гэты горад ненавідзеў і таму прымаў удзел у будаўніцтве “не сошкай, а лыжкай”. І ў гэты ж дзень я не пабрыў за брыгадай на аб’ект, а завітаў у электрамайстэрню. Мне хацелася пабачыцца са сваім земляком – Міколам Лісам. Аднак у майстэрні яго не было, як і “рабацягаў”. Вырашыў пачакаць прыходу хлопцаў. Сеў на вярстак, схіліў галаву, задумаўся.

І ў гэты момант мне ўспомнілася чырвонапрэсненская перасылка і крымінальнік Федзя Марозаў. Тады ў гэтым свеце адрынутых я быў яшчэ зялёным навічком, а Федзя, ужо не раз да гэтага пабываўшы ў кума ў гасцях, расказваў мне пра лагернае жыццё. З яго аповеда ўзнікаў перада мною якісьці кашмар, які не ўкладваўся ў маім уяўленні, у якім знаходзіліся не людзі, а злыя істоты, якія адымалі адзін у аднаго кавалкі хлеба. Перабіўшы яго сумны маналог, спытаў:

– І як жа ты, братка, выжыў?

Ён паглядзеў здзіўлена на мяне, адказаў:

– Я – іншая справа, а вось табе прыдзецца цяжка.. Ты нейкі мяккі, даверлівы. А ў лагеры такім хана, затопчуць. Хіба што навучышся цярпець ці хто з лагернікаў цябе пашкадуе.

Цяпер, седзячы на верстаку, успамінаў нашую размову. У памяці ўсплылі ўсе пераЖытыя гады. Што-што, а цярпець я навучыўся. І цяпер у душы нараджаўся нечаканы пратэст: “Дык колькі ж можна і цярпець?” І зазірнуў я ў дзень сённяшні. Аднак і тут мне бачыўся усё той жа кашмар, пра які тады яшчэ апавядаў Федзя, толькі цяпер у ім узнікалі не злыя істоты, а такія ж “мяккія”, як і я.

Не дачакаўшыся хлопцаў, развярэдзіўшы душу ўспамінамі, я пакінуў вярстак. А каб зусім выкінуць са сваёй галавы ўспаміны і горкія думкі, падняў з зямлі кавалак трубы, зацінуў яе ў ціскі. Мне трэба было зрабіць

утулку. І як толькі я ўзяў у рукі пілку па метале, з шумам расхінуліся дзверы і ў майстэрню адзін за адным убеглі Тарас Супрунюк (той самы карагандзінец, які падчас знаёмства са мной у першай камеры турмы частаваў гарбатай), Толік Гусеў – малады хлопец, якога загналі сюды як члена сям'і ворагаў народа.

Толік узмахваў рукамі, быў узбуджаны, твар збялелы.

– Ды што ж гэта робіцца! – надрыўна крычаў ён. – Да якой пары можна цярпець? Чаго чакаем? Мусары лютуюць, а мы?!

Убачыўшы мяне, зразумеўшы, што я не разумею іх узбуджанасці, тут жа, горача перабіваючы адзін аднаго, тлумачылі:

– Разумееш, некалькі хвілінаў назад, у пятым аддзяленні, прама ў зоне застрэлілі чатырох чалавек. Разумееш, на вачах усіх. Людзі сядзелі на прызбе барака, грэліся на сонцы і гаварылі мірна пра сваё, і ніхто з іх  і ахнуць не паспеў, калі начальнік канвоя даў па іх аўтаматную чаргу. Мусіць жа, той начальнік разлічваў атрымаць адпачынак і пагасцяваць у маці. Але ж не ўсё кату масляніца. На гэты раз яго разлік не апраўдаўся. Гэтае зладзейства падняло на ногі усіх лагернікаў пятага аддзялення і з'явілася той іскрой, з якой успыхнула полымя. Яно перапоўніла чашу нашага цярпення, вывела людзей з раўнавагі і яны, набрынялыяярасцю, павыбягалі з баракаў, стоўпіліся ў зоне. Пратэстуючы супраць нечалавечых  да іх адносінаў, лагернікі паднялі такі адчайны крык, што, пачуўшы яго, і камень мог здрыгануцца.

– Що будэмо робить? – свідруючы мяне вачыма, чакаў ад мяне адказу Тарас. – Там, – ён кіўнуў у бок пятага аддзялення, – люды кричать. Воны просять допомоги. Це наши браття!

І ўбачыўшы, што мяне ад гэтай навіны кінула ў жар і, зразумеўшы, што мне не да адказу, выхапіў з-за папругі фінку, крыкнуўшы “будь, что будэ!”, тут жа разам з Толікам выскачылі з майстэрні.

А праз хвіліну, заклікаючы гулка і ўсхвалявана, зароў магутны, з кароткімі перапынкамі, пададзены па іх патрабаванні, гудок. Націснуў на рычаг машыніст кампрэсарнай Гарбуда. І хаця ніякіх агульных указанняў, як паводзіць сябе ў гэтай сітуацыі не было, і ніхто адзінай каманды не падаваў, усе, аднак, дзейнічалі узгоднена і спакойна. У кожнай брыгадзе і нават у звяне знайшоўся чалавек, які адразу, як толькі зароў гудок, устаў і крыкнуў, звяртаючыся да ўсіх:

– Канчай работу! Досыць! Напрацаваліся!

І калі гудок замоўк, ніводзін кран не рухаўся, не грымеў ніводзін малаток. Рабацягі групамі і ў адзіночку брылі да двух дамоў, якія дабудоўваліся, з якіх добра праглядвалася зона пятага аддзялення, – там усё яшчэ стаяў жудасны крык.

Усім захацелася ўбачыць і зразумець, што ж там адбываецца. Яны стоўпіліся ў праёмах вокнаў, цясніліся на балконах, а нехта ўскараскаўся

на дах і, махаючы сцяжкамі, спрабаваў, карыстаючыся марской азбукай, звязацца з тымі, хто крычаў. Крык той надрываў душу. Кожны чуў крык аб дапамозе, імкнуўся, каб яксьці дапамагчы таварышам, а аказаць тую дапамогу ніяк не мог. І, чуючы, бяссільна скрыпеў зубамі.

І нечакана зноў пачулася аўтаматная чарга. Людзі на імгненне стаіліся, а потым яксьці разам закрычалі, і галасы паўтары тысячы чалавек нашага ачаплення ў адзіны гучны пратэст з галасамі двух з паловай тысячаў лагернікаў 5-га аддзялення. І ніхто ў гэтую хвіліну не думаў пра небяспеку, нікому не была страшнай смерць. У гэты момант мы былі ўсе асляплены ярасцю, якая ахапіла нас, і працягвалі крычаць ва ўсё горла, здзіўляючы слых – і вольнанаёмных жыхароў бліжэйшых дамоў, якія, прыліпшы да вокнаў ці выбегшы на вуліцу, са спачуваннем глядзелі ў наш бок, і эмгэбістаў, якім не цярпелася заткнуць нам рот.

Але і тыя, і другія маўчалі. Першыя – усведамляючы сваё бяссільле, другія – разумеючы, што цяпер полымя нашага гневу ўжо не спыніць, што цяпер любая акцыя, прадпрынятая імі супраць нас, толькі падалье масла ў агонь і полымя гэтае ўзгарыцца яшчэ з большай сілай.

Берыеўцам нічога не заставалася, як чакаць, калі аціхнуць нашыя страсці. І яны чакалі, а мы крычалі і крычалі, не перастаючы. Мы ва ўсю сілу нашага голасу ўскліквалі да грамадзянскіх пачуццяў жыхароў Нарыльска і не супакоіліся нават тады, калі нам усё ж такі ўдалося звязацца з лагернікамі 5-га аддзялення і даведацца ад іх, што аўтаматная чарга, якая паласнула нас па сэрцы, была не чарговым тэрарыстычным актам, а божай карай – ёю быў забіты стукач Абрамаў,. Ён, спалохаўшыся магчымага “возмездия”, ускочыў у “забаронку”.

Нас падштурхоўвала ярасць, мы ўжо нічога не прызнавалі, акрамя яе самой і, нягледзячы на памылку, якую заўважылі, працягвалі крычаць. І крычалі доўга, пакуль не задаволіліся труслівай разгубленасцю чырвонапагоннікаў і не далі ім ясна зразумець, што гульні з аўтаматам вельмі небяспечныя.

А потым мы ўжо гулялі па зоне ачаплення; хадзілі натоўпамі узад-уперад, быццам па праспекце вячэрняга горада і гучна размаўлялі, назло ўсім і усяму свету, знарок дэманстравалі перад канваірамі сваю бяспечнасць і агіду да страху смерці.

Мы як бы стараліся пераканаць іх, што жыццё для нас не каштуе і ломанага гроша, і губляць нам няма чаго. Нехта з нас спрабаваў зацягнуць песню, але тое ўжо было задужа, і таму, зразумеўшы і адчуўшы тое, замаўкаў, замаўкаў і пад дакараючымі позіркамі сваіх таварышаў. На душы было пагана і мутарна. Мы адчувалі сябе так, як адчувае сябе прыгавораны да пакарання перад выкананнем прыгавору. І бяспечнасць нашая была ўсяго толькі шырмай, за якой, знаходзячыся ў чаканні адказу жывадзёраў МГБ, хавалі сваю трывогу

Мы таксама хацелі жыць. Але кожны з нас, зяраючы з выпрабаваннямі, якія выпалі на нашую долю, не бачыў разумнага кампрамісу. Думка гэтая была выпакутаваная намі, і многія лагернікі, апантаныя ім, прапаноўвалі не інакш як не размаўляць з берыеўцамі, як іх жа мовай, пастуапючы суадносна народнай мудрасці: як акунецца – так і адгукнецца. І пры гэтым настойвалі не чакаць, пакуль смажаны певень клюне, а пачаць каваць у майстэрнях зброю і рыхтавацца да прарыву дротавага плоту.

Абстаноўка ў зоне была дужа неспакойнай, калі не гнятучай, пагрозлівай, у любы момант магла ўзарвацца бомбай самай магутнай сілы. Насуперак нашай знешняй бравадзе трывога апякала душу. Сэрцы тахкалі ўзбуджана і не рытмічна, як зрываліся са свайго прывычнага шляху. І, мусіць, у кіраванні МГБ разумелі, у што тое ўсё можа выліцца.

Дачакаліся: у адзінаццаць гадзінаў вечара з міратворчай місіяй да нас у ачапленне Гарбуда прысунуліся пасланцы. Гэта – палкоўнік Палтава, палкоўнік Талмачоў, Гумбін і начальнікі 4-га і 5-га аддзяленняў – Няфедзьеў і Шыраеў. Убачыўшы гэтых прадстаўнікоў улады, так і падмывала ўсклікнуць: “Ба! Знакомые все лица!”.

Усіх мы іх ведалі, як сваіх пяць пальцаў. Гэта былі людзі абмежаваныя і жорсткія. Ва ўсякім парушэнні рэжыму ім мроіўся варожы сэнс, выкараняючы яго на корані, яны ў кожным канкрэтным выпадку адшуквалі завадатараў і на іх потым адыгрываліся, лічачы іх агентамі сусветнага імперыялізму.

Агульная маса людзей імі ў разлік не прымалася, яны разглядалі яе як статак, які падпарадкоўваўся бізуну пастуха. І хаця амаль кожны канфлікт з намі пераконваў іх у адваротным, аднак, згодна сваёй паліцэйскай тупасці, яны працягвалі паступаць так, як гэта было “прышчэплена” ім у галаву і прадпісвалася інструкцыямі.

Увайшоўшы у зону, уся гэтая група накіравалася не да нас, а мы стаялі каля дамоў і чакалі іх, – а па рабочых аб’ектах у разліку, што “работяги” пакінутыя на гэтых аб’ектах для падтрымання парадку, не асмеляцца супраціўляцца іх патрабаванням і сваёй пакорай дадуць ім унушальны козыр у наспелай размове з зачыншчыкамі.

І напачатку яны маглі быць задаволенымі: усё адбывалася па іх сцэнарыі, без ніякіх асечак. Яны прайшлі на электрастанцыю, і яна, станцыя, нечакана пачала працаваць, ад чаго абрадваліся пасланцы. А потым зайшлі ў кампрэсарную. І кампрэсарная запрацавала. А потым і бетонны завод прыйшоў у рух. І толькі пасля гэтага “снизошли” – падкаціліся калабкамі да нас.

Палтава свідраваў нас вырачанымі вачыма, скрыгатнуў зубамі, паслаўшы на нашыя галовы расейскі мацюк, грымнуў пытаннем:

– Чаму перасталі працаваць?! Мы расцэньваем гэта як сабатаж! Эканамічная кантррэвалюцыя! Слухайце мой загад – неадкладна прыступіць да работы!

Мы стаялі шчыльным натоўпам і ў адказ на грозны загад палкоўніка ніхто з нас нават не пераступіў з нагі на нагу. Мы стаялі перад імі як нямая сцяна, як каменная гара, і зневажальным толькі позіркам свідравалі пасланцоў.

– Вы што гэта, га? – ён пачаў ужо зніжаць гучнасць свайго голасу, неяк па-іншаму пачаў глядзець на нас, быццам перад сабой убачыў людзей, а не быдла. – Вы адмаўляецеся падпарадкоўвацца? Ці, можа, баіцёся тых, хто падбіў вас на гэты бунт?

Нямая цішыня. А потым адзін з нас, Міша Куржак, ціхім голасам, прымушаючы іх прыслухацца да яго, прамовіў:

– Мы не бунтуем. Мы б і радыя былі працаваць, ды у нас апускаюцца рукі. Навошта, скажыце, таварыш палкоўнік, працаваць? Вы ж нас за людзей не лічыце… Страляеце па нас, як па сабаках якіх звар’яцелых. Вы толькі што забілі ў пятай зоне чатырох нашых таварышаў. Што яны вам кепскага зрабілі? Што на прызбе сядзелі? Дык у іх жа перапынак быў…

– Дык то ж у пятай зоне, – перабіўшы Мішу, ускінуўся на яго капітан Няфедзьеў. – Тады чаму не працуюць брыгады чацвёртага аддзялення? У нас, у чацвёртым, не страляюць. У нас – парадак.

Я сядзеў на бетоннай балцы, моўчкі назіраў за ўсім. Мне чуваць было кожнае слова. Але пачуўшы апошняе слова капітана, скалануўся ад несправядлівасці, мяне быццам уджаліў шэршань у скроню. Я саскочыў з балкі, імгова падкаціўся да Няфедзьева. Хацелася плюнуць яму ў яго ненавісны твар, але толькі выкрыкнуў яму:

– Дык гэта у цябе “парадак”? У цябе?!

І тут мяне ўжо ніхто не мог стрымаць, я даў волю свайму абурэнню:

– А хіба гэта не ў цябе стралялі па людзях у турме? Хіба гэта не ў цябе тры чалавекі, якіх застрэліў салдат па дарозе ў лагер, былі не з чацвёртага аддзялення?!

– Дык гэта ж… – паспрабаваў перабіць мяне сталінскі паслугач, але я з новай сілай накінуўся на яго:

– Памаўчы, не перабівай! То хіба не ў цябе прывязваюць людзей да саняў і валакуць на працу? Не ў цябе? Не ў цябе хіба надзорнікі, як дзікія янычары, лютуюць ад пад’ёма да адбоя? І гэта ты называеш парадкам? Хлус і брахун!

Такі нечаканы бурны мой выпад, звернуты на Няфодзьева і яго хаўруснікаў-эмгэбістаў, прывёў іх у замяшальніцтва. Калі да гэтага наш шчыльны і арганізаваны натоўп толькі назіраў і маўчаў, то пасля маёй тырады і абурэння прачнуўся, людзі захваляваліся, загудзелі і пачуліся абуральныя крыкі:

–У нас няма больш сілаў цярпець вашыя здзекі!

– Досыць ужо дэманстраваць сваю сілу і беспакаранасць!

– Ніякай працы! Мы не рабы, мы не жывёла!

І тут нехта з нас, дайшоўшы да адчаю, ведаючы, што нічога не вырашыцца тут, у прысутнасці забойцаў-сталіністаў, выкрыкнуў:

– Пайшлі вы ўсе на х…! Мы патрабуем маскоўскую камісію! З вамі нам няма пра што гаварыць!

“Во, прачнуліся, хлопцы, – радасна падумаў я пра сваіх таварышаў. – Не, вы ўжо не натоўп, вы не разрозненыя ў сваім імкненні дабіцца справядлівасці, вы нечакана аб’ядналіся, згуртаваліся. А раз так, то нас перамагчы нялёгка, мы будзем стаяць да канца…”

І тут, пад акампанемент гучных абуральных выкрыкаў, выйшаў наперад брыгадзір беларускай 23-й брыгады Янка Гальчынскі. Ён нахмурыўся, запытальна скасавурыўся на збітае зпанталыку начальства і, пранізваючы зневажальным позіркам Палтаву, выказаў яму, быццам прынятае тут жа думкамі ўсёй групы, сваю заяву-патрабаванне:

– Вось што, грамадзянін палкоўнік, палохаць нас контррэвалюцыяй – занятак беспадстаўны, пусты. Мы колькі год палоханыя вамі, а цяпер скажам: “Хопіць нас ужо пужалі!”. І калі вы нічога не зразумелі, калі для нас не знайшлося іншых і лепшых слоў – размова скончана. Мы патрабуем выклікаць сюды маскоўскую камісію і прадстаўнікоў чырвонага крыжа, – і да іх прыбыцця да працы мы не прыступім. Гэта нашае апошняе слова.

Выказаўшы свае думкі, зрабіўшы заяву, Гальчынскі адступіў назад, павярнуўся да нас тварам і, бойка ускінуўшы галаву, усклікнуў:

– Дваццаць другая брыгада, на выхад! За мной!

І ў той жа момант людзі названай брыгады аддзяліліся ад натоўпу і пакрочылі за сваім брыгадзірам. Яны ў прысутнасці начальства зноў спынілі кампрэсарную, кацельню, бетонны завод, – і на гэты раз спынілі надоўга. Адступаць нам ужо не было куды. Мы спалілі усе масты да адступлення.

Той жа ноччу быў утвораны забастовачны камітэт. У яго ўвайшлі – Улятчанка, Нікалішын, Кушта – украінцы; я і Сямён Крот – беларусы; Трафімаў, Іван Стрыгін, Смірноў – расейцы; Петрушайціс – літовец; Рыгор Сальнікаў – іўдзей; Раман Елаян – армянін; Гладысевіч – паляк; Ахмед Гукаў – чачэнец.

Тады ж толькі што утвораны камітэт прыняў рашэнне: патрабаваць паўнамоцную камісію з Масквы, а да прыбыцця яе ні на якія пагадненні з мясцовымі ўладамі не ісці, і да работы не прыступаць. Зацвердзілі аднадушна.

Рана раніцай матрос Касьянаў з дапамогай азбукі Морзе перадаў ў пятае аддзяленне паведамленне аб прынятым намі рашэнні, і ўжо адтуль

нам адказалі, што і яны стварылі забастовачны камітэт, што высоўваюць такія ж патрабаванні. Нашыя жаданні супадалі.

Было зразумела: забастоўка набывала арганізаваны характар. Гэта нас радавала. І калі тое стала відавочным фактам, узбунтавалася шостае аддзяленне, якое складалася з дзвюх зонаў – катаржнай і ітэлаўскай (выпраўленча-працоўны лагер). Ініцыятарамі выступілі катаржанкі на чале з Марыяй Нагорнай і Ганнай Мазепа. Яны зламалі плот, які раздзяляў зоны, і, злучыўшыся з ітэлаўцамі, таксама стварылі забастовачны камітэт. У склад увайшлі – Марыя Ніч, Леся Зялінская, Марыя Нагорная – украінкі; Люда Сафрановіч – беларуска, Ірэна Марцінкутэ – літоўка, Аста Тоффі – эстонка, Ліда Даўгэ – латышка.

Даведаўшыся пра бунт у шостым аддзяленні, мы ў Гарбудзе сустрэлі гэтае паведамленне гучным адабрэннем і воклічамі. На душы ў кожнага з нас было свята.

На вялікі жаль, гэтае свята доўга працягвацца не магло. Зразумела, чаму.

З пункту гледжання МГБ – гэта быў варожы выпад супраць савецкай улады, спыніць які яно лічыла сваім патрыятычным абавязкам і доўгам. Не здрадзіла сабе гэтае ведамства і на гэты раз.

У дзесяць гадзінаў раніцы вароты нашага ачаплення расчыніліся, і ў зону ўвайшлі з пагрозлівымі тварамі людзі. Гэта былі – дырэктар Нарыльскага камбіната палкоўнік Звераў, генерал Сямёнаў, палкоўнік Жалвакоў і начальнік Гарбуду падпалкоўнік Мураўёў. Усе яны ішлі адно шчыльнай групай, а наперадзе іх, трымаючы сацыяльную субардынацыю, крочыў галоўны інжынер Гарбуду – былы наш лагернік Якушаў.

Выказваючы адносна такому высокаму начальству пашану, ім насустрач выйшлі – я, Куржак і Гальчынскі. Зраўняўшыся з Якушавым, мы спыніліся.

Куржак адрапартаваў:

– Грамадзянін галоўны інжынер! На давераным вам будаўніцтве аб'яўлена агульная забастоўка.

Якушаў агледзеўся па баках і, трохі падышоўшы да нас, адказаў:

– Дзякую за рапарт. Вялікі дзякуй! Досыць ім самавольнічаць! Малайцы! Я адабраю…

Але часу для вылівання сваіх пачуццяў у Якушава ужо не было, таму я і перапыніў яго:

– Грамадзянін галоўны інжынер, ззаду падыходзяць вашы. Праходзьце міма.

Якушаў зразумеў мяне і, згодна кіўнуў галавой, пайшоў наперад А мы засталіся стаяць, чакаючы Зверава і яго кампанію.

Падышоўшы да нас, ён нядобра паглядзеў на нас, зневажальна хмыкнуў, перакрывіўшыся тварам.

– Гэта што – перадавы пост?

– Дарэмна іранізуеце, грамадзянін палкоўнік, – спакойна звярнуўся да яго Гальчынскі. – Гэта папераджальны пост.

– Гм… – Звераў адразу нахмурыўся і ўпіўся позіркам у Гальчынскага. – І пра што ж вы хочаце папярэдзіць нас?

– А каб вы, грамадзянін палкоўнік, у размове з людзьмі не зарываліся і паводзілі сябе карэктна, не дапускаючы зневажальных выкідаў.

Потым, перавёўшы ўжо дапытлівы позірк на Сямёнава, патлумачыў:

– Людзі вельмі наструнены і азлоблены. Яны лічаць вас і генерала вінаватымі ў тым, што тут творыцца, зло творыцца. Расстрэльваеце людзей, як звяроў на паляванні. І таму вашая любая неасцярожнасць…

– Якая яшчэ неасцярожнасць?! – твар Зверава зрабіўся пунсовым, ён і сапраўды, як звер, накінуўся на Гальчынскага, гатоў быў пусціць у ход кулакі. – Вы – правакатары! Я буду гаварыць з рабацягамі! Яны ведаюць мяне.

І, ужо не слухаючы нас, энергічным крокам пакіраваў да людзей, якія збіліся ў натоўп. Следам за ім, абышоўшы нас, пайшлі Сямёнаў з Жалваковым, позаду іх крочыў Мураўёў.

Натоўп насцярожыўся, людзі прыціхлі, з трывогай глядзелі на тых, хто рухаўся ў іх бок. Яны бачылі, з якім настроем, пакінуўшы нас, насоўвалася на іх шэрая хмара сталінскіх забойцаў, таму зразумелі, што размова з намі ў іх не атрымалася.

– Здарова, малойцы! – падышоўшы да іх, гаркнуў Звераў, уяўляючы, мусіць, што ён на парадзе ў Маскве і вітае байцоў.

Яго сустрэла мёртвая цішыня – ніхто не прамовіў і слова. “Малойцы” гучна маўчалі. І тут Звераў, нешта зразумеўшы, абмяк. Не ведаў ужо, як далей паводзіць сябе. Азірнуўся на нашую грамаду, зноў перавёў позірк на “рабацягаў”.

– Вы што ж гэта, браточкі, мяне не пазнаеце?

Голас ужо не металёвы, голас мяккі, нават недзе і вясёлы. Хвіліну маўчалі, дзве… Потым нехта тым жа тонам адказаў дырэктару камбіната:

– Чаму ж не пазнаем? Як вас ды не пазнаць. На тым свеце сустрэнемся, дык пазнаем.

– Пазналі, – выгукнулі амаль разам.

– Дык у чым жа справа, браточкі? – палкоўнік ажывіўся, радуючыся, што пачала нараджацца размова. – Я прыйшоў разабрацца. Вы ж выдатныя рабацягі. Я ўжо і ліст падпісаў, каб вам выдалі прэмію, а вы вунь што надумалі… І пасылка кожнаму падрыхтавана, а ў кожнай сала, тушонка, яблыкі. Ну што ж вы, га? Што здарылася?

Нехта з сярэдзіны пачаў распіхваць сваіх сяброў, выйшаў наперад Нікалішын. Ён смела глядзеў у вочы палкоўніка, усміхнуўся горка, галавой хітнуў:

– Цікава ў вас атрымліваецца. Ты за добрую работу нават пасылкі сабраўся нам выдаць, а вось ён… – кіўнуў у бок генерала Сямёнава і яго хаўруснікаў, дадаў: – зусім перастаў плаціць нам за працу. Пазбавіў кніг, шапіка, забараніў перапіску з роднымі. Мала таго, лютуе ў лагеры як крыважэрны воўк у аўчарні, адстрэльвае нас, як дзічыну якую. Што ж тады атрымліваецца? Не складваецца пасьянс, зладжанасці няма між вамі. Ты быццам бы за справядлівасць, а ён людскія жыцці адымае… Беззаконне ўсё гэта, так яно называецца… І яшчэ…

– Ніякае гэта не беззаконне, – перабіў яго Сямёнаў. – За тое, што ўчора адбылося злачынства, начальнік канвоя аддадзены пад суд. А адносна абмежаванняў, якія вас абураюць, то гэтая мера часовая, уведзеная толькі з-за надзвычайнага становішча і ў строгай адпаведнасці з пастановай, якую падпісаў начальнік ГУЛАГу генерал-лейтэнант Даўгіх.

Тут ужо побач з Нікалішыным стаў Вася Лубінец, заўсміхаўся:

– Ага! Цяпер нам зразумела ўсё. Дык гэта, значыць, Даўгіх вінаваты ў тым, што тут адбываецца дэспатызм і самадурства! Ён, адзін ён. А вы тут збоку прыпёку, так? Выканаўцы яго волі.

– Не забывайцеся, хто вы і дзе знаходзіцеся! – раўнуў зверам палкоўнік.

– Не, мы не забыліся, мы добра пра гэта памятаем. Таму мы скажам вам вось што, – голас Васіля стаў цвёрды, упэўнены, – нам з вамі гаварыць няма пра што. Выклікайце сюды Далгіх і прадстаўнічую маскоўскую камісію, пажадана яшчэ і камісію ЦК. Так, так, ЦК, няхай палюбуюцца галоўныя камуністы, як мы жывем тут у лагеры, і як да нас адносяцца берыеўцы.

Натоўп загудзеў, захваляваўся, і быццам магутныя хвалі акіяну народнага гневу ўзняліся да аблокаў. Усе да аднаго падтрымалі Васіля Лубінца, пачалі скандаваць:

– Ка-мі-сію! Ка-мі-сію!

– Пачакайце, пачакайце! – падняў руку над галавой Звераў. – Хвілінку памаўчыце, паслухайце, што я вам скажу.

– Калі не будзеш пагражаць нам і палохаць, тады выслухаем.

Калі людзі замоўклі, звярнуўся да іх.

– Пратэстуючы такім чынам, браткі мае, вы нічога не даб’ецеся, нічо-га! Я параіў бы вам адно – спыніце вашую валынку. І калі вы перастанеце бунтаваць, абяцаю асабіста разгледзець вашыя скаргі і задаволіць законныя прэтэнзіі. І тое будзе законна. Абяцаю. Слова даю.

Зноў натоўп замоўк. Пачалі шаптацца між сабою, нешта ўзгадняць. Бачачы, што пераламаў сітуацыю, палкоўнік псіхалагічна пайшоў у наступ:

– Ну, дык што, моладцы, сварыцца будзем ці мірыцца? Лепей бы нам памірыцца, га?

І, падышоўшы да старэйшага сярод усіх Аношкіна, уперыўся ў яго позіркам:

– Вось ты, дзед, век за плячыма маеш, як думаеш? Разрулім мы гэтую сітуацыю, га? Як ты думаеш?

Пытанне заспела чалавека знянацку, ніколі з ім не гаварыла высокае начальства, тым больш не раілася, таму ён паціснуў плячыма, развёў рукамі:

– Я – што? Думаю, што памірыцца яно было б лепей.

– Малайцом! – крыкнуў абрадавана палкоўнік, агледзеў пераможна натоўп. – Вось што значыць, разумны чалавек.

– Ды толькі не бачыў я, грамадзянін палкоўнік, – працягваў ужо больш упэўнена Аношкін, – міру паміж лісам і пеўнем. Не бывае такога міру. І ўсё ты, грамадзянін палкоўнік, хлусіш, і ўсе словы твае – гэта лісіная хітрасць, выкарыстаная табой толькі для таго, каб супакоіць нас, прытупіць нашы мазгі, але потым яшчэ тужэй заціснуць пятлю на нашай шыі. Не верым мы табе. Ніводнаму слову не верым.

Звераў вылупіў вочы, не чакаў такога адказу.

– А каму ж вы тады верыце? – хітра прымружыўшы вочы, паглядзеў на Аношкіна Жалвакоў. – Ёсць такія людзі?

– Ёсць, – адказаў той. – Мы толькі сабе верым. І толькі сабе.

– А можа і зусім не сабе, а вунь тым правакатарам? – Жалвакоў паказваў пальцам туды, дзе стаялі я, Куржак і Гальчынскі. – Гэта ж яны падбілі вас на гэты злачынны сабатаж, ці не так?

– Злачынны ? – не вытрымаў Аношкін, выкрыкнуў, што было сілы. – А расстрэльваць нявінных людзей – гэта не злачынства? А марыць у карцэры да смерці, а рубашку надзяваць, да саней прывязваць – гэта не злачынства?! І можа гэта не вы правакуеце на гэтыя злачынствы салдатаў і наглядчыкаў? Заб'еш зэка – у водпуск паедзеш, га? Як жа вы такія можаце прыходзіць да нас, глядзець нам у вочы, прыгожыя прамовы баяць, ды яшчэ пальцам паказваць на людзей, якія ў параўнанні з вамі – анёлы Божыя, а ў нашых вачах – героі, прыклад мужнасці! Эх вы, мярзотнікі!..

Аношкін ў адчаі махнуў рукой і павярнуўся да лагернікаў, на іх вызверыўся:

– А вы чаго стаіцё – вушы развесілі? Ану марш адсюль! Усім разысціся. Тут няма каго слухаць. Усім разысціся!

І праз колькі хвілінаў на пляцоўцы перад дамамі засталіся толькі чацвёра эмгэбэшнікаў, галоўны інжынер ды мы трое.

Не чакалі яны такога, ой не чакалі. Не ведалі, як з гонарам выйсці з гэтай сітуацыі. Міша Куржак заўсміхаўся, падышоў да Зверава, заўважыў:

– Не выйшаў з цябе, грамадзянін палкоўнік, дыпламат. Навука не тая. А мы ж цябе папярэджвалі, не паслухаў. А цяпер што, не валодаеце вы сітуацыяй, яна поўнасцю ў руках паўстанцаў.

– Што, ужо і паўстанне? – як не скалануўся Звераў.

– Яшчэ не, але спее, і вам яго ўжо не стрымаць.

Палкоўнік хмыкнуў, але ўжо не падымаў крыку, толькі злосна скасавурыўся на нас, нічога не прамовіў. Моўчкі адвярнуўся, пакрочыў у бок варот.

Следам за ім пацяліся і астатнія яго памагатыя.

Мы адчулі сваю першую перамогу. Няхай і не вялікую, але перамогу.

8

***Самі сабе здрадзілі...***

Сустрэчы нашыя працягваліся. Я называў яго “дзядзькам, спадаром, панам Рыгорам”, – у залежнасці ад абставінаў і настрою майго субяседніка. На табло, які паказваў яго настрой, стрэлка стаяла недзе пасярэдзіне “дугі”.

Ён мог быць пахмурным і вясёлым, мог быць засяроджаным у сябе і не настроеным на размову. А то маўклівым, калі хацелася проста памаўчаць і глядзець некуды ўдалячынь. Зразумела, што тады да дзядзькі Рыгора не трэба лезці з роспытамі ці пытаннямі, лепей за ўсё – самому маўчаць, калі ён схамянецца і скіне са сваіх плячэй і настрою нябачную палярыну, і не паглядзіць у вочы.

– Кепска, браце, калі цябе не разумеюць твае ж былыя аднадумцы і паплечнікі, – уздыхае і зноў маўчыць. – Здаецца, яны ўчора былі “сваімі”, змагаліся за агульную ідэю, а сёння…

Моўчкі падае мне два аркушыкі паперы. З тэкстам, надрукаваным на машынцы. Разгортваю, чытаю.

*“Ассоциация жертв политических репрессий». Гомель, улица Крестьянская, 14. 23 июня 1994 г.*

*В благотворительный фонд А.И. Солженицина.*

*(оригинал текста)*

Со дня основания Гомельской ассоциации жертв политических репрессий в 1991 году в неё хотел вступить Климович Г.С., но по Уставу Белорусской Ассоциации жертв политических репрессий он на это не имел права, так как был не репрессированным, но собрания ассоциации посещал.

В силу сложившихся обстоятельств в ассоциации первый председатель должен был оставить свою должность (за мошенничество). На вакантную должность не было желающих. Поэтому общее собрание решило избрать Совет ассоциации и не взирая на предписание Устава, ввести в Совет Климовича Г.С., а Совет решил избрать председателем ассоциации его же, учитывая (по его рассказам), что он, бедолага, про-

бывший в заключении более 10 лет, был одним из руководителей восстания, заключённых в Норильске в 1953 году, имеет гонения со стороны КГБ, который лишает его реабилитации. Говорил, что срок отбывал по 58-й статье, но никому не рассказывал, что он во время Отечественной войны прошёл немецкую школу разведки в Белоруссии, в 1943 году был заброшен в тыл нашей Армии и был пойман и осуждён. Он изображал из себя несчастного, несправедливо гонимого человека. Мы ему сочувствовали, советывали написать в Москву, в КГБ о пересмотре дела, но он отвечал, что его дело затеряно и разыскивать его нет смысла, так как он уверен, что положительного результата не будет. В основном, он внушал людям, что он бывший руководитель восстания в Норильске, видная личность, герой.

Этого «героя» мы избрали председателем ассоциации, но продержался он на этой должности всего три месяца, так как в лице членов ассоциации потерял доверие и уважение к себе. В течение 3-х месяцев выяснилось что собою представляет этот человек. Он начал действовать не как председатель ассоциации жертв политических репрессий, а как представитель блатного мира – врать, самовольничать, презрительно относиться к членам ассоциации, вносить бредовые идеи, лгать. Без ведома Совета ассоциации, при помощи бухгалтера ассоциации, которая сняла с нашего расчётного счёта деньги и отдала их Климовичу, который самовольно раздал их некоторым членам ассоциации (своим приверженцам): Кашкину И.Д., Васильеву В.П., Карпелю Ю.Г., Белому В.П., Борисенко М.И., Дорофееву М.И., Шаповалову А.И.; во время войны служившим в полиции, а поэтому не реабилитированным: Косарю Т.В., Кушнерову И.С., Вострикову Т.Я.; человеку с улицы, но умевшему хорошо прислуживать Климовичу – Кремерову М.С. Все эти люди растащили и немецкую вещевую помощь с позволения Климовича. Всем материальным Климович Г.С пользовался сам и снабжал свою команду, а идейное он отдавал членам ассоциации – выходить с транспарантами на главную площадь Гомеля и клеймить позором коммунизм.

А так как шило в мешке не утаишь, Климович Г.С и его команда были разоблачены, общее собрание ассоциации потребовало от Климовича объяснения и отчёта за розданное им из-за пазухи и разворованные вещи. Климович объявил, что он не обязан отчитываться, что ассоциация больше не интересует его и он посещать её считает ниже своего достоинства, что у него есть более интересное занятие – ходить по школам и рассказывать учащимся о сталинских репрессиях. Для нас, членов ассоциации, такое сочетание непонятно. С одной стороны – он проповедник правды и справедливости, с другой – исполнитель бес-

честных и наглых поступков, носитель бредовых идей (на заседании Совета высказал своё решение о взыскании с Гомельского КГБ 4 миллионов рублей и созыва международной конференции бывших сталинских узников в Гомеле, где он будет председательствовать. Это не последняя «идея» мании величия в его голове. Такой бред может носить только больной мозг).

Мы знаем, что Климович получал и получает гуманитарную помощь с фонда А.И. Солженицына, которую раздаёт по своему усмотрению, как купец – из своего кармана, своей команде. Мы, члены Гомельской ассоциации хотим знать, на каком основании Климович Г.С. в течение двух лет и более получает помощь с фонда А.С. Солженицына? Чем заслужила его «команда» (вышеуказанная по-фамильно) эту благотворительность?

Просим руководителя этого фонда в Москве, разъяснить нам, членам Гомельской ассоциации, члены которой прошли невинно через ГУЛАГ, ныне все реабилитированны, имеют возраст с 1904 года и дальше, а человеку, в нашем понимании, недостойному особенного внимания.

Мы думаем, что получим ответ на это письмо, а поэтому просим вместе с ответом сообщить нам адрес местожительства А.И. Солженицына. Мы хотим написать приветственное письмо ему, по поводу его возвращения на Родину.

Надеемся получить ответ, за который заранее благодарим.

С уважением председатель ассоциации В. Гарбузова. *(подпись).*

Члены Совета: З. Радько, Т. Павлова, Г. Жукова, Л. Басенкова, Е. Бреднева, Г. Дедеркович, Н. Егорова, А. Соколов, О. Чугуева, И. Сечко *(все поставили свои подписи).*

– Дзіўная пазіцыя, – прачытаўшы ліст, аддаю назад, – і чаго яны хацелі дабіцца?

– І сам не ведаю. Не падзялілі “гуманітарку”, не ўсім яна дасталася? А грошы я не прысвойваў сабе, раздаў, хто ў тым меў найперш патрэбу. Але яны не выказалі галоўны папрок – я дабіваўся і прапаноўваў, каб у нас панавала ў краіне родная мова, каб не душыла яе расейская, каб і з тымі патрабаваннямі мы выходзілі на плошчу. І каб нашая асацыяцыя называлася “Асацыяцыя ахвяраў сталінскіх рэпрэсіяў”. Яны заставаліся, на жаль, яшчэ ў савецкім часе, і Сталін для іх, як і КДБ – як бацькі родныя, як і тая ж кампартыя.

– Ды і ліст сам непісьменны, з памылкамі, і з расейскай мовай у пасквілянтаў не ўсё добра.

– Так, сапраўды. Галоўны ж папрок, які яны выказваюць, што я не меў даведку аб рэабілітацыі. А на які ляд мне тая даведка, калі яна нічога не дае? І што – без той даведкі я чалавек другога гатунку? Альбо не чалавек зусім? Для чаго яна ім?

На дзіва голас у спадара Рыгора спакойны, нават з прымессю посмішкі, здзеку над абставінамі, у якіх ён апынуўся. Нават не здзіўленне, бо да ўсяго ён прывык, а іронія, смеху вартая.

Ён падае мне канверт з лістом.

– Гэта з музея Нарыльска.

“Добрый день, глубокоуважаемый Григорий Сергеевич!

Извините за задержку с ответом – хотела дождаться ответа из прокуратуры, во-первых, а во-вторых, были тут кое-какие перемены в моей работе: уволилась из музея, ушла на пенсию, подрабатываю в школе. Непрывычно, трудно, не хватает времени на всё. В музей захожу по субботам, потому что работу по репрессированным оставлять не хотелось бы.

*Высылаю Вам справку о реабилитации по второму делу.* Первое всё ещё не найдено, хотя я отправила запросы куда только возможно. В Подольск ещё сегодня напишу, может быть, у них осталось дело?

………………………………………..

За адреса большое спасибо, попробую написать, хотя сейчас будет всё сложнее. Прошу Вас писать на мой домашний адрес *(663300, Норильск, ул. Комсомольская, 38-5, А.Б. Макаровой).*

………………………………………

Я сейчас занята темой «Иностранцы в норильских лагерях». Нашла здесь кадровые личные дела Жака Росси и Ганса Еллинека, некоторых поляков и т.д. Кстати, Жак тоже собирается в Норильск. Продолжаю собирать материалы и фотографии о восстании, о каторжанах в Норильске, о военнопленных советско-финской войны и т.д.

…………………………………………

Разрешите всё же самой первой *поздравить Вас с реабилитацией*, пожелать здоровья и всего самого наилучшего Вам и семье. В гости ко мне приглашаю хоть завтра.

С уважением *А. Макарова.*

P.S. Справку и 3 копии справки о реабилитации попросила отправить заказным письмом через музей. Надеюсь, получите или уже получили? Пишите!

………………………………………………

9

Дарэмна хваляваўся Рыгор Клімовіч за недасканаласць сваіх радкоў. З першых старонак яго нататак зразумеў: валодае ён словам, мае літаратурны талент, і выпісвае кожнага героя як сталы літаратар. У яго свая манера пісьма, глыбокая псіхалогія герояў – дадатных і адмоўных, – з цікавасцю прачытаў да апошняга радка.

Тады ён мне даў працяг сваёй нялёгкай працы.

І той жа стыль, тая ж занепакоенасць, той жа боль, якi не пакiдае аўтара ўвесь час.

***Подзвiг вязняў з кнiгi «Канец Гарлага»***
*(працяг)*

…Калi Звераў са сваёй кампанiяй пакiнулi нас, да мяне падышоў незнаёмы брыгадзiр, спытаў:

– Што тут у вас адбываецца?

– Забастоўка, – адказаў яму. – Страйк.

Растлумачыў, што за забастоўка, з-за чаго яна пачалася i ў iмя чаго. Папрасiў яго падтрымаць нас, i свой голас падаць супраць дэспатычнага самавольства i ў абарону вязняў, якiя сядзелi па артыкулах, якiя не падлягалi амнiстыi, менавiта – па 58-ым, 193-ым (за дэзертырства) i Загаду ад 7-8 жнiўня 1932 года (за крадзёж сацмаёмасцi), патрабаваць перагляду спраў па гэтых артыкулах.

Як аказалася, брыгадзiра i агiтаваць не трэба было. Выслухаўшы мяне, павярнуўся да сваiх людзей i загадаў iм здаць iнструменты i стаць у шыхт. А калi тыя выканалi яго загад, звярнуўся да канваiра, крыкнуў яму:

– Начальнiк! Вядзi ў зону. Працаваць не будзем. Мы ўсе тут адной вяроўчынай звязаны – нам тут адзiн без аднаго нельга.

Паводзiны гэтага брыгадзiра i адносiны да забастоўкi галоўнага iнжынера Гарбуду падбадзёрылi нас. Стала зразумела, што людзi Нарыльска спачуваюць нам i многiя гатовы падтрымаць нас практычна, толькi чакаюць нашага цвёрдага слова. I мы з такiм словам прамаруджваць не сталi.

А 13-й гадзiне над Нарыльскам з’явiўся першы папяровы змей, якi нёс на сабе 80 улётак. Яны былi перавязаныя падпаленым ватным шнурам. У вызначаны, дакладна разлiчаны час, шнур перагарэў, папера рассыпалася i вецер разнёс iх па прызначаным раёне. Змей быў адным з тых прыдумак, на якiя, так бы мовiць, гальцьба багатая, i цяпер мы запускалi яго штодня, iнфармуючы нарыльчанаў аб становiшчы ў нашым ачапленнi i ў зонах 5-га, 6-га, а таксама 4-га аддзяленняў, аб становiшчы ў якiх мы даведвалiся ад кухара, якi прывозiў у ачапленне кармёшку.

Тым кухарам з’яўляўся былы iранскi лётчык. У 1948 годзе падчас начнога палёту ён збiўся з курса i быў вымушаны здзейснiць пасадку на адным з аэрадромаў у Арменii. Калi ж iранскi ўрад паслаў запыт аб знiклым летаку ў савецкiм небе, кампетэнтныя органы адказалi, нават надрукаваўшы адказ у газеце “Праўда”, што самалёт разбiўся, а лётчык загiнуў. А каб гэтая версiя нiкiм не магла абвергнуцца, у кабiнетах МГБ

Абдулу ператварылі ў Кузьму, далі расейскае прозвішча і ў такім выглядзе даставілі ў Гарлаг. Так ён стаў нашым кухарам. Ён не ведаў зусім рускай мовы. Нават прабыўшы ў нас тры гады, ён не асвоіў яе, нават не ўмеў па-расейску мацюкацца. Размаўляў з намі мовай жэстаў і мімікі. Звычайна яго ўменне размаўляць забаўляла нас, выклікала ўсмешкі, але падчас забастоўкі яго “мова” стала адзінай крыніцай, з якой мы чэрпалі звесткі пра тое, што рабілася ў 4-ым аддзяленні. І, слухаючы яго, мы ўжо не ўсміхаліся, а па сапраўднаму ламалі галовы, стараючыся па меры нашых лінгвістычных здольнасцяў разабрацца ў тым, пра што ён нам апавядаў.

– Там… вычор… лагера, – гаварыў ён нам, прыехаўшы з абедам у першы дзень забастоўкі – 26 траўня, – канвой на вышцы бух-бах стрэліў Петра Клімчук. Людзі злой, крыкі. І начальнік злы, крычыць. Начальнік хоча Клімчук узяць. Людзі не хочат. Сыгодні зона, на стол… труна… Людзі ходят у гроб… на каленкі… Плачут… Усе плачут… Скора тры гадзіны. Похараны. Прасіл пяць мінут усім похараны Клімчук. Будзе вялікі гудок. Зона гулок. Похараны пяць мінут… Тры часа. – І, ўзяўшыся рукамі за галаву, застагнаў са слязьмі. – Ой-ё-ёй! Гора! Людзі, гора. Бальшой хіпіж. Ой-ё-ёй…

А праз хвілінаў дваццаць, абмеркаваўшы гэтае паведамленне Абдулы і прыйшоўшы да адзінай думкі адносна яго зместу, мы адразу ж перадалі на 5-ае і 6-ае аддзяленне наступнае:

– Учора, вечарам, у 4-ым аддзяленні застрэлілі Пятра Клімчука. Пахаванне будзе ў зоне сёння ў тры гадзіны дня па гудку кацельні. Просяць падчас пахавання Клімчука усім, у яго памяць, адзначыць пяціхвілінным маўчаннем.

Клімчука ў нашым аддзяленні ведалі амаль усе, і хто ведаў яго, вельмі шкадавалі, што ў гэтыя хвіліны не змаглі быць у аддзяленні, каб развітацца з ім.

Ведаў Петруся і я. Ён быў маім першым знаёмым з карагандзінскага этапа. У ачапленні царавала маркота. Людзі размаўлялі на паўголаса, а то і зусім шэптам. Быццам нябожчык ляжаў каля нас, а не ў далёкім аддзяленні. І чым меней заставалася да трох гадзінаў, тым больш нараджалася гнятлівая цішыня і ўсё большы лік зэкаў выходзіў з дамоў у зону, яны моўчкі цясніліся ля сценаў на сонечным баку дамоў.

Людзі чакалі пахавання. Але кожны ў душы спадзяваўся, што, можа, гэта ўсё няпраўда, што можа не рускі чучмек наблытаў ці яго няправільна зразумелі. На жаль, усё тое было прандай.

І роўна ў тры гадзіны, балюча паласнуўшы па душы кожнага, цішыню разарваў далёкі глухі мінорны гудок. І ў той жа час, паўтараючы яго, зароў гудок нашай кампрэсарнай. Ва ўсіх зонах дваццаць тысячаў чалавек у адно імгненне знялі шапкі і, выпраміўшыся, зніякавелі на месцы.

Нервовыя спазмы сціснулі горла. Упершыню мы хавалі свайго таварыша. Людзі плакалі, па шчоках у кожнага каціліся слёзы.

Мы аплаквалі яго, аплаквалі і дзясяткі тысячаў іншых, якіх пахавалі ў Мядвежкі. Усе яны сталі ахвярамі беззаконня і жорсткасці, загінулі заўчасна, не маючы нават свайго імя. Яны заклікалі нас да помсты. І, ільючы слёзы, кіпелі абурэннем. І ў гэтыя жалобныя хвіліны пахавання Пятра Клімчука кожны з нас, пакуль яшчэ мы адносіліся да жывых, даваў сабе клятву ніколі не забываць гэтага нашым турэмшчыкам і рабіць усё, што ў нашых сілах, каб стрымаць сваю клятву.

І мы яе стрымалі.

Пасля, як прайшло пахаванне, у неба зноўку паляцеў наш папяровы змей з лістоўкамі, а на сцяне, звернутай да Нарыльска, з’явіўся дзесяцімятровай даўжыні лозунг: “Грамадзяне Нарыльска! Паведаміце ЦК партыі і ААН: нас морацъ голадам і забіваюць. Мы просім дапамогі!”

Эмгэбісты, зразумела, нерваваліся. Нашы дзеянні выводзілі іх з сябе. Яны разумелі небяспеку, якая заключалася ў такіх дзеяннях, але не маглі знайсці выхад з гэтай сітуацыі, як “навучыць нас уму-разуму”, як зрабіць так, каб мы спынілі ўсё гэта. Яны біліся над пытаннем, якое ніяк нельга было вырашыць.

А між тым ва ўсіх раёнах Нарыльска ўжо чыталі нашыя лістоўкі, і забастоўка нашая шырылася, набірала сілу.

27 траўня не вышлі на развод лагернікі 1-га і 3-га аддзяленняў Гарлагу. Камбінат, жыццездольнасць якога залежала ад лагераў, спыніўся. Патухлі адлюстравальныя печы, сціхлі канвертары, перасталі выпускаць дым трубы медзеплавільных заводаў, нікелевага, БОФа. Замоўк рабочы гул у рудніках і на будаўнічых пляцоўках.

Нарыльск баставаў. Гэта была ўжо калектыўная салідарнасць таварышаў, аднолькава стомленых трываць бесчалавечныя і жорсткія адносіны да нас. А па меры таго, як расла тая салідарнасць, уладам усё больш і больш рабілася зразумелым, што ім сваімі сіламі з намі не справіцца.

Аднак, нягледзячы на дадзены факт, выклікаць прадстаўнічую камісію не спяшаліся: яны баяліся, што не змогуць даць тлумачэнні таму, што здарылася. Ведалі, што камісія можа заняцца пошукамі такога тлумачэння ў іх непасрэдных дзеяннях. А такія пошукі, зразумела, нічога добрага ім не дакляравалі. У іх ва ўсіх, так бы мовіць, было рыла ў пуху, таму, выбіраючы з дзвюх бедаў меншае, генерал Сямёнаў прапанаваў авантуру.

Ён выклікаў да нас не камісію, як мы таго патрабавалі, а намесніка міністра каляровай металургіі генерал-лейтэнанта Панюкова. Ён задоўга да гэтага доўгі час быў дырэктарам Нарыльскага камбіната і славіўся сваім лібералізмам. Асабліва дадатна адгукваліся аб ім ітээраўцы. Па

іх словах, ён даражыў імі і, выкарыстоўваючы іх па спецыяльнасці на будаўніцтве БОФа і 2-га нікелевага завода, патрабаваў, каб аператыўнікі і наглядчыкі не надакучвалі ім сваімі грубымі адносінамі і ўціскам. Таму яны лічылі Панюкова талковым начальнікам, які ўмее знаходзіць з людзьмі "агульную мову". Час яго дырэктарства ўспаміналі як найбольш шчаслівы час, калі можна так сказаць, знаходжання ў лагеры.

Тады, як ён працаваў, зняволеныя прафесары – Юшко і Шэйка-Сахноўскі, – выкладалі ў горна-металургічным тэхнікуме, а Станіслаў Міхайлавіч Бігель сядзеў у адным кабінеце з палкоўнікам Агафонавым – намеснікам Панюкова. То быў той час, калі ў сувязі з дзяржаўнай неабходнасцю, выкліканай пасляваеннай разбуранасцю, мірна ўжываліся разам драпежнікі і іх ахвяры… Але той час даўно мінуў. Кіруючыся дактрынай Сталіна, які сцвярджаў, што чым бліжэй да сацыялізму, тым больш жорсткі робіцца класавы вораг, МГБ пастаралася ўсё паставіць на сваё месца.

У Нарыльску былі створаны Гарлаг і Цэмбуд, і прафесары Шэйка-Сахноўскі і Юшко, як і ўсе ітээраўцы, ужо не толькі не карысталіся ніякімі прывілеямі, а былі нават залічаны ў разрад самых небяспечных ворагаў народа, – а цяпер узначальвалі страйк. Для іх пры гэтых новых адносінах, якія на дадзены момант усталёўваліся паміж лагернікамі і адміністрацыяй, генерал Панюкоў ужо не мог быць аўтарытэтам.

Пратэстуючы супраць гвалту, самавольства і дэспатызму, мы аднолькава пратэставалі і супраць таго, чаму нас падставілі сёння і супраць таго, што перажылі ўчора. На жаль, генерал Сямёнаў гэтага не разумеў, ці не жадаў разумець. Ён па наіўнасці сваёй думаў, што Панюкоў зможа дамовіцца з тымі, хто раней працаваў з ім, а тыя, стаўшы штрэйкбрэхерамі, зробяць разлад у нашым адзінстве, і тады мы ўжо будзем вымушаны спыніць страйк. Не меў сумневу ў поспеху гэтай авантуры і сам Панюкоў.

Атрымаўшы ад Сямёнава паведамленне аб "валынцы", прамаруджванні з нашага боку, ён адразу вылецеў у Нарыльск. А ўжо 29 траўня ў суправаджэнні Зверава, Сямёнава і вялікай світы старшых афіцэраў МГБ прыбыў у нашае ачапленне.

Убачыўшы яго, мы ўсе, хто знаходзіўся ў ачапленні, лагернікі, сабраліся на расчышчанай пляцоўцы, спераду ўжо абжытага намі дома.

– Што ж вы такое, сыночкі, утварылі? – спытаў ён, падышоўшы да нас. Мусіць, адчуваў сябе нашым бацькам і дабрадзеем.

– Захацелі людзьмі звацца, – зрабіўшы крок наперад, патлумачыў яму Куржак. І дадаў: – А вось сыночкамі тваімі не хацелі б быць.

– Чым жа я так не дагадзіў вам?

– Чулі мы ад людзей, – працягваў тлумачыць Куржак, – што быццам калі твой родны сын на фронце быў, ты, знаходзячыся тут, у Нарыльску,

жонку ад яго адабраў. А потым, калі твой сын захацеў убачыцца з табой і пагаварыць, ты яго далей Ігаркі не пусціў і ён месяц сядзеў на Ігарцы, чакаў – ці не пацяплее бацькоўскае сэрца. Але, бачна, на палярным марозе тваё сэрца заледзянела. І ён так і паехаў, не пабачыўшы бацьку. Ці мы хлусім, таварыш начальнік?

Панюкоў недаўменна развёў рукамі.

– Я не разумею, як суадносіцца гэтая праўда з тым, што вы ўдумалі зрабіць.

– Даруйце, грамадзянін генерал, – у размову ўжо ўмяшаўся Гальчынскі. – Перш, чым размаўляць з вамі, мы хацелі б пераканацца – ці можна вам верыць. Аказваецца – нельга. Калі вы ўжо такое з родным сынам утварылі, то чаго ж нам, чужым для вас, чакаць ад вас?

– Ды пры чым тут мае адносіны з сынам?! – абурыўся Панюкоў. – Урэшце-рэшт гэта мая асабістая справа. Можа не ўкраў я яе, а сама да мяне збегла. Гэта ж іншае. А верыць мне ці не верыць – вы пацікаўцеся пра гэта ў сваіх старэйшых таварышаў. Мяне ў Нарыльску ведае шмат людзей, і не хаваю ад іх свае вочы. – Пры гэтых словах ён бадзёра ўскінуў галаву і, шукаючы некага ў натоўпе, выгукнуў: – Тут ёсць ітээраўцы, якія працавалі разам са мной?

– Ёсць, – наперад выйшлі Доніч, Шэйка-Сахноўскі і Клетчанка.

– Уладзімір Дзімітрыевіч, – звярнуўся ён да Доніча, – спадзяюся, цябе не трэба пераконваць, верыць мне ці не, ты мяне ведаў не адзін год. Ты скажы мне, што тут адбываецца? Чаму камбінат не працуе?

У Панюкова ўспацеў лоб, але ён не даставаў хусцінку і не выціраў яго, стараючыся не выдаваць свайго хвалявання і абурэння, але ў яго колькі разоў дзёрнулася левае плячо, што выдавала яго настрой.

– Вось гэтыя людзі, – Доніч кіўнуў галавой у наш бок, – не жадаюць больш цярпець беззаконне і патрабуюць перагляду спраў у адкрытым судзе па месцы іх ранейшага жыхарства.

– Вы гэта сур’ёзна? – акругліў вочы генерал, не чакаючы такіх патрабаванняў.

– Як бачыце – сур’ёзней ужо не бывае.

– А вы асабіста як да гэтага адносіцеся?

Доніч зневажальным позіркам свідраваў генерала Панюкова.

– А у мяне, грамадзянін генерал, да вас асобны рахунак. Вы ўзурпіравалі ўладу і абышлі бокам ідэі Кастрычніцкай рэвалюцыі, за якія я ўсё жыццё змагаўся ў радах прыхільнікаў Леніна. Я буду патрабаваць не толькі перагляду справы, якое, дарэчы, скляпалі курам на смех…

– Патрабуйце, – перапыніў генерал Доніча і тут жа нахмурыўся, прыжмурыў векі, – але не парушайце парадак. Не спыняйце камбінат, калі краіне дарагі кожны кілаграм медзі і нікеля. За такое – ведаеце… – І ён тут жа перавёў свой строгі камандзірскі погляд на Шэйка-

Сахноўскага. – Я думаю, вам, прафесар, тлумачыць гэтае няма патрэбы?

– Чаму ж няма? – запярэчыў спакойна Глеб Паўлавіч. – Растлумачце. І я паслухаю. Толькі хачу сказаць вам з усёй адказнасцю: пакуль не прыедзе сюды маскоўская камісія і не задаволіць нашыя прэтэнзіі – мы забастоўкі не спынім.

– Як?! – ускінуў калматыя бровы Панюкоў, не чакаючы такога ад прафесара, на якога спадзяваўся, што ён падтрымае яго ў спрэчцы з зэкамі. – І вы туды ж? Заадно з імі? Нічога не разумею. Я не пазнаю вас. Вы заўсёды былі такім разважлівым і памяркоўным, а тут… Які шалёны сабака вас укусіў? Вы згубілі пачуццё рэальнасці, забыліся, дзе знаходзіцеся і ўзнялі голас супраць савецкай улады…

Глеб Паўлавіч не вытрымаў і рассмяяўся. Ён смяяўся над генералам, смяяўся над яго словамі, якія нічога не значылі.

А натоўп, пачуўшы ў словах Панюкова пагрозу, адразу прыйшоў у рух, гучна закрычалі людзі, патрабуючы спыніць перамовы.

– Досыць! Наслухаліся пустабрэхаў!

– З кім тут размаўляць, сябры? – крыкнуў Слава Жыленка. – Гэта ж такі груган, як і Сямёнаў. Яны адзін аднаму вока не выклюнуць.

А Толік Гусеў, ускочыўшы на нейкую скрынку, стаў вышэй за ўсіх, заклікаў натоўп:

– Браточкі мае! Канчай з ім баланду травіць. Ён лічыць савецкай уладай мусароў, якія здзекваюцца над намі? Каго мы слухаем? Салаўягэбэшніка? Хопіць нас ужо пужалі, мы пужаныя даўно…

– Хопіць нас пужаць! – грамчэй за ўсіх крыкнуў Касьянаў, звяртаючыся адначасова і да Панюкова, і да лагернікаў. – Сярод нас няма больш палахліўцаў. У нас ёсць свой сцяг і ёсць дэвіз – свабода ці смерць!

І дзясяткі ўжо лагернікаў, падхапіўшы кінуты Касьянавым заклік, пачалі скандаваць:

– Свабода ці смерць! Свабода ці смерць!..

Генерал адышоў ад нас, спыніўся каля Зверава і Сямёнава. Перакінуўся з імі некалькі словамі. Праз хвіліну яны пакінулі ачапленне.

Пайшоў ад нас генерал-лейтэнант як пабіты цюцька. Яго распірала зло, ён не знаходзіў сабе месца ад шаленства гневу. Асабліва яго ўзлавалі паводзіны некалі пакорлівых ітээраўцаў. Ён ніяк не мог забыць іх здзеклівыя позіркі і смелыя прамовы.

Каб адпомсціць ім, ён распарадзіўся падкінуць ва ўсе лагеры і ачапленні лістоўкі, у якіх ён звяртаўся да зэкаў і прасіў іх не слухацца правакатараў ітээраўцаў, аб’ядноўвацца супраць іх і збягаць з зоны. Ён пайшоў і яшчэ далей. Загадаў генералу Сямёнаву сабраць пад сваё асабістае камандванне афіцэраў, уварвацца разам з імі ў якое-небудзь аддзяленне, захапіць ітээраўскі барак, узяць яго жыхароў і прымусіць іх

выступіць супраць сваіх аднадумцаў. Панюкоў яшчэ спадзяваўся, што ён возьме рэванш.

І ўжо вечарам 29 траўня ў нашым ачапленні і ва ўсіх аддзяленнях Гарлага з'явіліся лістоўкі. Аднак таго, што чакаў Панюкоў, не адбылося. У лагерах мацнела адзінства. Ні адзін зняволены з зоны не пабег. Наадварот, тыя ўлёткі зняважылі "рабацягаў". Яны ўбачылі ў іх знявагу свайго гонару і яшчэ мацней пацягнуліся да ітээраўцаў.

Ва ўсіх аддзяленнях успыхнулі стыхійныя мітынгі, на якіх усе разам, як тыя запарожцы пісалі турэцкаму султану, так і тут знайшліся вастрасловы і напісалі ў адказ Панюкову. Але ён стаяў на сваім.

30 траўня а палове адзінаццатай гадзіны да варот 5-га аддзялення нечакана пад'ехалі чатыры пажарныя машыны. Адразу пасля іх падышоў вялікі, каля трохсот чалавек, атрад афіцэраў, які ўзначальваў генерал Сямёнаў.

Паднятыя па трывозе ўсе лагернікі выскачылі з баракаў і густой шэрай сцяной расцягнуліся насупраць варот ва ўсю шырыню зоны. Яны перакрылі ўсе шляхі ў лагер, у тым ліку і да ітээраўцаў. Заспець іх знянацку не ўдалося. Але генерала Сямёнава той факт не засмуціў. За доўгія гады ў органах яму не аднойчы прыходзілася "абламваць рогі" зэкам, хто ўзбунтаваўся, і па сваім вопыце ведаў, што такія зэкі былі героямі толькі да тае пары, пакуль іх не бралі "за жабры". І тады ад іх геройства не заставалася і следу. І нас ён бачыў такімі ж героямі. І маючы пад сваім крылом не дзясяткі наглядчыкаў, а сотні афіцэраў, у поспеху не сумняваўся.

Звярнуўшыся да начальніка аховы, загадаў адчыніць вароты І, клічучы за сабой афіцэраў, рашучым крокам накіраваўся моўчкі да лагернікаў.

– Усім легчы! – што сілы гаркнуў генерал, падышоўшы да іх.

Але лагернікі не зрушылі з месца, як стаялі сцяной, так і працягвалі стаяць.

– Яшчэ раз загадваю – лажысь!

Ніхто не зварухнуўся. Бачачы такое, уз'еўся, расчырванеўся, ад бяссілля падаў новую каманду:

– Узяць іх!

І ў той жа час пачуўся зычны голас лагерніка:

– Бі іх! Усіх не пастраляюць!

І здарылася непрадказальнае. Афіцэры спыніліся, а сцяна зняволеных уздрыгнула і пасунулася на іх, ахопліваючы іх з флангаў і беручы ў абцугі.

– Адразай ад варот! – вёў рэй той жа актыўны лагернік.

– Не выпускаць іх з зоны. Смерць катам! Смерць!

І тут генерал Сямёнаў раптам уцяміў, што гэта не ранейшыя часы.

І, спалохаўшыся магчымасці апынуцца ў непрыемным становішчы, кінуўся на ўцёкі. А следам за ім, піхаючыся і абганяючы адзін аднаго, пабеглі і афіцэры.

А лагернікі заулюлюкалі і, цясней сціскаючы іх з усіх бакоў, пагрозліва крычалі:

– Тармазі іх!.. Трымай!.. Збівайце іх як паганую псіну!..

А на самай справе яны нікога не тармазілі, не трымалі і нікога не білі. Яны толькі крычалі, вымяшчаючы сваю крыўду на сваіх крыўдзіцеляў. Але ахопленыя панікай афіцэры гэтага не заўважалі і, чуючы тыя крыкі, стараліся як найхутчэй вынесці ногі з зоны.

Не заўважылі гэтага і пажарнікі. Убачыўшы, што сцяна лагернікаў насоўвалася, а генерал павярнуў ужо да варот, яны, не раздумваючы, запусцілі рухавікі і халоднай вадзічкай з чатырох брандсбойтаў пачалі паліваць і нас, і іх, ад чаго паніка сярод афіцэраў узмацнілася. Яны пачалі слізгаць і падаць – і вокаімгненна з чысценькіх сталі брудненькімі. З гордых арлоў ператварыліся ў мокрых курэй, якія выбягалі з чужога двара.

Тое трэба было паглядзець, на ўсё жыццё запомніць, і гэта было нашай найбольшай марай. І, назіраючы за гэтым спектаклем, мы ў сваім ачапленні мелі такі душэўна-іранічны пад’ём, як і нашы таварышы 5-га аддзялення, і разам з імі, узмацняючы страх афіцэраў, крычалі:

– Ату іх!.. Лаві!.. Смерць катам!

І як толькі ў аддзяленні зачыніліся вароты і з’ехалі пажарныя машыны, у той жа час загуў урачыста гудок нашай кампрэсарнай, і неўзабаве над Нарыльскам узляцеў наш памочнік – Добры Змей – з улёткамі. У іх мы інфармавалі нарыльчанаў аб правакацыйных дзеяннях Панюкова і Сямёнава, прасілі паведаміць аб гэтым ЦК партыі. Мы верылі, што там разбяруцца і дапамогуць нам.

Нашы кантрмеры Панюкова нічому не навучылі. Ён усё яшчэ спадзяваўся ўціхамірыць нас сваёй уладай. Ад адной авантуры кінуўся ў другую.

Вечарам 30 траўня па гучнамацюгальніку ён выліў на нас увесь свой гнеў, параіў нам памятаць, што пакорлівае цялё дзвюх матак ссе, а бадлівага бычка на бойню вядуць.

Мы і на гэты раз не паслухаліся яго. Больш таго, насуперак яго папрокам мы афіцыйна адмовіліся прызнаваць існаванне ў Нарыльску ўлады, а ва ўсіх аддзяленнях і нашым ачапленні вывесілі чорныя сцягі.

Не мог Панюкоў дапамагчы свайму сябру генералу Сямёнаву. Мы былі яму не па зубах. І прыйшлося Сямёнаву звяртацца па інстанцыях.

У Нарыльск 31-га траўня прыляцеў генерал Гаглідзе. Убачыўшы чорныя сцягі, нахмурыўся, а даведаўшыся, што пад гэтымі сцягамі стаіць больш як трыццаць тысяч чалавек, зрабіўся шалёным. Накінуўся са злосцю на Сямёнава і Жалвакова:

– Гэта ж бунт! Варожая вылазка! Як вы маглі такое дапусціць?! Неадкладна, цяпер жа… задушыць і навесці парадак! Законны парадак!

Дэманструючы гнеў і незадаволенасць, Гаглідзе падпарадкоўваўся найперш эмоцыям, чымся розуму, цвярозай ацэнцы таго, што здарылася. Калі ж Сямёнаў пачаў яму тлумачыць абстаноўку, дадаў, што без выканання нашых патрабаванняў ці прымянення супраць нас зброі, тут нічога зрабіць немагчыма, ён толькі грэбліва махнуў рукой.

– Глупства ўсё гэта. Такое сказаць можа падлетак, але не генерал. Вы развучыліся працаваць. Не з таго боку падступаецеся. Я вам сам пакажу, як з такімі трэба змагацца, якімі метадамі можна скруціць іх у бараноў рог.

Для здзяйснення сваіх намераў ён рашыў пачаць з нас – зняволеных, якія знаходзіліся ў ачапленні Гарбуду. Знаходзячыся на тэрыторыі горада, мы болей за ўсіх мулялі яму вочы, а наш штандар, прымацаваны на макаўцы кран-дэрыка, дзейнічаў на яго як чырвоная тканіна на раз’ятранага быка.

Прыбыўшы ў нашае ачапленне, ён найперш загадаў нам выйсці з зоны. Хацеў вызваліць гэтым вытворчы ўчастак. Іначай, папярэдзіў ён нас, што далейшае нашае знаходжанне тут будзе разглядацца як контррэвалюцыйны сабатаж.

Мы хуценька абмеркавалі сітуацыю. Рашылі не выпрабоўваць свой лёс.

А як толькі мы выйшлі і пашыхтаваліся ў калону, ён адразу ж звярнуўся да нас, заклікаючы спыніць бунт. Паабяцаў тым, хто адмовіцца бунтаваць, залатыя горы, нават перагледзець асабістыя справы.

Але мы ведалі кошт абяцанняў Гаглідзе, таму ні адзін зняволены на яго абяцанні не паддаўся. Мы стаялі на сваім, патрабавалі аўтарытэтную камісію. Нічога не дабіўшыся, ён махнуў рукой, загадаў  вярнуць нас у лагер. І калі мы раздзяліліся на дзве калоны, каб ісці ў свае аддзяленні, нечакана на ўвесь лагер грымнула песня:

*Добры дэнь, маты,*
*Украина рыдна моя...*

Гэта заспявалі лагернікі 5-га аддзялення, яны выказвалі радасць, што нам удалося выстаяць перад чарговым спакушэннем д’ябла і безストратаў вярнуцца ў лагер. І як толькі мы зайшлі на сваю тэрыторыю, вітаючы нас, зароў мажорна гудок кацельнай, і ўсе, хто мог хадзіць, выйшлі ў зону, – і трыумфальныя крыкі і воклічы ўзляцелі высока над тундрай.

Нам моцна паціскалі рукі, з намі дзяліліся апошнім гарантыйным акрайцам хлеба, а кухар, наш выдатны кухар Абдула-Кузьма зварыў спецыяльна для нас гарохавую кашу і выдаў па кавалачку гарбушы.

У нас ва ўсіх было свята, і мы адзначалі яго як маглі – радасна і ўзнёсла.

……………………………………………………………

І ў тым пекле былі маленькія радасці. Але яны адрозніваліся ад тых, якія надараліся на свабодзе. І там умелі радавацца. Радавацца ад таго, што побач былі сябры, які сталі радней за брата роднага, якія не прададуць, не здадуць забойцам і катам на здзек, найперш сваё жыццё аддадуць, чым здрадзяць дружбе.

– Так, – пацвярджае пісьменнік-паўстанец Рыгор Клімовіч, – нічога так не цанілася дорага там, за калючым дротам, як дружба. Не было б яе, мы не вытрымалі б, зламаліся ўпаасобку…

10

І падчас наступнай сустрэчы мне ён аддаў новыя рукапісныя старонкі будучай кнігі.

***Канец Гарлагу***

*(працяг)*

І ў нас з’явілася надзея, што праўда возьме верх. І гэтая надзея і спадзяванне грэлі нас, мы выглядалі імяніннікамі. Усе радасныя і ўзбуджаныя, прыўзняты настрой. Упершыню за доўгі час мы адчулі сябе гаспадарамі становішча. Цяпер ужо лагерная адміністрацыя і тыя, хто дзейнічаў разам з Панюковым і Гаглідзэ, нам былі ўжо не ўказ – болей яны ўжо нас не палохалі строгім пакараннем.

Аднак і пальцы ім у рок не клалі, і, кіруючыся выразам “не будзь сам плох, то паможа і Бог”, стварылі групы самаабароны. А кіраўнікам іх строга загадалі круглыя суткі патруляваць лагер, не дазваляць тым стукачам, што засталіся ў зоне, кантактаваць са сваімі шэфамі. І – галоўнае – рашуча спыняць любыя спробы здзейсніць якую б то ні было правакацыю для таго, каб даць нагоду берыеўцам навесці парадак і прымяніць супраць нас зброю. Цяпер ужо нават начальнік аддзялення не мог увайсці ў зону без суправаджэння нашых патрулёў.

Дзеянні Панюкова і Гаглідзэ вымушалі нас быць пільнымі.

Мы разумелі, чаго можа каштаваць нам хаця б самая маленькая памылка ці недагляд. І, прымаючы меры перасцярогі, мелі на тое свой рэзон. Таму дзякуючы гэтым мерам 1-га чэрвеня ў 5-ым аддзяленні былі спынены спробы стукачоў падпалу харчовага складу, а ў той жа дзень у нашым 4-ым аддзяленні была сарваная спроба наладзіць, выкарыстоўваючы імя Шаміля, разню паміж чачэнцамі і кубанскімі казакамі. А яшчэ – спроба спракаваць нацыялістычна настроеных украінцаў на канфлікт з палякамі.

У лагеры час ад часу чуўся роў гудка кацельні, апавяшчаючы пра чаговую вылазку стукачоў, якія, быццам клапы ў нашых бараках, не давалі нам ні хвіліны спакою, і ад іх, як ад клапоў, не было іншага ра-

тунку, акрамя як падвергнуць дызенфекцыі ўвесь лагер. І хаця многія аўтарытэтныя лагернікі былі супраць такой агульнай дызенфекцыі, аднак страйкавы камітэт, прымаючы да ўвагі небяспеку ад дзеянняў стукачоў, паводле якіх сотні людзей маглі стаць ахвярамі справакаванага самавольства, прыняў рашэнне паўскрываць сейфы аператыўных работнікаў МДБ і азнаёміцца з дасье, які там захоўваюцца.

Для выканання гэтага рашэння была створана спецыяльная камісія ў складзе Каваленкі – юрыста, майго земляка з Менску, Уладзіміра Недаросткава – эканаміста з Саратава, Валянціна Чысцякова – інжынера, кандыдата ў майстры па шахматах, Віктара Льва – кандыдата тэхнічных навук, Дзям’яненкі – былога намесніка міністра іншаземных спраў Украіны, – людзей кампетэнтных і разам з тым бывалых лагернікаў, якія добра ведалі, па чым фунт ліха. Ніводзін з сяброў гэтай камісіі не меў патрэбы ў дадатковых тлумачэннях. Усе яны разумелі важнасць дaручанай ім справы і без прамаруджванняў прыступілі да яго выканання. Бо ведалі, што пры тых абставінах, якія склаліся ў лагеры, усялякае прамаруджванне з выкананнем гэтага задання – гэта смерць.

Усю ноч яны перабіралі паперы і тэчкі, дасканальна вывучалі кожны радок. Іх ахоўвала група Нікалішына.

І калі пад раніцу падвялі вынікі сваіх даследванняў і вывучэння дакументаў, у іх, так бы мовіць, валасы ўсталі дыбам: яны адмаўляліся верыць таму, што ім адкрылася з тых папер. Зноў і зноў пераправяралі сябе, але дакументы, як і факты – рэч упартая. Памылкі не было. Аказалася, што кожны пяты лагернік быў завербаваны, меў сваю клічку і з’яўляўся стукачом. А кожны другі быў абылганы падманнымі даносамі, і значыўся на асобным уліку як небяспечны злачынца.

Такога адкрыцця не чакалі ні сябры камісіі, ні сябры камітэта. Усе яны былі агаломшаны такой масавай з’явай. І можа па той прычыне не сталі іх паказваць усім, як прадпісаваў лагерны закон, – абмежаваліся хіба толькі тым, што траіх, найболь вінных у пакутах нашых таварышаў, правялі па бараках, а потым выпхнулі за зону, каб ішлі да сваіх гаспадароў.

А ўсім астатнім прапанавалі напісаць пісьмовае пакаянне, у якіх бы падрабязна напісалі, дзе, калі, кім і пры якіх абставінах быў завербаваны і якога зместу патрабавалі ад яго даносы. У тых абставінах сяброў камітэта найбольш непакоіла, як бы не прадаставіць магчымасць генералу Сямёнаву, пад выглядам выратавання “сумленных” асуджаных, увесці ў лагер узброены канвой. Аднак многія зэкі нас не зразумелі, і паспрабавалі падняць “бузу”. Асабліва стараліся тыя, якія калісьці больш за іншых пацярпелі ад стукачоў. Гэтыя апошнія ніяк не маглі змірыцца з тым, што некалі зробленае зло засталося беспакараным. Яны марылі пра помсту, і камітэтчыкам прыйшлося патраціць шмат нерваў, каб пераканаць не ў меру гарачых лагернікаў, давесці да іх розуму і

свядомасці, што помста ў дадзеным выпадку – раўназначна самазабойству. Напачатку яны і слухаць не хацелі ні пра якую перасцярогу. Але вытрымка і прынцыповая цвёрдасць прадстаўнікоў камітэту урэшце-рэшт прымусілі іх задумацца, а потым і пагадзіцца з лагічнымі довадамі.

Хаця, як паказалі наступныя дні, многія з іх засталіся пры сваёй думцы, але выказалі сваю згоду з мэтай захаваць у лагеры адзінства, без якога немагчыма было б супрацьстаяць МББ (МГБ) і працягваць страйк.

Нам, сябрам камітэта, і ім, хто падняў бузу, было ўжо бачна, што без агульнага адзінства немагчыма будзе гаварыць на роўных з маскоўскай камісіяй, якую мы ўсе чакалі і на якую ўскладалі вялікія спадзяванні. Маскоўская камісія ўяўлялася нам як адзіны шанец, які, калі мы выкарыстаем з розумам, можам дабіцца аднаўлення справядлівасці. А таму, дабіўшыся згоды з бузацёрамі і тым самым аднавіўшы адзінства ў лагеры, мы трохі падбадзёрыліся і актыўна пачалі рыхтавацца да сустрэчы з высокімі гасцямі.

… Пачынаючы ўжо з 2-га чэрвеня, ва ўсіх бараках, рабочых брыгадах і ў камітэце ішло абмеркаванне нашых патрабаванняў, якія мы намерваліся прад'явіць маскоўскай камісіі. Самі патрабаванні пярэчанняў не выклікалі. Нас турбавала іншае, а менавіта, якім чынам абгрунтаваць тыя патрабаванні так, каб камісія іх не абвегла. Мы ўсе разумелі, што беззаконне, якое тварылася ў краіне і ў лагерах, самаўпрамства  і выглядае сапраўдным генацыдам, учынены супраць свайго ж народа. Але ніхто з нас не ведаў, як гэтую ісціну давесці да свядомасці камісіі, пераканаць яе ў настойлівай неабходнасці скончыць з бяспраўем і вызваліць бязвінныя ахвяры гэтага генацыду. То была задача з многімі невядомымі і, вырашаючы яе, па бараках успыхнула і разгарэлася гучная дыскусія.

Але знайсці канкрэтны адказ на цяжкую задачу было няпроста. Зразумела хіба было адно – высоўваючы такое патрабаванне перад масквічамі, мы, пасутнасці, намерваліся патрабаваць змянення ўнутранай палітыкі дзяржавы. А для таго, каб камісія не абвергла нашыя патрабаванні, нам неабходна было прад'явіць ёй грунтоўныя сведчанні пра грубыя парушэнні законнасці ў краіне і беспакараныя дзеянні начальства ў лагерах.

Каб больш грунтоўна выкласці гэтую праблему, мы звярнуліся да былых адказных работнікаў НКУС, якія знаходзіліся ў нашай зоне, папрасілі іх напісаць аб злачынных фактах дзейнасці НКУС, да якіх яны самі былі датычны. Да гонару гэтых былых, ніхто не адмовіў нашай просьбе. Такія сведчанні напісалі – начальнік аддзела НКВД (пры Яжове) Крычман, начальнік сакрэтна-палітычнага аддзела Глебаў, начальнік упраўлення НКУС па Арлоўскай вобласці Ананьеў, начальнік Вязьмалага Рудмінскі, работнік СМЕРШа Яршоў…

Усе яны ў свой час удзельнічалі ў стварэнні ГУЛАГа, арыштоўвалі людзей, не адрозніваючы тых, каго законна ці незаконна асудзілі, вызначаючы меру пакарання – суадносна ўказанням зверху, а часцей за ўсё – на свой погляд. Асабліва стараўся Крычман. Гэта ён па асабістым загадзе Сталіна арыштаваў члена Палітбюро Бубнова. А потым праводзіў чыстку ў Наркампросе, ВНУ, школах, культурна-асветных установах – “ратаваў” народ ад інтэлігенцыі, тым самым асабіста спрыяў яго адурмаванню.

Не меней Крычмана лютаваў і Ананьеў. За яго бытнасць на Арлоўшчыне на прамысловых прадпрыемствах вобласці не засталося ні дырэктара, ні галоўнага інжынера – усіх крыважэрны Ананьеў адправіў за калючы дрот праводзіць сталінскую індустрыялізацыю.

На касцях сваіх ахвяраў Рудмінскі будаваў дарогу Масква – Мінск, а Глебаў узводзіў прамысловыя гіганты ў Растоўскай вобласці. Усе яны ведалі шмат чаго, і іх сведчанні былі, на наш погляд, дакументам выключнай важнасці. І каб пераканаць камісію ў тым, што цяперашнія каты ніколечкі не лепш за былых, і было прапанавана ўсім вязням, якія не мелі на сабе ніякай віны, напісаць індывідуальныя скаргі.

Дзейнічаючы такім чынам, мы імкнуліся сустрэць маскоўскую камісію не з пустымі рукамі. Да таго ж, як нам стала вядома, імкнуўся і страйкавы камітэт 5-га аддзялення, у склад якога уваходзілі – кіраўнік АУН на Станіслаўшчыне – Міхаіл Марушка, прафесар Паўлішын, жыхар Львова Яўген Гарошка, палкоўнік-франтавік Павел Фільнеў, кітаец Пётр Дзікароў, інжынер Семён Бомштэйн.

Не сядзелі склаўшы рукі і ў 1-ым аддзяленні, дзе страйкавы камітэт узначальвалі старыя вопытныя лагернікі – Павел Фрэнкель, Іван Касілаў, Міхаіл Ізмайлаў, Георгій Зяблікаў і іншыя. У гэтым аддзяленні па ініцыятыве Фрэнкеля быў прыняты зварот у Прэзідыум Вярхоўнага Савета і падрыхтаваны дакумент “Чаму мы бастуем?”

Рыхталіся да сустрэчы з масквічамі і жанчыны 6-га аддзялення і катаржане 3-га аддзялення.

І дарэмна генерал Сямёнаў і нейкі палкоўнік, прозвішча не памятаю, які прыбыў з Краснаярска, выступалі, распінаючыся па радыё, угаворвалі нас узяцца за розум. У адказ мы падымалі ў паветра папяровыя змеі з лістоўкамі, – заклікалі жыхароў Напрыльска падтрымаць нас у нашым змаганні. Мы былі непахісныя ў сваіх патрабаваннях.

І тады, калі генерал Сямёнаў пераканаўся ў нашай непахіснасці, вымушаны быў падаць сігнал паразы.

А 6-га чэрвеня 1953 года з Масквы ў Нарыльск прыляцела паўнамоцная камісія ў складзе – старшыні камісіі, начальніка турэмнага кіравання МУС палкоўніка Кузняцова, членаў камісіі – камандуючага войскамі МУС генерал-лейтэнанта Сіроткіна і двух членаў ЦК

– палкоўнікаў Міхалапа і Кісялёва, а пазней у Нарыльск прыляцеў намеснік генеральнага пракурора – генерал-палкоўнік Вавілаў.

У той жа дзень у Дудзінцы выгрузіліся два батальёны чырвонапагоннікаў спецыяльнага прызначэння. Зразумела адразу стала, што камісія не мір несла нам, а меч. Але мы былі поўныя рашучасці прыняць і меч. Нам ужо губляць не было чаго.

Ужо 7-га чэрвеня камісія вяла перамовы ў 5-ым аддзяленні. З боку вязняў у перамовах удзельнічалі Марушка, Фільнеў, Бомштэйн, Дзікароў, Петрушайціс. Доўгімі і цяжкімі былі тыя перамовы, і доўжыліся яны каля пяці гадзінаў. Закончыліся нечакана для нас часовай згодай.

У той жа дзень камісія правяла перамовы і ў 6-ым жаночым аддзяленні – і з тым жа вынікам. Наступнага дня адбыліся перамовы з вязнямі 1-га аддзялення. Яны доўжыліся ці не цэлы дзень, і скончыліся безвынікова. Лагернікі рашылі працягнуць страйк да тае пары, пакуль не будуць выкананы іх патрабаванні.

І толькі 9-га чэрвеня камісія прыбыла ў нашае 4-ае аддзяленне.

Звяртаючыся да нас па радыё, палкоўнік Кузняцоў паведаміў, што камісія прыбыла ў Нарыльск па асабістым указанні Берыі. Дадаў, што Берыя вельмі ўстрывожаны канфліктам, які адбыўся ў нас з мясцовымі ўладамі. І што наш лёс з гэтага дня стане больш лёгкім – наш лагер пераводзіцца на звычайны рэжым бытавога лагера ІТЛ. А гэта азначала, што здымаюцца нумары з адзення, рашоткі з вокнаў, жалезныя запоры на дзвярах. Нават здымаюцца абмежаванні на перапіску з роднымі, працоўны дзень змяншаецца да васьмі гадзінаў. Нават мы можам карыстацца кнігамі і газетамі. Дазвалялася карыстацца грашамі і набываць харчы ў камерцыйнай краме па тых коштах, якія ўстаноўлены, улічваючы іх зніжку…

Во як заспявалі, во як хочуць нас зуцугляць у свае аглоблі.

– Па ўсіх іншых пытаннях, – ласкава спяваў салаўём Кузняцоў, – камісія гатова правесці перамовы з вашымі прадстаўнікамі і ўпаўнаважанымі, якіх вы пашлеце, але не больш чым шэсць чалавек.

А калі ён змоўк, у той жа момант расчыніліся вароты і ў двары наглядчыкі паставілі стол. Накрылі яго чырвоным абрусам. З абодвух бакоў стала паставілі па шэсць крэслаў. Па адзін бок стала, метраў за пяцьдзясят ад яго, стаяў ланцуг салдатаў, па другі ж бок, на той жа адлегласці, – натоўп асуджаных, а паміж імі, ля варот, не так далёка ад стала, – генерал Сямёнаў, начальнік аддзялення Няфедзьеў і група афіцэраў МДБ.

Стаяў на рэдкасць у тых краях ціхі сонечны дзень. Промні паўдзённага сонца залілі свабодную пляцоўку, якая знаходзілася паміж намі і салдатамі, і выглядала яна здзіўляюча чыстай, як бы святочнай. Хаця настрой у кожнага быў не святочны, хутчэй трывожны і гнятучы.

Нам усім хацелася, каб тое артыстычнае дзейства хутчэй пачалося і гэтак жа скончылася. Але як на тое, хвіліны цягнуліся павольна і марудна, быццам нехта спецыяльна стараўся запаволіць час, выпрабоўваючы нашае цярпенне.

І калі, нарэшце, з-за ланцуга жаўнераў, пачала высоўвацца маскоўская камісія на чале з Кузняцовым, усе з палёгкай уздыхнулі, і ў той жа момант ёй насустрач выйшлі нашы прадстаўнікі – Грыцяк, Недаросткаў, Гальчынскі, Мелень, Клятчэнка, Стрыгін і тут жа за імі, задаволіўшы просьбу маіх землякоў і літоўцаў, выйшаў і я – сёмым, так бы мовіць, нязваным госцем, якога на Русі лічаць горш за татарына і сустракаюць не лепшым чынам, не з абдымкамі.

– Вы чего пришли? – уперыўся ў мяне сваім позіркам Кузняцоў, калі я падышоў да стала. – Я приглашал только шесть человек.

Прапусціўшы яго словы міма вушэй, папрасіў даць мне крэсла.

– Вы, что русского языка не понимаете?! – зноў вызверыўся на мяне Кузняцоў.

– Стул прошу! – яму ў тон, павысіўшы голас, паўтарыў я сваю просьбу.

Ён нервова дзерганууся і позіркам абвёў лагернікаў, што сядзелі побач, быццам шукаў у іх падтрымкі. Але яны падтрымалі маё патрабаванне.

– Ладно, – пагадзіўся Кузняцоў. А калі прынеслі крэсла і паставілі перада мной, буркнуў незадаволена: – Садитесь.

Але перад тым, як сесці, я выказаў патрабаванне – выдаліць з нашых вачэй Сямёнава і маёра Няфедзьева.

Кузняцоў запытальна пакасіўся туды, дзе стаялі Сямёнаў і эмдэбісты, недаўменна паціснуў плячыма.

Кузняцоў запытальна пакасіўся туды, дзе стаялі Сямёнаў і эмгэбісты, недаўменна паціснуў плячыма.

– Я не вижу смысла в этом требовании. По-моему, они нам не мешают.

– Жаль, гражданин полковник, что они вам не мешают. – прамовіў я і паглядзеў на Кузняцова, тут жа заўважыў яму: – Как видно, ваша справедливость небезпристрастна. В таком случае у нас с вами откровенного разговора не получится, а возможно он и вовсе не состоится.

– Ну почему же? – натапырыўся Кузняцоў. – Вы неправильно меня поняли. Я только высказал свое соображение. Но если вам угодно... – І ён рэзка павярнууся і загадаў ім адысці ад нас як мага далей.

Мне тое спадабалася. Я неадрыўна, як яны адыходзілі, глядзеў ім у спіны, а потым сеў за стол.

– Наверное, они здорово вас обидели. – Кісялёў пільна паглядзеў на мяне.

– Да не обо мне одном речь, – запярэчыў яму. – Они обидели тысячи таких, как я. Это оборотни. Волки в человечьем обличье.

І я расказаў камісіі пра ўсё, што тварылася ў нас. Пра БУР, ШЫЗА, рэжымнай турме, пра садызм падонкаў, што распускаюць рукі з ведама і нават па ўказанні адміністрацыі, пра фізічныя і маральныя пакуты зэкаў, пра жорсткасць наглядчыкаў, пра пакутную смерць Сляпога, Маньчжурца, Бурмістрава і шмат-шмат-шмат пра што яшчэ, што бачыў на свае вочы.

Слухаючы мяне, генерал-лейтэнант Сіроткин раз-пораз ківаў галавой, абуральна ўсклікваў: «Ах, сукины сыны! Что делали! Что вытворяли!»

Хіталі, робячы выгляд спачувальнасці, і іншыя члены камісіі. А калі я скончыў расказваць, да мяне звярнуўся генерал-палкоўнік Вавілаў.

– Скажите, – спытаў ён у мяне, – среди заключенных найдутся люди, которые письменно подтвердят всё это, что вы сейчас рассказывали?

– Да, найдутся.

– Вы сможете, когда это понадобится, назвать нам их фамилии?

– С вашего разрешения, гражданин генерал, я хотел бы сейчас и вручить вам такое письменное подтверждение.

І, падняўшыся з-за стала, павярнуўшыся да гурту лагернікаў, паклікаў Каваленку. Той, не марудзячы, падышоў да мяне, аддаў мне паперы. Я паклаў перад генерал-палкоўнікам важкую тэчку, у якой знаходзілася 620 тлумачальных прызнанняў былых стукачоў.

– Это, гражданин генерал, свидетельские показания секретных осведомителей МГБ, бывших в 4-ом отделении Горлага, – патлумачыў я Вавілаву. А каб ён не сумняваўся ў праўдзівасці пададзеных папераў, дадаў: – Все эти показания написаны собственноручно, в порядке чистосердечного раскаяния.

– Разберемся, – паабяцаў ён, і раптам неяк нечакана і недарэчна звярнуўся да Каваленкі: – Скажите, кем вы работали до ареста?

– Я юрист, гражданин генерал, – адказаў Каваленка, – работал в Госарбитраже.

– А здесь в лагере, что делаете?

– Здесь я работяга, копаю котлован.

– Гм... – пахітаў галавой, прамычэў Вавілаў, але ж зноў выпрабавальным позіркам пранізваў Каваленку. – Вы читали эти бумаги?

– Да, гражданин генерал, – сцвярджальна прамовіў зэк і, не губляючыся ад генеральскага позірку, прадоўжыў: – Это очень ценные бумаги. Мы вручаем их вам для возбуждения уголовного дела против администрации Горлага, многие офицеры которой, как свидетельствуют эти бумаги, являются агентами мирового империализма, пробравшимися в органы МГБ.

Вавілаў крывотліва ўсміхнуўся і пільна зірнуў на яго і другіх членаў камісіі. Але тыя паводзілі сябе так, быццам нічога такога асаблівага і не пачулі, і ён, зразумеўшы, што “дугі гнуць з цярпеннем і не адразу”, узяў з іх прыклад.

– Хорошо, – прамовіў ён, – Мы изучим ваши бумаги. – А калі, падпарадкоўваючыся яго загаду, адышоў, лісліва заўважыў: – А вас голыми руками не возьмёшь.

– Да и войсками тоже, – як бы не зразумеўшы ліслівасці генерала, заўважыў Стрыгін. – Только многих людей порешите, и на весь Союз шуму наделаете.

– Войсками вам никто не угрожает. С чего вы это взяли? – абурыўся Кузняцоў. – Мы приехали облегчить вашу участь и это, как вы только что слышали, – не пустые слова.

– Но это пока еще и не дело. – не пагадзіўся наш таварыш. – В наших бараках, гражданин председатель комиссии, – звяртаючыся да Кузняцова, прамовіў Стрыгін, – висят инструкции вполне определённого содержания, а они, как вам известно, имеют здесь силу закона. Вы в своем выступлении об этих инструкциях не сказали ни слова, так что получается, что слова ваши не согласуются с делом, это вроде тех обещаний, которым дураки рады.

– Я понял вас, – перабіў Стрыгіна Кузняцоў. – Будут вам новые инструкции, будут.

– Позвольте узнать, когда они будут?

– Я думаю, этак через месяц, – адказаў Кузняцоў, але, убачыўшы на нашых тварах абурэнне, тут жа паправіўся. – А возможно и раньше. Это будет зависеть от того, как скоро мы вернемся в Москву и представим их в ГУЛАГ на утверждение.

– Но это опять только слова, – паціснуў недаўменна плячыма Стрыгін. – Как нам убедиться, что вы сделаете так, как говорите? Да и вообще, станете ли ещё делать, вот в чём вопрос? Где гарантии, что после вашего отъезда, эти слова не развеет ветер и всё здесь не вернется на круги своя?

Кузняцоў задумаўся. Ён, бачна было, і сам не ведаў, як яму быць цяпер. Адно – аб’явіць па радыё аб пераводзе Гарлагу на аблегчаны рэжым, але зусім іншае – засведчыць тое пісьмова са сваім подпісам.

Ён ведаў і другое, што ў гэтым выпадку дакумент мог стаць сведчаннем яго злачыннай сувязі з ворагамі народа – неабвержанай улікай, пры прад’яўленні якой не скажаш: “Я – ні я, і подпіс не мой”,

Кузняцоў быў вопытным эмгэбістам, таму рызыкаваць баяўся. Таму стараўся дзейнічаць так, каб і рыбкі налавіць, і штонікі не замачыць.

У кожным канкрэтным выпадку, прызнаючы нашы прэтэнзіі і патрабаванні справядлівымі, ён аднак не асмельваўся іх вырашыць тут,

на месцы, кіруючыся справядлівасцю, а то і ссылаючыся на ГУЛАГ ці на ведамства Уладзімірава (унутраная бяспека), абяцаючы звязацца з імі і дабіцца таго, каб задаволіць гэтыя патрабаванні.

У 5-ым і 6-ым аддзяленнях яму ўдалося ўгаварыць лагернікаў, і яны паверылі яго абяцанкам. Але ж мы стаялі на сваім. Мы адмаўляліся яму верыць на слова. І пасля марных зваротаў да нашага розуму, яму стаў зразумелы той факт, што калі гара не ідзе да Магамета, то Магамету трэба ісці да гары.

– Хорошо, – уздыхнуўшы, прамовіў ён, зразумеўшы ўрэшце-рэшт, што іншага выйсця ў яго няма, – пусть будет по-вашему. Не станем мелочиться. Чтобы доказать вам, что наши слова с делом не расходятся, мы пойдем на превышение своих полномочий и в ближайшие дни дадим вам новые инструкции, скрепленные моей и членов комиссии подписями. На этом всё.

Паведаміўшы нам такое сваё рашэнне (ведаем, як яно яму далося), Кузняцоў наважыўся завяршыць дыскусію, згарнуў паперы, паказваючы, што дыскусія скончана. Але мы былі ўжо вучоныя, таму з яго рашэннем не згаджаліся.

– Погодите, гражданин председатель, – спыніў Кузняцова Недаросткаў. – Подводить черту еще рано. Любая инструкция только тогда будет чего-нибудь стоить, когда она полностью исключит возможность возрождения того произвола, который творился здесь, в Горлаге. Что толку нам от всех тех благ, которые вы предоставляете, если и дальше наша жизнь будет всецело зависеть от капризов начальника лагеря; если и впредь начальник лагеря с помощью надзирателей и взятых к себе на службу подонков будет бить нас, издеваться над нами, унижать наше человеческое достоинство, короче говоря, творить произвол, как и раньше? Овчинка выделки не стоит. В том виде, как вы представляете нам эти блага, они выглядят не более как тот лакомый кусочек, который видит глаз, да зуб неймет. А мы, между прочим, – материалисты, мы все норовим попробовать на зуб; нам хочется не только видеть записанными свои права, но и пользоваться ими, и потому считаем необходимым, чтобы впредь заключенных в штат придурков зачислял не начальник, а мы сами. И это должно быть ясно оговорено в инструкции.

– То есть, – перабіў Недаросткава Кузняцоў, – вы настаиваете, чтобы мы разрешили вам самоуправление?

– Не совсем так, – пахітаў галавой Недаросткаў. – Мы лишнего не требуем. Мы добиваемся самой малости. Всего ничего. Только лишить администрацию лагеря возможности творить здесь произвол, используя для этого разного рода подонков, как это было раньше. Это законное требование.

– С вашей точки зрения, может быть, – заўважыў Кузняцоў, і тут жа выпраміўся і павярнуўся да Вавілава. – А что по этому поводу скажет нам прокурор?

Вавілаў адказаў не адразу.

Ён не чакаў, што Кузняцоў так лоўка падловіць момант і перакладзе груз на яго плечы. Пачуўшы такое пытанне, у яго наліўся чырванню твар, але ён адразу ўзяў сябе ў рукі, пастараўся нанесці ўзаемны сюрпрыз. Сказаў, што ў прававых адносінах гэтае нашае патрабаванне мае права на існаванне, і што гэта нават адпавядае намерам камісіі – спыніць беззаконне ў лагеры і стварыць для нас неабходныя ўмовы больш цярпімыя, чым да гэтага.

– Я думаю, – прамовіў Вавілаў, – что, назначив себе начальников из своих людей, они потом будут стараться их не подвести и порядка в лагере станет больше.

Думка Вавілава падалася членам камісіі лагічнай. Усе яны пагадзіліся выканаць нашыя патрбаванні. Асабліва катэгарычным быў Міхайлаў. У сваіх вывадах ён і думкі не дапускаў пра якую-небудзь альтэрнатыву гэтай думцы. І Кузняцову нічога не заставалася, як пры кепскім настроі на сваім твары паказаць задаволеную ўсмешку.

– Вот видите?! – усклікнуў ён. – Какая хорошая комиссия к вам прибыла. Что бы вы ни заявили – вам ни в чём нет отказа.

Але мы не падтрымалі яго настрой, – не паддаліся, мы мелі вопыт, ведалі, што куранятак лічаць восенню.

– Не спешите, гражданин председатель, хвалить себя, – Клятчанка кісла ўсміхнуўся. – При вашем положении быть до конца справедливыми не просто, тем более, что наши дальнейшие требования могут задеть честь вашего мундира.

– Любопытно, – ажывіўся субяседнік. – Что же это за требования?

– Вполне законные и справедливые. – Клятчанка паклаў перад ім некалькі складзеных разам аркушаў паперы. – Вот эти требования. Всего 18 пунктов, на которые мы желаем получить положительный ответ.

Кузняцоў тут жа пачаў іх чытаць. Туды ж накіравалі свае позіркі і члены камісіі. Мы моўчкі назіралі за імі, стараліся зразумець па іх тварах, як яны адносяцца да зместу тэкстаў. Нам хацелася, каб нас па-чалавечы правільна зразумелі. Але іх твары хмурнелі ўсё больш і больш. Зразумела было, што ім тэкст быў не даспадобы. ён нават раздражняў іх. Яны нервова пакусвалі губы, мнагазначна пераглядваліся між сабой, то зіркалі на нас…

Нашыя патрабаванні закранулі іх за жывое. Мы тое бачылі і не здзіўляліся. Мы ведалі, што яны, як і зладзеі, не цярпелі, калі ім у вочы казалі пра згубнасць іх рамясла і, як зладзеі, адразу ўпадалі ў амбіцыю, а то і рэзка абсякалі таго, хто гаварыў. Не было выключэннем і на гэты раз.

Перагарнуўшы чарговую старонку, Кузняцоў са злосцю адпіхнуў ад сябе паперы, злосна кінуў позірк у наш бок.

– Это какая-то галиматья, – гучна абурыўся ён. – Какая-то противоречащая общепринятым понятиям несуразица. Это черт знает, что такое! Взять хотя бы ваш первый пункт. Вот здесь вы пишите... читаю: «... луч-

шим выражением политики мира является полная реабилитация жертв войны». О чем это вы?

Ён адарваў позірк ад сшытка, зірнуў на нас, зноў пачаў чытаць:

– Жертвы войны – это герои, которые, защищая Родину, положили свои головы или остались инвалидами. Какие могут быть ещё жертвы войны? – свідруючы нас позіркам, недаўменна паціснуў плячыма, але яго тут жа абсек Гальчынскі. – А еще, гражданин председатель, солдаты 41-го года – герои, которые, сражаясь до последнего патрона, не позволили фашистским генералам осуществить блицкриг. Но которые из-за просчетов бездарных командиров, таких как маршал Кулик и другие, попали в окружение, а потом в плен и теперь содержатся здесь, в лагере и терпят за чьи-то чужие просчеты. Они – не мёртвые и не калеки. Они – живые. Но у всех у них жизнь искалечена войной. Они – жертвы войны. Не случись война и не попади они в плен, никто из них не сидел бы здесь.

– Их посадили не за плен. К вашему сведению, в нашем кодексе нет статьи, по которой можно было бы судить за сдачу в плен.

– О да! – усклікнуў Гальчынскі, – согласно приказа Сталина, который зачитывали в армии, – «русские в плен не сдаются». Пленных нет. Зачем же статья в кодексе?! – А пять миллионов солдат и офицеров, которые не решились стать самоубийцами, и так или иначе оказались в плену, где они как мухи умирали из-за тех, кто заверял, что врага будем бить на его территории и победим «малой кровью», «могучим ударом» – это не пленные, это – изменники Родины?!

## *II. І застануцца ў памяці нашчадкаў*

1

А.Б.Макарова:

***«Эти имена достойны памяти потомков»***

*От Красноярского Мемориала.*



*Этот материал Алла Борисовна Макарова готовила по нашему заказу для третьего тома «Книги памяти жертв политических репрессий».*

*Однако по требованию РУ ФСБ по Красноярскому краю, статья была исключена из издания.*

*В нашей стране героев Норильского восстания по-прежнему считают бандитами. Как и пятьдесят лет тому назад...*

Овеянная тайнами история норильского восстания политзаключенных Горного лагеря в Норильске увлекла меня более десяти лет назад, когда я работала научным сотрудником Музея истории освоения и развития Норильского промышленного района. От души благодарна и этой работе, и только-только начавшейся тогда перестройке за то, что появилась возможность встречаться и переписываться с участниками и свидетелями событий жаркого лета 1953 года.

В Норильске шёл очередной этап смены поколений – приезжала молодежь, а старые норильчане покидали город своей молодости. Многие на прощание заходили в музей. Я выслушивала и записывала самые разные человеческие истории.

Но больше всего поразили тогда воспоминания бывших политзаключённых о норильском восстании в мае-августе 1953 года – о сопротивлении бессовестной тирании, бессмысленной жестокости лагерной администрации, охраны и её добровольных помощников-уголовников.

Вот что сказал один из бывших лагерников: «Не подумайте, что это было вооружённое восстание, нет. Восстали наши души!» Но как удалось руководителям комитетов поднять и повести за собой массы заключенных? Кто были эти невероятно смелые люди, организовавшие республику заключенных в лагерях, временно свободных от угнетения власти?

И я стала собирать материалы об этом прошлом, всё яснее понимая: опыт героического духовного противостояния, опыт ненасильственной борьбы с беззаконием в агрессивном мире бесценен.

В конце 80 – начале 90-х годов XX века еще жили в Норильске Андрей Любченко, Костас Данилявичус, Матвей Дудутис, Евгения Стецко-Федишина, Эрик Штернбек, Борис Костинский, Вилис Траубергс, Анна Соколик, Ядвига Малевич и другие бывшие политзаключенные.

Присылали в «Мемориал» письма, подробно отвечая на мои вопросы, бывшие каторжане Борис Шамаев из Алма-Аты и Степан Хаблак из Краснодарского края, россиянин из Измаила Владимир Третьяков, украинки Екатерина Андрусишина, Ольга Зозюк, Юлия Вовк, Ирена Мачульская.

Огромным было впечатление от личных встреч в «Мемориале» с бывшими активистами и просто участниками норильского восстания, приезжавшими в наш город в 1991-1994 годах: Евгением Грицяком, Львом Коваленко, Бронюсом Златкусом, Валентином Щербаковым, Лидией Суховеевой-Волчановской, с исследователем языка и истории ГУЛАГа Жаком Росси и создателем первой картотеки репрессированных Дмитрием Юрасовым.

В Москве на конференциях участников сопротивления (там были представители разных стран) удалось познакомиться с Александром Валюмом, Григорием Климовичем, Львом Нетто. Вообще это время вспо-

минается теперь как необычайно интересное и насыщенное событиями и открытиями, время активной и плодотворной работы Норильского «Мемориала».

Тогда же благодаря начавшейся эпохе гласности в России газеты и журналы, сборники воспоминаний впервые опубликовали рассказы о восстании бывших политузников Горного лагеря Григория Климовича, Бориса Дубицкого, Бориса Пожарского, Зиновия Бомштейна, Веры Мишне. Появлялись переводы с украинского Евгения Грицяка, Анны Мазепы, Данилы Шумука, с латышского – Александра Валюма, с французского – Херберта Пассэна, с польского – Глеба Томаша и Малгожаты Страж и другие.

В них ещё попадалось много субъективного, неточного – ведь каждый помнил и знал только то, что коснулось лично его самого, а остальное дополняли слухи. К тому же всё зависело от позиции пишущего мемуары: одно дело – инициаторы или рядовые участники восстания, другое – те, кто был против забастовки, сумел выйти из зоны и только наблюдал за событиями, оказавшись уже по другую сторону колючей проволоки.

В воспоминаниях путались имена и даты. У Григория Климовича «расстреливают мужчин 5-го отделения и женщин 6-го» – на самом же деле в штурме женской зоны оружие не применялось, зато участвовали пожарные машины. У Семёна Бадаша «спецсамолёт с высокими чинами из Москвы для выяснения обстановки в городе и лагерях» прибыл 7 мая вместо 6 июня 1953 года. И так далее. Виноваты ли они в этих ошибках? Да нет, конечно. Дневников никто не вел, а память человеческая несовершенна. Тем более не вспомнить того, что слышал, но не видел собственными глазами.

Лаготделения Горлага были разбросаны, находились далеко друг от друга, их заключённые постоянного обмена информацией иметь не могли. Даже после освобождения в 1954-1956 годах бывшие лагерники заводить разговоры о прошлом опасались, – подписку о неразглашении давал каждый из них, и страх преследования органами держался десятилетиями.

Тема сопротивления в ГУЛАГе до перестройки была абсолютно секретной. Неудивительно, что сегодня известно о норильском восстании больше, чем тогда некоторым его непосредственным участникам.

Когда наконец архивы начали открываться и увидели свет документы, мне посчастливилось поработать в ГАРФ (Москва), в государственном краевом и партийном архивах Красноярска, в архивах НГМК и городском государственном в Норильске. Это позволило подготовить публикацию об июньских событиях 1953 года на руднике «Медвежий ручей» для газеты «Заполярная правда» (апрель 1991 года, Норильск)

и статью для журнала «Воля» (№ 1, 1993 год, Москва), где впервые выстроена общая хронология событий норильского восстания и воссоздана его картина во всех шести лаготделениях Горного лагеря.

Но и тут не обошлось, к сожалению, без ошибок. В архивах тоже не было ответов на все вопросы, многих деталей по-прежнему не хватало. События, даты, судьбы руководителей восстания, особенно во 2, 5, 6-м лаготделениях, требовали уточнения.

Вернуться к этой работе удалось только в 2003 году. За прошедшее десятилетие, как оказалось, вышло множество новых публикаций о сопротивлении в ГУЛАГе и норильском восстании, особенно на Украине и в республиках Балтии. Причем в них уже откровенно рассказывалось о том, что приходилось скрывать еще 10-15 лет назад, – о причастности к норильскому восстанию участников национально-освободительных движений, о создании подпольных организаций в Горлаге, их влиянии на политузников, их составе, руководителях, конкретных делах. Эти подпольные организации безусловно сыграли свою роль и в подготовке норильского восстания, и в каждом лаготделении, как выяснилось, существовала своя история их сотрудничества и конфликтов с действовавшими легально комитетами заключенных (в некоторых лагерях их называли комиссиями или представительствами).

В 1990 году я могла лишь догадываться о тайной подоплёке многослойных событий, о том, что в лагерях существовали нелегальные центры, а их лидеры, не входящие формально в комитеты заключенных летом 1953 года, активно действовали через своих представителей. Такие книги, как «Пережитое и передуманное» Данилы Шумука (Киев, 1998), «Конец Горлага» Григория Климовича (Минск, 1999), «За Полярным кругом» Ивана Кривуцкого (Львов–Полтава, 2001), сборники «В борьбе за волю Украины» (Львов, 2002) и другие, высветили драматизм норильского восстания еще глубже и ярче.

Обычно подпольные организации складывались по национальному признаку, они не претендовали на создание новой идеологии, а стремились поддерживать своих земляков, как ОУЗ-ОУБ Миколы Юречко («Организация украинцев Заполярья», переименованная в «Организацию украинских борцов») или Украинская организация самопомощи» Данилы Шумука. Но возникали в лагерях и филиалы подпольных партий, существовавших на воле (например, Демократическая партия России, «младоленинцы» и др.). Тут разрабатывались теоретические программы и уставы, решалась задача борьбы с существующей идеологией ради будущего страны (тоже теоретически).

Интересно, что и те, и другие участвовали в норильском восстании, не выходя из тени, стараясь не светиться. При этом одни всячески помогали комитетам заключенных, подсказывали верные решения, предо-

стерегали от ошибок, как это было в 1, 4 и 6-м лаготделениях. Другие пытались превратить комитетчиков в марионеток, дергать нити восстания из-за кулис, жёстко навязывать свои решения (в 3-м лаготделении).

Из-за приказа не светиться открыто входили в состав комитетов лишь некоторые подпольщики.

Важная деталь: не все они попадали в норильские лагеря под своими собственными именами. Знаю несколько таких историй.

Храню письмо от Григория Климовича, в котором он рассказывает о своей поездке на конференцию в Киев: «Встретился я с группой женщин-норильчанок, и то, что услышал от них, совсем не стыкуется с тем, что опубликовано. Особенно вас должны заинтересовать свидетельства Марии Нич – одной из руководительниц восстания, но еще больше – Ульяны Стасюк, которая была известна мне как Мария Нагорная. На такой псевдоним я писал письма, адресованные женщинам 6-го лаготделения. Это очень мужественная, самоотверженная женщина. Пока о ней нигде не сказано ни слова. Я её искал всю жизнь, ибо был уверен, что именно она была душой восстания в женском лагере. Но найти не мог, потому что не знал её подлинного имени.

И вот в Киеве на конференции, когда после выступленя перед участниками конференции я сходил с трибуны, еще непожилая женщина сделала мне шаг навстречу и припала к моей груди. Потом воскликнула:

– Гриша, знаю, что ты меня искал, я – Мария Нагорная.

Такое мне и во сне не могло присниться! Какая это была радость для меня, не передать.

Будем же собирать сведения по крупицам, может, и придем до правды, к которой мы стремились там, в лагере...»

Понятно, что даже 10-15 лет назад раскрывать подлинные имена подпольщиков, методы их работы было просто опасно. Советская власть, вначале осудившая этих людей как «изменников родины» и «националистов», продолжала всё же преследовать их уже как «диссидентов» и «клеветников-антисоветчиков», авторов публикаций, появлявшихся за рубежом. Такой была судьба Данилы Шумука, Евгения Грицяка, Романа Саранчука и многих других.

Только после обретения независимости Литва, Украина, Эстония начали собирать и издавать воспоминания участников сопротивления в ГУЛАГе. Хотелось бы назвать такие яркие и содержательные книги, как «Моя Голгофа» Константина Короля, «Норильське повстання» Евгения Грицяка, «3688 діб в сталінсько-беріевських концтаборах» («3688 дней в сталинско-бериевских концлагерях») Степана Куцая, «Норильские рыцари» (на литовском языке) Бронюса Златкуса, «Гора Мборгали» Чабуа Амирэджиби, опубликованные в периодике воспоминания Ирены Мартинкуте-Сметонене, Анны Мазепы-Кучмы, Стефании Коваль-Надорож-

няк, Марии Нич-Страханюк, Василия Николишина, Романа Загоруйко, Михаила Пилипчука, Анны Трусь и другие.

Загадки норильского восстания по-прежнему существуют и продолжают волновать историков разных стран. Над этой темой работают Марта Кравери в Италии (недавно вышла её книга), Эвалдас Гелумбаускас и Бронюс Златкус в Литве, Леся Бондарук и Иван Кривуцкий на Украине, в России – председатель общества «Мемориал» в Новосибирске Леонид Трус, бывший норильский политзаключенный.

Но белые пятна остаются, и заполнить их не так-то просто, ведь прошло со времени того памятного события более 50 лет. Работу необходимо продолжать, пока ещё живы свидетели и участники норильского восстания.

В октябре-ноябре 2004 года благодаря помощи отдела реабилитации информационного центра УВД Красноярского края, председателя общества «Мемориал» в Красноярске Алексея Бабия и юриста «Мемориала» Татьяны Моисеевой мне удалось поработать над трёхтомным архивным делом № СО-19859. В нем рассказывается о том, что происходило летом 1953 года в 6-й (женской) зоне Горного лагеря, приведены анкеты и допросы женщин, которых назвали инициаторами и судили как руководителей «контрреволюционного саботажа».

Эти имена достойны памяти потомков – Аста Тофри, Алида Дауге, Мария Нич, Ангелина Петращук, Александра Зеленская, Анна Мазепа, Стефания Коваль, Надя Яскив, Юлия Сафранович. Записанные сразу же после штурма зоны их собственные показания и дополнения свидетелей во многом уточняют картину событий. Интересно сравнивать их сегодня с воспоминаниями живых участниц норильского восстания, которые тоже приводятся в книге, – Марии Нич, Стефы Коваль, Анны Мазепы.

Конечно, полностью доверять архивам тоже нельзя. Судя по страницам дела, осуждены спецлагсудом ИТЛ «Ч» всего девять женщин, а в списке «Вывезены из Горлага» 42 фамилии.

Но где же сведения о десятках других, тоже запертых в тюремные камеры на год-полтора без всякого следствия и суда? Где полные списки тысяч политзаключенных, вывезенных из Норильска после восстания в Озерный и Береговой лагеря, в политизоляторы Владимира и Иркутска?

Их нет, как неизвестны до сих пор и полные списки погибших участников норильского восстания.

И всё же архивное дело № СО-19859 помогло сделать еще один шаг в прошлое: уточнить даты, узнать биографии участниц норильского восстания, составить представление об их характерах, внимательнее всмотреться в детали событий, помогло понять, что люди думали и чувствовали в те далёкие дни, в чём черпали силу и вдохновение, какие в лагере кипели споры, ради чего жертвовали жизнью и как дорожили свободой.

…А перед глазами письмо Григория Климовича, его радость встречи с бывшей узницей, воскликнувшей на его груди через много лет:

– Гриша! Гришенька! Я – Мария Нагорная.

Пусть все, оставшиеся в живых, отыщут друг друга!

……………………………………………………..

2

Рыгор Клімовіч не з'явіўся на сустрэчу ў прызначаны дзень. Толькі праз тыдзень убачыліся.

– Прыхварэў я, браце, прастудзіўся недзе, – як бы апраўдваўся перада мною субяседнік. – Там, у ГАРЛАГу, мёрзлі і галадалі, неяк трымаліся, быццам і абыходзілі нас сур'ёзныя хваробы, а тут… Недзе пабудзеш на скразняках – і на табе… Там нас аберагаў Бог, даваў сілы і моц, няйначай. А тут, калі мы на волі, будзем клапаціцца самі ўжо пра сябе. Жартую, безумоўна.

Ён замаўкае. Потым да яго прыстае кашаль і ён, адвярнуўшыся ад мяне, дае яму волю. Аддыхваецца, адчуваецца, што не да канца выйшла з яго хвароба.

– Слухай, Анатоль, якія дзіўныя адбываюцца ў жыцці рэчы. Ты памятаеш, як у школе мы вучылі Уладзіміра Маякоўскага і яго верш пра Неттэ?

*Товарищу Нетте, пароходу и человеку*

*Я недаром вздрогнул.*
*Не загробный вздор.*
*В порт,*
*горящий,*
*как расплавленное лето,*
*разворачивался*
*и входил*
*товарищ «Теодор*
*Нетте».*
*Это - он.*
*Я узнаю его.*
*В блюдечках-очках спасательных кругов.*
*– Здравствуй, Нетте!*
*Как я рад, что ты живой*
*дымной жизнью труб,*
*канатов*
*и крюков…*

Ну і так далей. Для чаго я спытаў пра яго? Так, мы вучылі верш пра яго, а не ведалі, што гэта за асоба.

Хто не ведаў у Савецкім Саюзе прозвішча Неттэ? Ды кожны вучань. Ігар Неттэ па мянушцы “Гусь” – быў капітанам “Спартака” і зборнай СССР, быў кумірам мільёнаў футбольных заўзятараў, а Расія тады была, у адрозненне ад цяперашняй, сапраўды футбольнай краінай.

Але мала хто ведаў, што ў зоркі і балаўня лёсу Ігара Неттэ быў старэйшы брат, лёс у якога быў не меней шчаслівы. Юнацтва Льва Неттэ паглынула вайна, нямецкі палон…

А аднойчы, пасля нашай тайнай сходкі ў бараку падыходзіць да мяне невысокага росту чалавек, пазірае мне пільна ў вочы, гаворыць:

– Прадставіцца, Рыгор, хачу. Таварыш Тэадор Неттэ.

Я падумаў, што ён жартуе, а для чаго, даўмецца не мог. Рашыў падтрымаць яго “гульню”, удакладняю:

– Той самы, пра якога пісаў Маякоўскі?

– Так, той, ды не той. Не пра мяне Маякоўскі пісаў, а пра майго дзеда. Далучыцца хачу да вашага руху.

Мне ўжо было не да жартаў. Адышоўшы ўбок, мы прадоўжылі размову, і яна перацякла ўжо ў сёр’ёзнае рэчышча.

Падчас Другой сусветнай вайны яго ўзялі ў нямецкі палон. Больш года правёў у нацысцкіх турмах і лагерах. Калі вярнуўся ў СССР, тры гады адслужыў у арміі. А ў 1948 годзе быў асуджаны і сасланы ў Сібір.

Восем гадоў, ды якіх гадоў – за Палярным кругам, у лагеры асобага рэжыму, дзе вечная мерзлата, голымі рукамі, толькі адным кайлом працаваў на 12-мятровай глыбіні, выколваючы шурфы…

Леў Неттэ не проста выжываў у тых нечалавечых умовах. Ён разам з таварышамі аб’явілі падпольную вайну сталінскаму рэжыму, аб’яднаўшыся ў 1948 годзе ў Дэмакратычную партыі Расіі, – так назвалі сваю тайную арганізацыю. Тыя, хто стаў сябрам партыі, давалі клятву “змагацца за вызваленне Расіі ад камуністычнага прыгнёту”. Такая вось эвалюцыя адбылася ў поглядах сына латышскага стралка Льва Неттэ, бацькі якога далі яму імя ў гонар Троцкага.

Гэта ён потым пра тыя падзеі раскажа ў сваіх кнігах, і давядзе ўсяму свету такія словы: “*Нас там, у лагерах ГУЛАГаў, адстрэльвалі як дзічыну…*”

Сябры падпольнай партыі і сам Леў прынялі ўдзел у падрыхтоўцы і здзяйсненні Нарыльскага паўстання. Дарэчы, ён выратаваў свайго брата, куміра і любімца заўзятараў, ад адзінокай смерці ў багадзельні, – прытуліў у сябе і апекаваўся ім да апошняй гадзіны, калі пра яго забыліся і кінулі тыя, хто некалі ганарыўся ім і любілі яго. Але то, як кажуць, іншая гісторыя.

Надзейны быў чалавек, сур'ёзны і ўparты. Мы сталі сябрамі, хоць ён быў старэй за мяне.

…На дварэ глыбокая восень. Мо з тыдзень лілі дажджы, якія нікому ўжо былі непатрэбны, з дрэваў пазлятала амаль усё лісцё; над горадам і наваколлем нізка сунуліся шэрыя воблакі, парывісты вецер адганяў іх некуды на ўсход…

– Гэта адна гісторыя. А другая… Не меней фантастычная і займальная.

– Цікава паслухаць.

– Дык вось… Вядомы на ўвесь свет Эдзі Рознер. Больш трыццаці год ён пражыў у СССР. А нарадзіўся ў Берліне, у габрэйскай сям'і, якая выехала з Польшчы. Яшчэ ў дзяцінстве пра яго ведалі як пра музыкальнага вундэркінда-скрыпача. Гэта ён пазней выбраў трубу і іграў джаз. Прыход да ўлады нацыстаў паклаў канец яго кар'еры. Яшчэ да таго, як лёс прывёў яго у Краіну Саветаў, ён паспеў яшчэ стварыць у Польшчы вялікі аркестр, які скарыў Парыж, і дзе амерыканская кампанія "Каламбія" выпусціла з ім кружэлку, у прыватнасці, з яго версіяй "Каравана" Дзюка Эллінгтона і Хуана Цізоля.

А потым дарога яго прывяла ў Мінск. Склаўся калектыў музыкаў, якія збеглі з Нямеччыны. Стварыўся Дзяржаўны джаз-аркестр Беларускай ССР. О, якая гэта была музыка! Незвычайная, выбуховая, нечаканая, не падобная ні на якія іншыя, што я чуў!..

Пасля вайны Рознер спрабаваў вярнуцца ў Еўропу, спачатку легальна, а пасля таго, як яму адмовілі, не зусім легальным шляхам, і – трапіў у тое ж нкавусаўскае сіло, нават ярмо, што трапіў і я…

Арыштавалі, асудзілі… "Выпісалі творчую музычную камандзіроўку" у Магадан, дзе ён правёў сем гадоў. Нейкім цудам яму дазволілі арганізаваць у лагеры аркестр.

На нейкім адрэзку часу нашыя шляхі перакрыжаваліся. Мне ўдалося паціснуць руку гэтаму мужнаму і таленавітаму чалавеку, падзякаваць яму за цудоўную музыку.

І я падумаў тады: "Гэта ж трэба – каб сустрэцца з сусветна вядомамі асобамі, неабходна пабыць у лагеры, там, куды савецка-бальшавіцкая сістэма адпраўляла на здзек лепшыя розумы не толькі краіны Саветаў, а і зямнога шара!" Дзікуны былі ва ўладзе, а не разумныя галовы, крыважэрныя і тупыя, "без клёпкі ў галаве"…

– Сапраўды дзікунства, – падтрымліваю я Рыгора, – і ўсё для таго, каб знішчыць іх, каб не было разумнейшых за іх. І як далей склаўся лёс вядомага музыкі?

– Калі не стала галоўнага забойцы і ініцыятара рэпрэсій, яго рэабілітавалі. Ён яшчэ змог у Маскве стварыць джаз-аркестр, які стаў

папулярным, і кіраваў ім да таго часу, пакуль яго ў 1968 годзе не выпхнулі на пенсію тадэшныя чыноўнікі савецкай культуры.

– Шкада.

– Так, шкада. Ён яшчэ быў у сіле, яго музычны талент набыў найвышэйшую моц. Дарэчы, ён прыязджаў у Гомель – спрабаваў стварыць у нашым горадзе аркестр. Я дачуўся аб яго прыездзе і сустрэўся з ім. То ўжо быў чалавек, стомлены жыццём і няўдачамі. Мы ўспомнілі з ім гулагаўскія дні… Пасля шматгадовых спробаў атрымаць візу для наведвання родзічаў у ЗША, Эддзі Рознер разам з жонкай і яе дачкой у 1973 годзе прыехаў у Заходні Берлін. І там неўзабаве атрымаў нямецкі пашпарт і застаўся там жыць…

..Потым мы з Рыгорам хадзілі па горадзе, спусціліся па Кіеўскім спуску да Сажа.

Перад развітаннем, калі я правёў яго да аўтобуснага прыпынку, перадаў мне чарговую тэчку з рукапісам будучай кнігі.

Падышоў аўтобус, мы пацiснулі адзін аднаму рукі, і ён зайшоў ў салон.

3

На той час я з’яўляўся старшынёй грамадскай Гомельскай абласной арганізаці таварыства беларускай мовы імя Францішка Скарыны. А Валянціна Башлакова ўзначальвала гарадскую арганізацыю ТБМ. Рыгор Клімовіч прымаў самы актыўны ўдзел ва ўсіх мерапрыемствах, выступаў, падказваў нават, як лепш праводзіць тое альбо іншае мерапрыемства.

Амаль заўсёды побач з ім быў Цімох Вострыкаў – асоба легендарная і загадкавая, лёс яго звязаны з БНР, і ён актыўны ўдзельнік яе стварэння.

На той плыні адраджэння мы часта збіраліся разам. Алесь Яўсеенка, спявачка і паэтка Вальжына Цярэшчанка, Алесь Зінчук, Алесь Карніенка, Алесь Мткавец, Мікола Засінец, які кіраваў гарадзскім аддзелам адукацыі… Ды ўсіх не пералічыць, у зале, калі збіраліся, то і месца ўсім не хапала…

Дык вось. Дзядзька Рыгор для нас быў не толькі жывым прыкладам як змагацца за будучае краіны, а і прапагандыстам ідэй таго змагання. Актыўна ўдзельнічаў у друку. Яго з ахвотай друкавалі розныя газеты.

Мне хочацца прывесці яго адзін артыкул, які быў надрукаваны ў газеце “Гомельскія ведамасці” ад 12 лютага 1993 года, і называўся “Людзьмі звацца” пад рубрыкай “Ці помнім усё?” Рэдактарам газеты быў Рыгор Андрыявец.

Прыводжу дзеля таго, каб паказаць, што тыя пытанні, якія нас хвалявалі ў тыя гады, не страцілі актуальнасці і сёння, можа яшчэ і больш узмацніліся і абвастрыліся.

“Не так даўно гамяльчане святкавалі 850-я ўгодкі свайго горада. Хаця ж і часу было дастаткова да падрыхтоўкі, але, на жаль, сапраўднага свята не атрымалася. Чаму? На ім не прагучала нічога з таго, чым слаўны і багаты наш край, чым ён вылучаецца сярод іншых, чым можа ганарыцца. Гучалі чужыя мелодыі і казанні.

Гомельскі край – гэта адзіная мясціна ва ўсходнеславянскіх землях, дзе да нядаўняга часу захоўваліся амаль у першапачатковым выглядзе старажытныя, яшчэ дахрысціянскія славянскія традыцыі, звычаі, абрады, напевы і нават галоўныя асаблівасці нашай старажытнай мовы, бо наш край быў адзіным ва ўсходнеславянскіх землях, які да XVI стагоддзя не падвяргаўся спусташальным руйнаванням.

А ў складзе Вялікага Княства Літоўскага, Рускага, Жамойцкага, гаспадары якога старыны не рушылі, – ён апынуўся ў тэрытарыяльнай глыбінцы і болей як 150 гадоў не ведаў ні войнаў, ні рабаванняў. У выніку чаго на Гомельшчыне захаваўся самы багаты старажытны фальклор.

Калісьці, напрыканцы XIX і ў пачатку XX стагоддзя, энтузіясты-даследчыкі славянскай старыны напісалі дзясяткі кнігаў, але пра іх мы нічога не ведаем.

Мы як быццам бы сябе абрабавалі на духоўныя здабыткі нашых продкаў. Вось ужо сапраўды актуальна гучаць словы Тараса Шаўчэнкі: “Слаўны прадзедаў вялікіх – патомкі паганы”.

Мне асабіста ніяк няўцям – чаму ў час святкавання ўгодкаў горада на вуліцах былі развешаны выявы герба, які даравалі Гомелю расейскія гаспадары пасля таго, як яны захапілі нашыя землі ў выніку гвалтоўнага падзелу Рэчы Паспалітай?

Вывешваючы гэтыя – чужыя – гербы, гарадскія ўлады, напэўна, імкнуліся засведчыць, што сапраўдная гісторыя горада пачынаецца з часоў расейскай каланізацыі, з часоў, калі вольныя грамадзяне Гомеля сталі прыгоннымі графа Румянцава.

Між іншым, бальшавікі лічылі, што сапраўдная гісторыя горада, як, дарэчы, і ўсёй Беларусі, бярэ пачатак ад 17-году – калі беларусаў пад прымусам пралетарскай дыктатуры пачалі падштурхоўваць да бездані самазнішчэння. І ўсе тыя, ганебныя для беларусаў, сцвярджэнні не выклікаюць чамусьці ў нашым грамадстве абурэння. Незразумела такое стаўленне беларусаў да сваёй гісторыі.

Мусіць жа таго, што людзей пазбавілі гістарычнай і культурнай спадчыны, адарвалі ад іх памяці галоўнае, – таму і не дзіўна, што гамяльчане не ведаюць, якога яны роду-племені, дзе пачынаюцца іх карані, у чым іх нацыянальная годнасць і нацыянальны гонар.

І малітвы ўзносяць да Бога на чужой, не на нашай, мове.

Таму я асабіста лічу, што святкаванне ўгодкаў горада ў такім выглядзе не толькі не абудзіла нацыянальную свядомасць нашых людзей і не дадала гонару гораду і яго жыхарам, а, наадварот, яшчэ больш паглыбіла нашае нацыянальнае беспамяцтва, а ў мяне асабіста – недаўменне і прыкрасць.

“Прадзедаў слова лазой зарастае, памяць мінуўшчыны дрэмле ў зямлі” – пісаў Янка Купала. Ці не пра нас, шаноўныя, тыя радкі? Пра нас, пра нас, – і мы мусім прызнаць тое…

Не, нам не трэба драмаць Нам трэба адраджацца, будзіць памяць, далучаць людзей да нацыянальных і духоўных каранёў, культурнай спадчыны. Мы павінны ўсвядоміць сябе адзіным народам і даць зразумець, што толькі пры такім усведамленні мы можам быць моцнымі і справіцца з любымі цяжкасцямі і ліхалеццямі, у тым ліку і эканамічнымі.

Нам у Гомелі патрэбен Беларускі Культурны Цэнтр.

Гомель – горад беларускі. Ён заснаваны радзімічамі, якія разам з дрыгавічамі і крывічамі ў працэсе свайго развіцця і асіміляцыі балтаў, што жылі тут да прыходу славянаў, склалі беларускую народнасць, а потым стварылі і сваю дзяржаву.

Гомель адыгрываў тады не апошнюю ролю ў гандлёвай і культурнай сферы. І служыў паўднёва-усходняй цытадэллю згодна свайму геапалітычнаму становішчу, ён меў свой адметна-асаблівы ўклад жыцця і такую ж сваю культуру. Адрадзіць яе ва ўсёй сваёй красе – клопат кожнага з нас.

Першай і, бадай, галоўнай прыступкай да гэтага і быў бы створаны ў нашым горадзе БКЦ – беларускі культурны цэнтр. У ім бы маглі б пастаянна працаваць розныя секцыі – па аднаўленні старажытных традыцый, звычаяў, абрадаў, напеваў, па вывучэнні і выкарыстанні этымалагічных асаблівасцяў старажытнай мовы, па адраджэнні гістарычнай і культурнай спадчыны, па зборы і вывучэнні фальклору… Ды шмат чаго іншага і неабходнага, што спрыяла б нацыянальнаму адраджэнню.

Беларускі культурны цэнтр патрэбен і як установа, у якой беларусы, згодна са сваімі традыцыямі і звычаямі, змаглі б адзначаць свае традыцыйныя святы і гістарычныя даты – гуканне вясны, Купалле, дажынкі, Дзяды, а разам з імі і рэлігійныя святы – Вялікдзень, Пяцідзясятніца і іншыя…

БКЦ патрэбен і як сродак для развіцця культуры на грунце яе традыцыйных асаблівасцяў, для пашырэння ўплыву і ўздзеяння на ўсе галіны культурнага і мастацкага адраджэння, уключаючы дойлідцтва, а праз гэтае пашырэнне наладжваць лекцыі і дыспуты, тэатральныя пастаноўкі.

Такая ўстанова зможа аб’яднаць беларусаў праз далучэнне іх да гістарычнай і культурнай спадчыны, а таксама для актывізацыі

дзейнасці ЗСБ “Бацькаўшчына” па аказанні дапамогі беларускім дыяспарам блізкага нам замежжа.

Цэнтр патрэбен яшчэ і для пашырэння дзейнасці таварыства беларускай мовы, для ўдасканальвання ведаў настаўнікаў і ўсіх іншых зацікаўленых грамадзянаў Гомеля аб жыцці і светапоглядзе беларусаў, іх будучыні.

Мы б тады мелі магчымасць узаемадзейнічаць з культурамі іншых народаў, з якім  некалі цесна суіснавалі ў сваёй дзяржаве і ў аднолькавых гістарычных абставінах узрошчвалі і развівалі сваю культуру – украінцамі, літоўцамі, палякамі…

Культура – гэта як песня вайлота, душа народа. Гэта як штандар Нацыі, яе душы.

Ці разумее мы тое? Ці помнім усё, што было створана да нас? Ці шануем спадчыну, а, значыць, і саміх сябе?

Гомельская гарадская Рада (Савет) клапоціцца пра людзей, імкнецца забяспечыць гамельчукоў самым неабходным. Людская ім удзячнасць. Але ж не хлебам адзіным жыве чалавек. Не толькі страўнікам, а нечым і яшчэ больш важным – душой. Вось і трэба паклапаціцца пра яго душу, пра яго духоўнасць Мы можам і павінны прыгожа жыць, духоўна і ўзнёсла, і людзьмі звацца, – тады мы пераможам усё і зоймем “належны пасад між народамі”.

*Рыгор Клімовіч, сябра кансультатыўнай Рады “Адраджэнне”.*

4

Падчас размовы мы зачапілі пытанне адраджэння.

Выказаў дзядзька Рыгор мне такую думку:

– Ведаеш, пра што я падумаў. На ўсе нашыя запыты, просьбы, патрабаванні чыноўнікі ад улады чаўпуць адно і тое ж: “Няма грошай на тое, што вы просіце”. Магу згадзіцца, але не зусім, што няма грошай.

Ды ў нас, за калючым дротам, калі нешта здарылся нешта неардынарнае, жахлівае, горычнае і патрэбна была дапамога, – то толькі адзін кліч на ўвесь ГАРЛАГ – і на другі дзень было сабрана ўсё, што трэба.

А цяпер… Як ты думаеш, улада ў нас беларуская?

– Ну, грамадзянамі Беларусі абраная, – слаба пярэчу я, ведаючы, пра што ён хоча мне давесці.

– А калі яны спрэс усюды размаўляюць на мове суседняй дзяржавы, я лічу, што агрэсара і акупанта, то ці могуць яны лічыць сябе беларускім урадам? Ладна, я згаджуся, яны – беларускі ўрад. Дык калі ён беларускі, і ўсе яны шчырыя беларусы і змагаюцца за тое, каб Беларусь была беларускай, – то давайце паможам хворай Маці, увальем у яе жыватворныя сокі, ласкай ды любоўю ахутаем… Узялі б чыноўнікі ўсіх рангаў,

ды і самага высокага, ды адмовіліся б атрымаць за нейкі месяц зарплату, ды пусціць тыя сродкі на беларушчыну, га? На цэнтры і школы, на адраджэнне нацыянальнага ўніверсітэта, мільёны кніжак павыдаваць для дзяцей і дарослых, ды ўсе пра нашую гісторыю, пра нашае мінулае, кінафільмы праўдзівыя зазняць, ды на нашай мове; ды радыё і тэлебачанне на роднай мове… То і загаварылі б усе за кароткі час на роднай мове. Вось тады і зажыла б мая радзімачка шчаслiва і заможна…

Я пагадзіўся з ім.

– Ну, то я выказаў можа і задужа, – усміхаецца дзядзька Рыгор, – такое можа быць толькі тады, калі кожны чыноўнік і дзяржаўныя службоўцы ўсе да аднаго пачуваліся адданымі людзьмі сваёй радзіме, – але, на вялікі жаль, таго няма. Бо там засталіся (паселі) тыя ж партыйныя функцыянеры, сыны ці ўнукі тых жа энкавусаўцаў, які расстрэльвалі свой жа народ ці адсылалі іх у ГУЛАГі ці ГАРЛАГі на смерць, мо і нашчадкі ахоўніка у турмах ды ў лагерах…

Згаджаюся з ім, бо і сам такой думкі.

– Прадоўжу, браце, выкажуся да канца.

Са школы нам убівалі ў галовы, што прагэсіўны і разумны цар Аляксандр Другі адмяніў прыгоннае права. Але для каго? Толькі для заходніх тэрыторый, той жа Літвы, дзе спела, набірала моцы выбуховы буйны закалот. А маскоўскіх сялянаў загналі ў "гурт", дзе здзекаваліся над імі, як над быдлам. Рабы, няйначай не назавеш. І той прыгон быў адменены толькі ў 1907 годзе.

Пасля паразы закалоту 1863 года, якім кіраваў Кастусь Каліноўскі, з нашай радзімы Беларусі прымусам вывезлі ўсё гарадское насельніцтва. Замест іх прыбылі статкі рускамоўнага чынавенства і папы, каб насаджаць расейскую мову. Людзі, якія траплялі з вёсак у горад, траплялі ў чужое ўжо асяроддзе – расейскамоўнае. А куды падзеліся сапраўдныя беларусы? У Сібіры, у халодным краі. Там мерзлі і гінулі, і прымала іх чужая зямля ў свае абдымкі.

Во як адпомсціў царскі служка і кат Мураўёў беларусам за тое, што яны "захацелі людзьмі звацца"! Мільёнымі іх у вечную мерзлату, туды, і каб не вярталіся, а засталіся там на вечнае пасяленне!

Ворагам для нас Расея як была, так і засталася.

А потым, каб нас данішчыць да канца, маскоўскі імперыялізм і Ленін-Бланк-Ульянаў пусцілі на нашую краіну новую пошасць – камунізм, бальшавізм. Гэта яны прынеслі нам пакуты на доўгія гады.

А потым зноў чарговая навала – сусветная вайна. Гітлер і Сталін хацелі абдурыць адзін аднаго, а мільёны і мільёны людзей з-за іх загінулі…

Расея, заваёўваючы чужыя тэрыторыі, і нашыя ў першую чаргу, добраахвотна аддавала свае. Асабліва тыя, дзе холадна і дзе чалавеку амаль

немагчыма працаваць. Яе і аддавалі тым, хто быў быццам бы і ворагам той жа Расеі, а тых “ворагаў” збіралі з усіх, як яны называлі “брацкіх рэспублік”, і таварнякамі, у лютыя маразы, гналі на тыя тэрыторыі. І нам, беларусам, не пашкадавалі той зямлі, як той жа Нарыльск для мяне асабіста. Шчодрыя яны, браце, на такія падарункі… Расея – яна, а называе сябе старэйшым братам, яна што – гемафрадыт?

Дык я пра ўладчыкаў, чыноўнікаў, тых, хто кіруе і дакляруе клапаціцца пра кожнага з нас.

Але ж, але ж, – была б нечая воля, мо самога Вышняга, каб не прымусіць, а прапанаваць, падказаць розуму іх, каб хаця адзін год штомесячна ад заробкаў сваіх пералічвалі дзесяць адсоткаў у агульны фонд адраджэння “Бацькаўшчына – мая родная Маці”. Тады б мы акрыялі, тады б у жылах краіны порстка запульсавала свежая кроў, уліліся новыя сілы, і тады сапраўды загучэў бы пацвярджаючы гучны заклік і сцвярджэнне:

– Жыве Беларусь! І жыць ме ў вяках!..

Рыгор замаўкае. Ён выказаў сваю думку. А я адчуваю і чую, як занепакоена і гулка б’ецца яго сэрца. Сэрца сапраўднага патрыёта і антысавецкага змагара.

Сына сваёй Радзімы. Патрыёта і Героя.

…………………………………………………………………

## *ІІІ. А што пакінем пасля сябе?*

1

### *Антысаветчык дзядзька Рыгор*

Прайдзіцеся па вуліцах Гомеля і спытайцеся ў сустрэчных, як прайсці на вуліцу імя Рыгора Клімовіча. Могуць перапытаць:

– Клімовіча? Не ведаем, не чулі пра такую вуліцу…

Так, усё так.Такой вуліцы ў абласным цэнтры, на жаль, няма, – яшчэ няма, але яна абавязкова некалі будзе. Змагарам за свабоду не адразу аддаюць, на жаль, пашану.

У тых жа сустрэчных гамяльчанаў можна папытацца і пра тое, ці чыталі яны вершы Рыгора Клімовіча. Той жа адказ:

– Не чулі пра такога.

Паэта Рыгора Клімовіча ведаюць і чытаюць хіба літаратуразнаўцы. Бо асобных кніжак у гамяльчаніна не выходзіла, а гімн паўстанцаў ГАРЛАГа, які ён стварыў, вядомы адмыслоўцам ва ўсім свеце.

Яго мемуары, кнігі ці ўспаміны чыталі нешматлікія гісторыкі, якія цікавяцца праблематыкай сталінскіх рэпрэсіяў, гісторыкаў і мемуарыстаў.

Так ці інакш сама гісторыя сцвярджае: імя аднаго з кіраўнікоў Нарыльскага паўстання ў ГАРЛАГу ў 1953 годзе (лічы, галоўнага кіраўніка) застанецца ў памяці нашчадкаў, – яно выбіта будзе залатымі літарамі на агульным помніку сталінскіх ахвяраў, якi будзе ўзведзены ў будучым.

Помняць у Гомелі пра яго блізкія людзі, сябры, таварышы, тыя, хто ўключыўся ў актыўныя працэсы вяртання беларушчыны ў сваё рэчышча, калі Беларусь стала самастойнай дзяржавай.

Супрацоўнікі радыё "Рацыя" Мікола Бянько і Юлія Сівец зрабілі рэпартаж, які назвалі "Антысавецкі беларус". І за аснову ўзялі ўспаміны пра бацьку Юры Клімовіча:

– Ужо 1991 годзе, калі праходзіў з'езд палітрэпрэсаваных ва Ўкраіне, прыняў ў ім удзел і Рыгор Клімовіч. Яго арганізатары запрасілі прыехаць на гэты форум. Ён з радасцю згадзіўся прыехаць у Кіеў, каб пабачыцца з тымі, хто выжыў, хто прайшоў тое пекла, разам з усімі выказаць абурэнне сталінскім рэпрэсіям і савецкаму рэжыму.

Недзе на сярэдзіне працы з'езда, паслухаўшы выступленні былых зняволеных, устаў з месца адзін чалавек, падняў руку, выгукнуў:

– Прашу слова! З Гомеля – Рыгор Клімовіч!

Яго паклікалі да трыбуны. Рыгор, агледзеўшы залу, амаль з кожным перакінуўся позіркам, быццам прывітаўся, не адразу мог пачаць выступленне, – нешта сціснула ў горле, перахапіла дыханне.

– Сябры мае, вітаю ўсіх! Скажыце, мае дарагія і родныя, ці маглі мы марыць пра тое, што некалі мы вось так зможам сустрэцца і вольна гаварыць між сабою? Няпраўду кажу, даруйце, – мы марылі, кожны дзень марылі, як вырвацца з крывавых кіпцюроў сталінскіх катаў, і ўсё рабілі для таго, каб наблізіць гэты дзень! У мяне сёння вялікая радасць, калі бачу, як мы сабраліся разам, як…

І тут яго перабіў нехта з дэлегатаў з'езда, з сярэдзіны залы ўсклікнуў гучна і ўзнёсла:

– Сябры дэлегаты! Хто выступае перад намі, вы ведаеце? – Це ж автор гімну повстанців у Норильську – білорус Григір Климович! Вітаємо його!

Усе дэлегаты паўставалі са сваіх месцаў, апладысментамі засведчылі павагу да яго. Ён не чакаў такіх бурных авацыяў у свой адрас, ніякавата глядзеў у залу і не ведаў, пра што гаварыць далей. Калі праз колькі хвілінаў воплескі скончыліся, ён пасур'ёзнеў, кашлянуў у кулак, ужо роўным і спакойным голасам правёў свой выступ да канца.

Калі скончыў, яго не адпусцілі ўсё ж з трыбуны. А ўключылі тут жа ў ганаровы прэзідыум. Пасадзілі сярод паважаных людзей, і месца яму выдзелілі побач з сястрой Сцяпана Бандэры – Уладзімірай.

І потым толькі з'езд увайшоў у сваю рымічную і працоўную каляіну.

А ён усё яшчэ не мог адысці ад узрушання, што яго так сустрэлі, так

прывіталі. І, мусіць, каб хаця б трохі адабраць ад яго хваляванне, сястра Бандэры паклала сваю руку на яго і сціснула.

Потым яны пасля форуму доўга размаўлялі. Сястра расказала яму пра свайго брата.

– Калі пачалася Другая сусветная вайна, усёй нашай сям'і прыйшлося прайсці цяжкі пакутніцкі шлях. Наш бацька Андрэй адмовіўся пакідаць родную вёску, якую занялі савецкія "вызваліцелі" – на той час баявыя таварышы нямецкіх нацыстаў. Сцяпан прасіў бацьку, каб той пакінуў вёску, паслаў да яго сваіх пасланцоў. Але ён папрасіў іх перадаць сыну яго словы: "Што будзе з нашымі людзьмі, тое будзе і са мной. Не маю рэлігійнага, духоўнага права як украінскі патрыёт пакідаць аднавяскоўцаў".

Андрэя Бандэру, святара грэка-каталіцкай канфесіі, арыштавалі нкусаўцы, хаця ніякай віны за ім не было. Арыштавалі хіба за тое, што быў  ён украінскім патрыётам і з'яўляўся бацькам Сцяпана. А восьмага ліпеня 1941 года яму вынеслі смяротны прысуд, а праз два дні яго ў Кіеве расстралялі.

Адзін з братоў Сцяпана – Багдан – загінуў у паходных групах АУН на поўдні Украіны ў 1941 годзе. Але то ўжо не нкусаўцы, то гестапаўцы забілі яго. А іншых двух братоў – Аляксандра і Васіля – закатавалі ў нацысцкім лагеры Аўшвіц (Асвенцым).

– Нас – траіх сясцёр – Марту, Аксану і мяне, – працягвае Уладзіміра, – арыштавалі нкусаўцы, адразу ж адправілі ў ГУЛАГ. Нас потым прывозілі ў Маскву, вадзілі па тэатрах і музеях, дэманстравалі нам "поспехі" савецкай улады. Прапаноўвалі бясплатна адзенне і абутак, дарагія рэчы. І ўсё дзеля таго, каб мы прызналі свае дзеянні ў адносінах да савецкага ладу няправільнымі і асудзілі дзейнасць нашага брата пісьмова. Мы адмовіліся, сказалі, што ніякіх папер падпісваць не будзем…

Марта і Аксана пражылі жыццё самі. Пасля таго, як яны адбылі тэрміны зняволення, не дазволілі вярнуцца ў Украіну. Я ж, калі мяне арыштавалі, мела шасцярых дзяцей. Калі ж я з мужам-святаром знаходзілася ў высылцы, дзяцей аддалі ў дзіцячы дом…

І Сцяпанка наш утрымліваўся ў канцлагеры. Нацысты неаднаразова схілялі яго да супрацоўніцтва, і кожны раз ён адмаўляўся ад іх прапановы. Выпусцілі яго на волю пад канец вайны, калі Нямеччына цярпела паразу адну за адной. У іх было нават жаданне і чаканне, што з дапамогай Сцяпана Бандэры яны здолеюць выкарыстаць Украінскую паўстанцкую армію, аднак рэальнага ніякага супрацоўніцтва паміж АУН, УПА і нацыстамі так і не адбылося, – тут Сцяпанка, наш родны брацік, аказаўся на вышыні, не заплямiў сябе бруднымі справамі.

Рыгор Клімовіч абняў яе за плечы, прытуліў да сябе, прамовіў:

– Дзякуй табе, Уладзіміра, за мужнасць. Імя твайго брата застанецца ў гісторыі як стойкага змагара за незалежнасць Украіны.

2

– Мой бацька – выхадзец са старадаўняга шляхецкага роду Клімовічаў-Церанецкіх, – Церанецкія з Цярэшкавічаў. Мой дзед, бацькаў бацька, удзельнічаў у руска-японскай вайне, быў матросам на браняносцы “Мікалай Першы”, трапіў у японскі палон, – прабыў там два гады. Потым вярнуўся з іншымі палоннымі на радзіму… Бальшавіцкі пераварот. Дзед уліўся ў шэрагі камуністаў, паверыўшы ім у наладжванні новага ладу ў краіне.

У Цярэшкавічах ён быў вядомым чалавекам, быў партыйным актывістам, але сталася так, што ён вымушаны быў уцякаць у 30-х гадах з роднай вёскі… Чаго? Ён адарваўся ад каранёў вяскоўцаў, не ведаў пра глыбінныя працэсы іх духоўнага свету і бытавога жыцця, – і таму верыў, што толькі камуністы могуць там наладзіць свой бальшавіцкі парадак. На фармаванні яго характару наклалі свой адбітак службы на флоце, вайна, палон. Ён хацеў лепшага, а не мог зразумець, што прапанаване “лепшае” – смерць для людзей. А цярэшкаўцы, як аказалася, люта ўзненавідзелі новую ўладу і тых жа бальшавікоў. Што і не кажы, мудры і прадбачлівы быў народ!

І аднойчы, калі яму шапнулі сябры на вуха, што яго збіраюцца забіць ноччу, ён і знік з вёскі. Тое і ўратавала яго ад смерці…

Такім чынам, мой бацька ў складзе сям’і і аказаўся ў Гомелі. Жылі яны на вуліцы Камсамольскай, раней – Аляксандраўскай, насупраць цяперашняга чыгуначнага інстытута, які стаў універсітэтам, – у хаце, дзе жыла ягоная цётка.

Цікава тое, што муж тае цёткі быў дварэцкім у палацы князя Паскевіча. Там дом нават быў. Палову адабралі, хацелі адабраць і наступную палову, і таму уся братавая сям’я перасялілася да іх, – і тады ўжо ўлады не мелі ніякіх прэтэнзіяў…

Скончыўшы школу, бацька паступіў у індустрыяльна-педагагічны тэхнікум. Вёў, так бы мовіць, актыўны вобраз жыцця, быў грамадскім актывістам. Праз паўгода намячалася абраць яго камсамольскім важаком вучэльні… Удзельнічаў у афармленні насценных газет, пісаў вершы, друкаваў іх у газетах. Неяк так сталася, што пра яго публікацыі даведаліся ў Менску і яго запрасілі на лецішча да Янкі Купалы, каб ён прыняў удзел у нейкім паэтычным вечары… Не толькі яго запрасілі, а і яшчэ з дзясятак хлопцаў і дзяўчатаў, якія спрабавалі сябе ў вершаскладанні, лічыліся, так бы мовіць, актывістамі...

Як бацька ўспамінаў, Янка Купала выслухаў уважліва кожнага пачынаючага паэта, пахваліў, што яны любяць паэзію і спрабуюць сябе ў гэтым жанры. Але ацэнак ніякіх не даваў, нікога не крытыкаваў і не хваліў. Бацька чытаў свой твор апошнім. І чытаў свой “Еўрапейскі цыклон”.

Паэт выказаў усім падзяку, што прыехалі да яго ў госці, прамовіў:

– А цяпер, дарагія мае, пайшлі піць гарбату.

Запомніўся Купала бацьку тым, што той быў ўважлівы і засяроджаны, зрэдку ўсміхаўся, але не быў падобны на строгага ці замкнутага чалавека, – ад яго сыходзіла шчырасць і дабрыня, душэўная цеплыня.

Жонка Янкі Купала, цётка Ўладзя, завіхалася сярод гасцей, старалася дагадзіць кожнаму, падкладвала і падкладвала кожнаму сочыва і розныя прысмакі, як быццам кожны з іх быў яе блізкім родзічам.

Пра жыццё краіны не гаварылі, рызыкоўных тэмаў не краналі.

Цётка Ўладзя і гаспадар гаварылі нешта прыблізна такое:

– Які ўчора прайшоў цудоўны дождж… Мусіць, быць добраму ўраджаю. І ў вершах сваіх пішыце пра сонейка, пра росныя раніцы, пра касавіцу…

І з хаты бацька выходзіў апошні. Як быццам не спяшаўся выходзіць, як надаўжэй хацелася пабыць побач з Янкам Купалам. Вось тады і падышоў гаспадар да яго, пасур’ёзнеў, напаўголаса прамовіў:

– Будзь, хлопча, асцярожны.

… На дварэ стаяў 1940 год…

Тое Янка Купала ўсё выдатна разумеў.

Ды толькі, мусіць, не разумеў таго часу нашчадак царскага матроса Сяргея Клімовіча навучэнец тэхнікума Рыгор Клімовіч. На развітанне Янка Купала сказаў ім усім толькі два словы – “Беражыце сябе!”

Бацька, мусіць, зразумеў толькі тое пажаданне ў побытавым сэнсе, а мо і ў самым глыбінным, не ведаю, але ён жа быў, як я казаў, са шляхецкага роду, у якім згінацца ці зусім згінацца не ўмелі – пастава спіны “не дазваляла”, толькі прама, і галаву несці горда…

А з бацькі тыя вершы пёрлі і пёрлі, як на дрожджах узрасталі.

Ніхто ж не папярэджваў са старэшых ці разумнейшых, што нейкую мяжу пераходзіць нельга, што за тое караюць, ды не проста караюць, а адпраўляюць у іншы свет… А яго натхнілі словы класіка беларускай літаратуры, што ён пахваліў усіх за паэтычныя спробы, – ён як быццам выправіў у дарогу маладых птушанят, надзяліўшы кожнага паэтычнымі крыламі.

Ну і… Ну і пачаліся непрыемнасці. І – праблемы, вялікія праблемы.

Ён, як рэдактар насценгазы “Настаўнік”, змясціў на пачэсным месцы свой верш “Еўрапейскі цыклон”, які быў “праверany”, які чуў класік. Тэма верша балючая – як прыходзяць у краінах да ўлады фашысты, як потым пакутуе ад гэтага народ. Гітлер прыйшоў да ўлады, пра тое ўвесь свет ведаў. А на той час Нямеччына была вялікім сябрам СССР, і таму такія рэчы друкаваць нельга было, – забаранялася, сварыцца са сваімі сябрамі не дазвалялася.

Газета на сцяне правісела ўсяго дзве гадзіны. Потым яе сарвалі настаўнікі і знішчылі. І тым самым, як яны лічылі, пазбавіліся ад палітычных праблемаў, а аўтара строга-настрага напачатку папярэдзілі, а потым былі з ім розныя выхаваўчыя размовы, параілі зусім не пісаць вершаў… Ён таго не разумеў, але ўспомніўшы параду-папярэджанне Янкі Купалы, падумаў, што недзе пераступіў незаўважна мяжу дазволенага, – але было позна ўжо, пагалоска пайшла па тэхнікуме, што выдатнік Клімовіч "не разумее палітыку партыі і наносіць шкоду сяброўству Краіны Саветаў з Нямеччынай".

Калі пачалася вайна, немцы занялі Бранск – Старадуб. У той жа час на браншчыне знаходзіўся бацька са сваімі сябрамі. Гэта значыць, што яны апынуліся на акупаванай зоне. Зразумеўшы сітуацыю, памкнуліся назад, на Гомель… Прабіраліся начамі, стараючыся не выдаць сябе неасцярожнымі паводзінамі ці воклічамі. Чуліся выбухі гармат, страляліна, а ў іх было адно жаданне – прабіцца да сваіх.

І калі ворага выгналі з краіны, у 1944 годзе і прычапіліся да яго "органы". Пытанне стаяла адно: "Што вы рабілі, калі знаходзіліся пад уладай нямецка-фашысцкіх акупантаў у Старадубе?" Ён не адказваў. Яго білі, катавалі, прымушалі прызнацца ў тым, чаго ён не рабіў.

– Не хочаш прызнавацца, што цябе завербавала разведка Абвера? – нахіліўся над ім, калі ён прыйшоў да памяці, раз'ятраны следчы. Што цябе, як агента нямецкай разведкі, скінулі з парашута? Падпісвай паперы, не выкручвайся!

Ён выбраў свой шлях. Маўчаў. На пытанні не адказваў, нічога не падпісваў. Бо ведаў – калі падпіша такую паперу, дык і адправяць неадкладна да прададзедаў. Таму сказаў:

– Пішыце, што хочаце, але я нічога не падпішу.

…Ён паспеў яшчэ на прыканцы сорак другога года паступіць на факультэт журналістыкі ў Саратаве. Такая вось сітуацыя – акупацыя, эвакуацыя, а там працаваў універсітэт. Два гады ён адвучыўся там.

Нечага падаўся ў Маскву. А з сабой не ўзяў ніякіх дакументаў – хто ён і адкуль, чаго прыехаў. Калі патрулі на вакзале правяралі дакументы ў тых, хто з'явіўся ў сталіцу, ён нічога не змог паказаць… За тое і арыштавалі, а маглі без суда і следства, па ваенным часе, і расстраляць. Такое рабілі, каб доўга не разбірацца…

Урал, лесапавалы, заводы…

Не падзейнічала парада Янкі Купалы – пасля таго, як яго жорстка збівалі, даводзілі да беспамяцтва, у ім яшчэ больш узмацняўся супраціў. Ён ужо быў гатовы да гэтага – і маральна, і фізічна.

Падгледзеў аднойчы ахоўнік, што зняволены нешта чыркае ў нататніку, а потым чытае ўголас нейкія пракламацыі, – далажыў на-

чальству. Тыя абшукалі ўсе кішэні, дайшлі да споднікаў. А што там шукаць – блакноцік жа не схаваеш нікуды. Знайшлі, прачыталі, убачылі ў ім злоснага ворага Савецкай дзяржавы. І яшчэ накінулі яму гадкоў – аж пятнаццаць.

А ў суме, калі палічыць, паэзія "нацягнула" усяго на дваццаць пяць год.

Тэрмін як служба ў царскай арміі – адвалілі дык адвалілі…

…А потым ён трапляе ў Нарыльск і, нарэшце, канае вусаты дыктатар… А потым выбухвае Нарыльскае паўстанне .

*Даведка: Нарыльскае паўстанне. Паўстанне палітычных зняволеных Нарыльскага канцлагера, якое выбухнала адразу пасля смерці Сталіна. Бунт ці закалот доўжыўся з 23 траўня па 14 жніўня 1953 года .*

Перадумовы закалоту – былі невыносныя ўмовы ўтрымання людзей, голад і забойствы вязняў.

– Паўстанне на той час было вельмі небяспечнай справай. Маглі проста аўтаматнымі чэргамі пазабіваць усіх паўстанцаў, – і ніхто пра тое не даведаўся б.

Але проста ў вязняў накіпела так, што ўжо ніхто і смерці не баяўся, бо ўсе да аднаго ведалі – наперадзе толькі смерць. Ды і людзі там былі загартаваныя няволяй, калі можна так сказаць, людзі адчайныя, смелыя і рашучыя.

Канцлагеры поўніліся новымі вязнямі. Найбольш іх паступала з Украіны, людзей гэтай краіны НКУС лічыў нацыяналістамі, самымі небяспечнымі ворагамі для Саветаў. Саджалі на дзясяткі гадоў людзей цэлымі сем'ямі, вёскамі. Павальна.

Вось тады бацька ўпершыню пабачыў людзей "не савецкіх", якія люта ненавідзелі той лад, які ім навязвалі. Больш таго, калі іх прымушалі ў лагеры пакаяцца, прызнацца ў сваіх антысавецкіх дзеяннях, яны не толькі не прымалі тое, а адкрыта заяўлялі ўсім тым, хто схіляў іх да ілжывых паказанняў: "У нашых душах і сэрцах жыве нянавісць да савецкай улады, да камуністаў, да карных органаў, якія нішчаць людзей гэтай карнай краіны…"

Бацьку, як ён прызнаваўся, тое найбольш і ўразіла, і здзівіла. І ён пранікся вялікай увагай да гэтых антысавецкіх людзей, і не толькі пранікся, а і прыняў іх адразу ў сваё сэрца, – сам уліўся ў іх рады. І каб паказаць тое, ён дэманстраваў потым свае паводзіны, рабіў учынкі, якія сведчылі, што і ён зрабіўся непрымірымым антысаветчыкам. Хаця ён і быў ім да гэтага, проста з прыходам тых непрымірымых людзей і ён адчуў сябе "Чалавекам".

Такіх людзей, якія не прымалі краіну камуністаў, пазабівалі яшчэ да вайны. А тут такое…

Ну і яшчэ можна сказаць пра адну групоўку – гэта “воры в законе”. Гэтае слова неяк і не перакладаецца на беларускае “зладзеі”. Бо гэта канцлагерны сленг, і тое слова амаль не перакладаецца ні на якія мовы свету. Бацька пераклаў тое слова, а з цягам часу зразумеў, што гэта не “злодзеі” у паасобку, гэта лагерная “эліта”, гэта вышэйшая каста, і якой падпарадкоўваліся ўсе іншыя, менш значныя, групоўкі. Людзі ў ёй былі спрэс антысавецкія, а калі дакладней, то антыдзяржаўныя...

Гэтыя людзі сталі тым падмуркам, той асновай, на якой фармавалася змаганне і супраціў. То яны, украінскія прадстаўнікі, сапраўдныя нацыяналісты ў сапраўдным і добрым сэнсе гэтага слова, увайшлі ў склад той камісіі, якая збіралася гаварыць з высокім начальствам сістэмы – з прадстаўнікамі маскоўскай камісіі ў складзе вышэйшых чыноў і генералаў. А туды, як было зразумела, людзі павінны былі ўвайсці правераныя, мужныя, настойлівыя. Да іх, па прызнанні бальшыні вязняў, адносіўся і Рыгор Клімовіч.

Да камісіі, якая павінна была весці перамовы з бунтаўшчыкамі, былі далучаны кіраўнікі ўсіх лагераў і турмаў, пракуроры і іх намеснікі, следчыя, і невядома хто яшчэ – спіс быў шырокі, на некалькі старонак.

Была створана і вялікая група перамоўшчыкаў, у якую быў і ўключаны гамяльчанін Клімовіч.

А за тры гады да гэтага, у газеце “Советская Белоруссия” з’явіўся артыкул карэспандэнта гэтай газеты, які ў Маскве ўзяў інтэрвью ў унука таго чалавека, пра якога пісаў Маякоўскі “Таварышу Неттэ – параходу і чалавеку”. А ў размове нечакана ўзнікла прозвішча Клімовіч, з якім сустракаўся ў лагеры дзед. І ён апавядаў журналісту, што дзед такую даваў характарыстыку беларусу Клімовічу: “Дзёрзскі, настойлівы, апантаны, які верыў у сваё прадвызначэнне… Мы, старэйшыя за яго, падпарадкоўваліся яму, слухаліся яго, бо ён цвёрда стаяў на сваіх пазіцыях, не цярпеў здзелак з сумленнем, апантана і смела крочыў наперад. А мы ўжо ішлі смела за ім, бо ведалі і верылі: ён не падвядзе… Ён хадзіў, так бы мовіць, па лязы брытвы – паміж смерцю і жыццём, і тое ўсе бачылі”.

У газеце нават здымак змясцілі – мой бацька і таварыш Неттэ. Я глядзеў на той здымак і вачам сваім не верыў – мой бацька з такім легендарным чалавекам!

*Даведка: калі пачаўся штурм войскамі Міністэрства ўнутраных справаў захопленых вязнямі лагерных зонаў, салдаты і афіцэры палівалі паўстанцаў свінцом з кулямётаў і аўтаматаў. У паўстанцаў была толькі адна зброя – камяні. Паводле афіцыйных дакументаў агульная колькасць загінулых склала каля двухсот чалавек. А па падліках паўстанцаў пад кулямі савецкіх забойцаў загінула звыш адной тысячы чалавек…*

Пра тыя падзеі пазней раскажа і Тэадор Неттэ, пацвердзіць: нас адстрэльвалі як сабакаў, як не людзей…

Зразумела, што закалот быў задушаны. А тысячы паўстанцаў засталіся ляжаць, акрываўленыя, на тэрыторыі лагера. Усе, хто застаўся ў жывых, былі нахмураныя і злыя, у кожнага кіпела ў грудзях помста, але помсту тую наладзіць ці арганізаваць пакуль што не маглі.

Праз прызму вачэй бацькі я ўяўляю тую трагічную экзастэнцыяльную сцэну. Такую я яшчэ не бачыў ні ў адным фільме пра сталінскіх катаў і іх ахвяраў. Тысячы вязняў, павольна і стомлена перастаўляючы ногі, схіліўшы галовы ў траўрным развітанні са сваімі таварышамі і сябрамі, сунуцца як здані наперад, ідуць невядома куды, у які свет, і не ведаюць, ці застанецца хто з іх жывы і хто дойдзе да намечанай мэты… Іх прапускалі праз вароты, з абодвух бакоў аўчаркі і канваіры, брэх злых сабакаў, натрэніраваных па першай камандзе ўпіцца вострымі клыкамі ў целы вязняў, – а паўстанцы гучна маўчалі і, здаецца, толькі зямля чула, як б'юцца іх сэрцы, як кіпіць іх гнеў…

Куды вялі? У тундру. У балота.

Першым, хто выйшаў за вароты лагераў, адразу загадалі стаць на калені і схіліць галовы, хаця яны і так схілілі іх у маўклівым пратэсце.

А вязні ішлі ішлі адзін за адным, і можа то і не людзі ішлі, а шэрая пагрозлівая хмара, якая абяцала не толькі дождж, а навальніцы і грамы, перуны і маланкі, – і, здавалася, таму патоку людзей і канца не будзе.

– На колени, гады, враги Советской власти! На колени!

І ўжо, здавалася, усім не хапіла месца, ушчыльную стаялі адзін каля аднаго, і канваіры заводзілі людзей далей, дзе было прасторна, дзе месца хапала ўсім. Тундра гатовая была прыняць усіх вязняў, што вялі канваіры на закланне…

– Мы вас научим, как Родину любить, отучим заодно от разных протестов и забастовок. Так будете стоять сутками, пока все не попадаете мёртвыми…

І ў такт сказаных слоў падалі голас аўчаркі, ашчэрыліся, гатовыя былі кінуцца на тых, хто маўкліва стаяў на каленях у балотнай твані. Стаяў разам са сваімі сябрамі і бацька, перадаваў іншым каманду, якая пераскоквала ад аднаго да другога паўстанца: "Цярпець, цярпець, цярпець…"

А нічога не заставалася і рабіць, цярпелі і да гэтага, не ведаючы, што іх чакае. Не ведалі і тут, што з імі адбудзецца. Але кожны з іх ведаў, што ім, сталінскім памагатым, нічога не будзе за тое, калі яны пакладуць тысячы нескароных жыццяў, – ніхто і не ўспомніць, якая трагедыя адбылася ў тундры побач з Нарыльскам. Яны і так былі мёртвыя, бо ім не дазвалялася ні гаварыць, ні ўставаць, ні змагацца…

Але нешта адбылося. Ці то ў небе, ці ў душах тых жа душагубаў.

Не грымнуў пярун за аблокамі, не бліснула маланка ў небе, не перакуліўся свет, але...

Прастаялі вязні маўкліва так і гадзіну, і дзве, і тры... На пятую гадзіну нехта не вытрымаў, паваліўся. Нехта ад стомы, а нехта, не вытрымаўшы здзекаў, адышоў у іншы свет. Самыя моцныя і стойкія маўчалі і, гледзячы перад сабою ці то ў балотную твань, ці ў неба, – думалі пра нешта сваё.

І як па загадзе замоўклі аўчаркі, селі на заднія лапы, глядзелі ўжо безуважна на паўстанцаў. І як па загадзе замоўклі канваіры, апусціўшы рулі долу. І як па загадзе паўстанцы, не зразумеўшы, што адбылося ў свеце, пераглянуліся адзін з адным, задалі адзін аднаму роспачнае і недаўменнае пытанне: “Чаму ціха вакол? Дзе мы знаходзімся?..”

Нейкі ўздых ці выдых пракаціўся па балоце, па тундры, – то кружыліся над людзьмі груганы, а то як хто загадаў ім знікнуць, і яны паляцелі прэч; паўстанцы размаўлялі адзін з адным, а не чулася строга воклічу, каб замоўклі; нехта нават устаў і агледзеўся вакол, не паверыўшы, што да іх зноў вярнулася чалавечая годнасць…

І праз нейкі час прагучэла новая, але не такая злосная і патрабавальная каманда, як раней:

– Встать всем! Вста-аать!

Але шмат хто і ўстаць не мог, так заляклі ногі і спіна здранвела, – і тады ім на дапамогу прыйшлі тыя, хто вытрымаў годна тую экзекуцыю, ухапілі пад пашкі і паставілі на ногі.

Іх зноў пашыхтавалі ў разбродную калону, зноў з абодвух бакоў канваіры і аўчаркі. Але маўчалі ўжо і паўстанцы і тыя, хто вёў іх. І дзіўна было чуць тое маўчанне. Быццам усе аглухлі ці ва ўсіх здранцвеў язык.

Іх вялі, зноў моўчкі вялі. Куды? Да Енісея. Туды, дзе стаялі баржы. Але ведалі паўстанцы і пра тое, што канваіры, запіхнуўшы ў трумы людзей, пусціўшы плыць па цячэнні баржы, тапілі тыя баржы на сярэдзіне ракі, – і канцы, так бы мовіць, заставаліся ў вадзе. Нехта прапанаваў з калоны шэптам, што іх вядуць на смерць і таму лепш загінуць ад кулі чым захліпнуцца ў Енісеі. І зноў тая ж каманда птушкай пералятала ад аднаго да другога – маўчаць! Ніхто не ведаў, хто падаваў яе, як і не ведаў, чым тое магло скончыцца…

Іх давялі да баржаў. Пагрузілі на некалькі плавучых сродкаў.

Але дарэмна гарлагаўцы хваляваліся – іх не запіхвалі ў трумы, над імі ўвогуле перасталі здзеквацца, неяк прыцішэлі канваіры, а аўчаркі і ўвогуле змоўклі.

Ды яшчэ і другая неспадзяванка – іх баржы не пусцілі па  цячэнні, а наадварот, невялічкія буксіры пацягнулі іх вышэй па цячэнні. І ўсялілася ў душы закалотаўцаў незразумелая радасць і прадчуванне нечага светлага наперадзе.

Падсеў да бацькі украінец Паўло, непрымірымы антысаветчык, спытаў, ужо не шэптам, у Клімовіча:

– Рыгор, што б тое азначала? Ніколі не везлі ўверх, а тут…
– Думаю, што добрае нас чакае. У цябе няма хоць кавалачка паперы?
– Ёсць, а навошта табе?
– Трэба…

Сябар разарваў каўнер сваёй світкі, дастаў адтуль згорнутую ў трубачку паперу са школьнага сшытка.

Адышоўшы ў цішэйшае месца, паўстанец Рыгор Клімовіч напісаў першы радок – загаловак “Гімн нарыльскіх паўстанцаў”. Напісаў, паглядзеў у неба, быццам прасіў дабраслаўлення ў нябёсаў і ў Вышняга, прадоўжыў:

***Гимн норильских повстанцев ****

Не страшны нам тиранства большевизма,
Мы знали горе свыше всяких мер.
Известны нам все ужасы чекизма
И плач людей на землях СССР.

Познали мы застенки заключенья
И лагеря, где каждый жертвой был.
Расстрел безвинных в зоне оцепленья
Ответным воплем тундру разбудил.

Мы заявили всей орде кремлевской
Святой протест насилию и злу.
И чёрный флаг с кровавою полоской
Псов на цепь взять приказывал Кремлю.

Мы встали рядом брат около брата
За право жить без тюрем и цепей.
Напрасно смерть дышала с автоматов
И псы рычали в ярости своей.

Нас не сломить рукой раба-солдата
Свободы клич сгибает сталь штыков.
И не сдержать кровавым водопадом
Растущий гнев антибольшевиков.

В крови зэка омылась наша слава
В режимных зонах Горных лагерей.
Из тьмы встает свободная держава.
Огни Норильска не погаснут в ней.

Дыханье жертв Комиссии московской
Мы возродим, напомнив о себе,
И чёрный флаг с кровавою полоской
Нам путь осветит в праведной борьбе.

*1953 год*

** Гимн написан в барже, в которой (следуя по р. Енисей из Норильска в Красноярск), этапировали 1500 человек – активных участников Норильского восстания. Мелодией гимна является мелодия песни УПА (Украинской Повстанческой Армии) „Мов той олень, що загнан в болото».*

*В то время, когда писался этот гимн, мелодию эту напел автору Василь Николишин, ныне проживающий в гор. Стрий Львовской обл.*

*Впервые гимн был официально исполнен в 1991 году в Киеве на первом международном конгрессе узников ГУЛАГа, а потом в 1992 году в Москве на первой международной конференции „Сопротивление в ГУЛАГе».*

*Гимн переведен на украинский, польский, немецкий, литовский языки. Печатался в украинском еженедельнике «Нескорен!» (Львов, 1991), в журнале «Воля» (Москва, 1993), в польском журнале «KARTA» (Варшава, 1994), в ФРГ и Литве.*

На зэка, які сядзеў трошкі збоч ад усіх, ніхто не звяртаў увагі. Нават канваіры не прыдалі таму ніякага значэння – піша, ну і няхай піша, можа ліст каму – маці ці дзяўчыне…

Напісаў, скончыў, уздыхнуў, паглядзеў на сваіх сяброў. На твары бацькі задаволеная ўсмешка.

– Што напісаў, дружа? – спытаў Васіль Нікалішын, сеўшы бліжэй да яго.

– Гімн напісаў, – адказаў бацька. – Наш гімн – гімн паўстанцаў.

– Прачытаеш усім?

– Прачытаю.

Тады Нікалішын залез на высокае месца, агледзеў усіх, прамовіў:

– Сябры мае! Толькі што ў нашага паэта беларуса нарадзіўся гімн паўстанцаў. Аўтар прачытае яго.

– Чытай, Рыгор! Слухаем цябе, – панеслася з усіх канцоў, – чытай!

Дзіўна, але ахоўнік адвярнуўся ад усіх, спусціўся па прыступках уніз, як быццам не хацеў перашкаджаць радаснаму моманту вязняў.

Васіль уступіў месца свайму сябру. І ціха стала на баржы. Ніхто не вымавіў і слова, усе глядзелі на аўтара гімна, чакалі.

Ён, хвалюючыся, але ўзяўшы сябе ў рукі, што было моцы ў голасе, пачаў чытаць:

*Не страшны нам тиранства большевизма,*
*Мы знали горе свыше всяких мер…*

Калі скончыў, паглядзеў на сваіх сяброў. Яны як бы на пачатку і не зразумелі пачутых слоў, бо за ўсе часы адсідкі яны нічога падобнага не чулі, і тыя смелыя словы яны пачулі ўпершыню, і былі яны як гром з яснага неба… І секунда, і дзесяць суцэльнага маўчання, асэнсаванне і разуменне, а потым бура, грымнуў шквал апладысментаў, – і ўсе паўставалі са сваіх месцаў, стаялі і пляскалі ў далоні, не могучы вымавіць і слова…

– Гімн! У нас ёсць свой гімн! – нехта выгукнуў з грамады. – Ура! Дзякуй, Рыгор!

Бацька як бы пераступіў парог новага часу, новага ўсведамлення. Яму было важна, каб у ім прызналі паэта, паэта нявольнікаў, паэта Нарыльскага супраціву. Ён усю дарогу маўчаў, занурыўшыся ў сябе. Да яго падыходзіў ахоўнік, хацеў пра нешта спытаць ці пацікавіцца, але ўбачыўшы нахмураныя твары яго сяброў, якія былі гатовы кінуцца на абарону свайго паэта, які паставіў усіх пад адзін штандар – гімн, – адышоў, нічога не сказаўшы.

…Праз нейкі час прыбылі ў Краснаярск. Цікавая, дарэчы, гісторыя, пра якую апавядаў мне бацька. І – павучальная. Аповед пра тое, як яго прымалі. Цяжка ў тое паверыць, але факт такі быў, бацька нагаворваць на сябе ніколі не меў звычкі, хутчэй наадварот, прамаўчыць, а тут…

Заходзіць Рыгор Клімовіч у турэмную камеру.

Як толькі пераступіў парог, усе зэкі паўставалі са сваіх месцаў, а калі хто ляжаў на нарах – хворы ці “балду ганяў”, – борздзенька спаўзлі і паглядалі здзіўлена на новенькага. Не меней здзіўлены быў і ён, паўстанец з Нарыльску. Не адчуваў і не прадчуваў таго, што гэтым яны выказалі такім чынам гонар да яго, так віталі яго. Ніколі ж не было, каб яго хто-небудзь паважаў ці прывітаў, тым больш у турме, акрамя сяброў.

Яны маўчалі тады, калі ён ступіў наперад, маўчалі тады, калі ён падышоў да сваіх нараў, – а яны знаходзіліся ў самым лепшым месцы – каля акна з правага боку, маўчалі, калі ён стомлена сеў на ложак і выдыхнуў з сябе паветра. Збольшага ачомаўшыся, дакрануўся рукой да дзверцаў тумбачкі, расчыніў іх.

Тое, што ён убачыў у тумбачцы, здзівіла і агаломшыла: на палічцы ляжалі кавалкі хлеба і сала, цэлая горка, а побач некалькі пачак цыгарэт “Беламор-канал”. Да яго аніяк не даходзіла, што такое адбываецца на яго вачах. Паглядзеў на сукамернікаў. Яны па-ранейшаму стаялі ў той жа маўклівай паставе, і па іх выразах твару нельга было нічога прачытаць.

– Гэта мне? – спытаў бацька.

Самы старэйшы з іх, ступіўшы наперад, прамовіў:

– Так, гэта для кіраўніка Нарыльскага паўстання і аўтару гімна паўстанцаў Рыгору Клімовічу.

Тое яшчэ больш здзівіла: адкуль ведаюць, хто ён, прозвішча і што ён адзін з кіраўнікоў паўстання?

Гэта потым яму растлумачылі, што калі ён яшчэ не ступіў на бераг Краснаярска, па зэкаўскай пошце паляцела тэлеграма-маланка, што ў камеру турмы прыбудзе вельмі паважаны чалавек – беларус Клімовіч.

– Так, мусіць, не сустракалі “вора ў законе”, – смеючыся, распавядаў мне пра той выпадак бацька, – як караля якога сустракалі, наладзіўшы мне такі нечаканы зэкаўскі прыём. Хаця харчы прызначаліся толькі мне, але я ўсё раздзяліў па-брацку. Спачатку сукамернікі наадрэз адмаўляліся ад майго пачастунка, а потым пагадзіліся. І быў я сярод іх, ды і не толькі сярод іх, а і сярод зэкаў усёй турмы найпаважанейшым чалавекам…

А пасля… А пасля яго перавялі ва Ўладзімерскі Цэнтрал.

Там ён праседзеў апошнія тры гады. Гэта фактычна і не турма была зусім, але ж і не санаторый, так бы мовіць. Там ужо не было крымінальнікаў і тых, хто “чаліўся” па 58-м артыкуле. З ім сядзелі знакамітыя людзі.

Напрыклад, сядзеў з ім прафесар гісторыі Шэйка-Сахноўскі (Шыфер-Сасноўскі) з Украіны, іншыя вядомыя людзі.

Чым адметны быў той Цэнтрал? Там дазвалялася раз на месяц скласці спіс кніг, якія ты хочаш прачытаць. Унікальная, трэба сказаць, з’ява. І бібліятэка была унікальная. Нідзе такой не было, мо і ва ўсім Савецкім Саюзе. Яна складалася з тых кніг, якія былі адабраны ў навуковых людзей, у паэтаў і кампазітараў, выкладчыкаў вышэйшых навучальных устаноў – і іншых, якія мелі дома багатую бібліятэку.

Што замаўляў сабе бацька? Чатырохтомнік па гісторыі Рыма. Такіх кніг у бібліятэках не было. Сямітомнік па Гісторыі старажытнай літаратуры, Ключэўскі, Салаўёў… Бацька праглынаў тыя кнігі за некалькі начэй. Больш таго, канспектаваў усё тое, рабіў процьму выпісак.

Прафесар Сахноўскі чытаў лекцыі па гісторыі казацкага руху, чытаў там, у Цэнтрале. Яго з цікавасцю слухалі не толькі зняволеныя, а і тыя, хто іх ахоўваў.

Ён, як згаладалы воўк накінуўся на сваю здабычу, ён ніяк не мог наталіць свой духоўны голад: гэта былі яго ўніверсітэты і інстытуты, акадэміі і тэхнікумы…

І адтуль, з Цэнтрала, ён атрымаў вольную.

Новым чалавекам ён вяртаўся ў свой родны Гомель. У сацыяльным статусе гэта была поўная дэградацыя. Як зразумець? Проста. Там, у Цэнтрале, ён быў паважаны чалавек, да яго адносіліся апошнія два гады начальства і адміністрацыя як да чалавека, які заявіў пра сябе, і калі яму чынілі нейкія крыўды, то тое было б вядома сярод зэкаў усіх рангаў – і

яны кінуліся б на выручку ці дапамогу. Акрамя таго, што ён аўтар славутага Гімна паўстанцаў, дык ён яшчэ і адзін з кіраўнікоў Нарыльскага паўстання 1953 года.

Адзінага кіраўніка не было. Бо гэта дыктавала канспірацыя. У кіраўніцтва ўваходзіла некалькі чалавек, ды і тыя пад псеўданімамі, і пра тое ведала невялікае кола людзей. Але ж і існавала "пільнае вока", сачыла за падзеямі. І ім жа, мусіць, паступіла каманда "з верху" не спускаць вока з антысаветчыка Рыгора Клімовіча.

І ён стаў адзін на адзін са сваімі праблемамі. Яго абклалі як ваўка, расцягнуўшы свае расцяжкі з чырвонымі сцяжкамі, – як быццам тыя чырвонапагоннікі сарвалі свае пятліцы з кіцеляў і прымацавалі на тыя шнуры, якія замацавалі не толькі вакол яго хаты, а і вакол Гомеля…

Каб неяк пражыць, трэба грошы. А каб мець грошы, трэба працаваць. А яго з "воўчым білетам" нікуды не бралі на працу. З вялікімі цяжкасцямі ўдалося ўладкавацца на вагона-рамонтны завод. Першы заробак – трыццаць рублёў, траячка на новыя сталінскія грошы.

Пайшоў у падсобныя рабочыя, дзе плацілі трошкі больш. Неяк прабіўся "на павышэнне". Дайшоў да сярэдняй кіраўнічай пасады. А каб вышэй дабівацца вяршыняў, то трэба было ўступаць у партыю, – а хто дасць рэкамендацыю былому антысаветчыку? Але што хочацца сказаць. Дзе б ён ні працаваў, сярод якіх людзей ні знаходзіўся, яму заўсёды ўдавалася заваяваць сярод людзей найвышэйшы аўтарытэт. У гэтым быў яго вялікі талент.

Калі ж нехта з апазіцыйных дзеячоў не мог знайсці агульнай мовы з уладамі, то яму тое заўсёды ўдавалася лёгка і без праблемаў.

Перайшоў працаваць на цукерачную фабрыку "Спартак". Грузчыкі, а яны ў асноўным былыя зэкі, пачалі да яго звяртацца, прасілі дапамогі разабрацца ў пытанні аплаты іх працы ці ў іншых праблемах, з якімі сутыкнуліся. Тады бацька забіраў іх у сваю брыгаду. Амаль усіх зэкаў сабраў, і з імі яму было весялей працаваць. Ён ведаў, як з імі працаваць, каб яго не падвялі.

Прыязджае "асабіст" цікавіцца працай брыгады. Пытаецца, ці ёсць факты крадзяжу? Адказвае, што няма. "Як – няма?" – здзіўляецца правяраючы. І не паверыў нават, што такое можа быць. Раней нехта спрабаваў вынесці карабок цукерак за тэрыторыю фабрыкі, дык на яго наляцела ўся брыгада, ледзьве не з кулакамі на таго накінуліся: "Ты што Сяргеевіча паліш?" Ніхто не падвёў Рыгора Сяргеевіча. Вось што значыць, мець вопыт размаўляць з "былымі" – ніводнага разу яго не падвялі.

Аўтарытэт Клімовіча быў непахісны. Ніколі не гнуўся перад начальствам, а калі ўступаў у нейкую спрэчку, заўсёды перамагаў.

У тыя часы партыйную арганізацыю Беларусі ўзначальвалі К.Т. Мазураў, П.М. Машэраў, Савет Міністраў – Ц.Я. Кісялёў, Вярхоўны Савет – С.В. Прытыцкі, Ф.А. Сурганаў.

Фёдар Сурганаў… Нарадзіўся ў вёсцы Суднікі Віцебскага павета 7 чэрвеня 1911 года. Падчас вучобы ў 1937 годзе на яго быў зроблены данос. Арыштавалі. Але заступіліся сябры і Сурганаў не быў рэпрэсаваны.

Пасля вайны Фёдар Анісімавіч ў партыйным і савецкім апараце.

У 1956-1959 гадах і з 1962-га па 1965-ты працаваў сакратаром Цэнтральнага камітэта Камуністычнай партыі Беларусі, у 1959-1962 і ў 1965-1971 гадах быў на пасадзе другога сакратара ЦК КПБ.

Дык вось… У той самы час, калі бацька працаваў на "салодкай фабрыцы", і з'явіўся туды Фёдар Анісімавіч. Гэта быў недзе 1961 ці 1962 год. Разам з дырэктарам ходзяць па тэрыторыі, госць цікавіцца, як ідзе праца на прадпрыемстве. І тут нейкая замінка з транспартам, не прыехала своечасова машына. Тады Рыгор Клімовіч, убачыўшы, што дырэктар ходзіць непадалёку ад брыгады, адразу і пакіраваў да яго. Ды і пачаў, не звяртаючы ўвагі на тое, што той размаўляў з нейкім невядомым чалавекам, адразу пачаў з прэтэнзій – чаму няма транспарту, было абяцана, што ніякіх затрымак не будзе.

Дырэктар сумеўся, не ведаў, як паводзіць сябе ў гэтай сітуацыі перад сакратаром ЦК, толькі сказаў:

– Рыгор Сяргеевіч, я разбяруся. Затрымак больш не будзе.

Бацька адышоў ад іх, прыйшоў да рабочых і пачалі чакаць тую машыну.

І тады Сурганаў пацікавіўся ў дырэктара:

– А хто гэта такі смелы чалавек?

– Былы рэпрэсаваны – Рыгор Клімовіч. Удзельнічаў у Нарыльскім паўстанні 53-га года. Кіраваў ім. Адседзеў дваццаць пяць год.

– Пагаварыць з ім хачу.

Бацька ніколі не адводзіў вачэй ад субяседніка. Любіў размаўляць вочы ў вочы. Гэта сёння кіраўнік дзяржавы збірае міністраў і іншых чыноўнікаў для размовы і ніхто яму не глядзіць у вочы, – усе глядзяць у свае нататнікі, робяць выгляд, што нешта пішуць, пішуць як бы пад дыктоўку, і ніхто не запярэчыць, ніхто слова ў размову не ўставіць… А тады…

Дырэктар падышоў да брыгадзіра Клімовіча, прамовіў:

– З табой хоча пагаварыць сакратар ЦК партыі Фёдар Сурганаў, – і папрасіў ціха: – Толькі ты ўжо там не нагавары чаго лішняга…

Бацька падышоў да  сакратара, і той падаў яму руку, назваўся.

Яны глядзелі адзін аднаму ў вочы. Фёдар Анісімавіч задаваў яму пытанні, а субяседнік адказваў. Яны ўпіваліся адзін у аднаго позіркам, быццам выпрабоўвалі адзін аднаго. І гаварылі, гаварылі… Праз колькі хвілінаў яны паразумеліся і гаварылі ўжо як даўнія знаёмыя. Бацька не пераказваў падрабязна, пра што ішла гаворка, але размовай застаўся задаволеным. У Сурганаве ён убачыў чалавека, а не чыноўніка і сакратара.

У сваю чаргу Фёдар Анісімавіч убачыў у ім чалавека, якога не зламала жыццё, а наадварот, загартавала. Бо ён любіў мужных людзей і ставіўся да іх з павагай.

